УДК 930.25(476)(058)
ББК 79.3(4Бел)я5
Б43



*Рэкамендаваны да друку бюро Археаграфічнай камісіі і Вучоным саветам БелНДІДАС*

Б43 Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 1. / Рэд. кал.: Р.П.Платонаў (гал. рэд.) і інш. — Мн.: БелНДІДАС, 2000 — 266 с.

У першым выпуску «Беларускага археаграфічнага штогодніка» друкуюцца артыкулы па археаграфіі, архівазнаўству і архіўнай справе, крыніцазнаўству і спецыяльных гістарычных навуках, тэксталогіі, гісторыі дзяржаўных устаноў. Змешчаны таксама агляды архіўных фондаў, шэраг дакументаў па пытаннях палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай гісторыі Беларусі. Друкуюцца бібліяграфія, рэцэнзіі, хроніка.

УДК 930.25(476)(058)
ББК 79.3(4Бел)я5

## АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ

Выпуск «Беларускага археаграфічнага штогодніка» за 2000 год, які прапануецца чытачу, падрыхтаваны Археаграфічнай камісіяй Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь і Беларускім навукова-даследчым інстытутам дакументазнаўства і архіўнай справы. Гэта першае такое выданне ў Беларусі.

У Расіі «Археографический ежегодник» быў заснаваны яшчэ ў 1957 г. Ён выдаецца Археаграфічнай камісіяй аддзялення гісторыі Расійскай акадэміі навук і Дзяржаўнай архіўнай службай Расійскай Федэрацыі. Штогоднік друкуецца на высакаякаснай паперы, добра афармляецца і выходзіць у цвёрдай вокладцы дастаткова вялікім па цяперашнім часе тыражом. На Украіне з 1992 г. выпускаецца таксама ў цвёрдай вокладцы і значным тыражом «Український археографічний щорічник» як орган Археаграфічнай камісіі і Інстытута украінскай археаграфіі і крыніцазнаўства Акадэміі навук Украіны. Штогоднік з'яўляецца працягам «Украінскага археаграфічнага зборніка», што выходзіў у Кіеве ў 1926–1930 гг. Спробы беларускіх архівістаў па прыкладу расійскіх і ўкраінскіх калег стварыць свой архіўна-археаграфічны часопіс пад назвай «Архіў Савецкай Беларусі» скончыліся няўдачай. Замест яго быў падрыхтаваны ў ратапрынтным варыянце «Бюллетень ЦАУ БССР», адзіны нумар якога за ліпень 1933 г. са штампам Галоўліта захаваўся ў фондзе Галоўархіва рэспублікі. І толькі са студзеня 1999 г. у Беларусі Дзяржаўным камітэтам па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Беларускім навукова-даследчым інстытутам дакументазнаўства і архіўнай справы быў заснаваны навукова-практычны часопіс «Архівы і справаводства», які выдаецца пры садзейнічанні Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі. На яго старонках друкуюцца і археаграфічныя матэрыялы, хоць накіраванасць часопіса іншая.

Адсутнасць вопыту і традыцый выпуску спецыялізаваных археаграфічных выданняў, востры недахоп спецыялістаў, якія прафесійна займаюцца археаграфічнай працай, фінансавыя, тэхнічныя і арганізацыйныя цяжкасці абумовілі неабходнасць аб'яднаць у выданні «Беларускага

археаграфічнага штогодніка» намаганні створанай у кастрычніку 1999 г. Археаграфічнай камісіі Дзяржкамархіва РБ і БелНДІДАС. Адсюль больш шырокая, чым традыцыйна археаграфічная, тэматыка штогодніка. Паводле пастановы калегіі Дзяржкамархіва РБ ад 27 студзеня 2000 г., прынятай па прапанове бюро Археаграфічнай камісіі і дырэкцыі БелНДІДАС, яго тэматычная структура будзе ўключаць:

— навуковыя артыкулы і паведамленні па праблемах тэорыі, гісторыі, методыкі археаграфіі, архівазнаўства, дакументазнаўства і крыніцазнаўства;

— агляды і апісанні архіўных фондаў і калекцый гістарычных дакументаў;

— публікацыі дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь;

— матэрыялы з гісторыі дзяржаўных устаноў, палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў;

— матэрыялы па краязнаўству;

— артыкулы, матэрыялы па аўтаматызаваных архіўных тэхналогіях і электроннай дакументацыі;

— інфармацыю аб архівазнаўстве за мяжой;

— бібліяграфію, рэцэнзіі, хроніку, юбілеі.

Рэдакцыйная калегія палічыла неабходным адкрыць першы выпуск «Беларускага археаграфічнага штогодніка» публікацыяй афіцыйных пастаноў калегіі Дзяржкамархіва РБ па арганізацыі і ўдасканаленні археаграфічнай працы ў архіўнай галіне, прынятых у кастрычніку 1999 — студзені 2000 г. Размова перш за ўсё ідзе аб аднаўленні перапыненых у сярэдзіне 1930-х гадоў традыцый арганізацыі гэтай працы праз стварэнне Археаграфічнай камісіі.

У другой палове 1920-х гадоў у Беларусі функцыянавала Археаграфічная камісія. Яна ўваходзіла ў сістэму ўстаноў Інстытута беларускай культуры і прызначалася для падрыхтоўкі і выдання кніг «Беларускага архіва». Пытанне аб аднаўленні Археаграфічнай камісіі як адной з умоў развіцця ў рэспубліцы археаграфічнай традыцыі, форме арганізацыі археаграфічнай працы ставілася беларускімі гісторыкамі, археографамі, архівістамі на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду. Аднак разумення важнасці яго і адпаведнага вырашэння ў дзяржаўных структурах, якія кіруюць развіццём навукі, яно не знаходзіла. Ініцыятыву давялося ўзяць на сябе Дзяржаўнаму камітэту па архівах і справаводству РБ і Беларускаму навукова-даследчаму інстытуту дакументазнаўства і архіўнай справы, нягледзячы на іх абмежаваныя фінансавыя і кадравыя магчымасці. БелНДІДАС стаў для камісіі базавым.

Сказанае вышэй, зразумела, не азначае, што ў мінулыя гады археаграфічная праца ў рэспубліцы не вялася. Ёю займаліся адпаведныя інстытуты НАНБ, кафедры Белдзяржуніверсітэта, найбольш буйныя дзяржаўныя архівы. Друкаваліся зборнікі дакументаў, хоць па розных прычынах, у тым ліку залішняй палітызаванасці і ідэалагізаванасці, іх навуковы ўзровень быў у многіх выпадках слабы. Аднак па навуковай распрацоўцы пытанняў тэорыі, гісторыі ды і методыкі археаграфіі мы адстаём ад нашых суседзяў.

Пастанова калегіі Дзяржкамархіва РБ ад 28 кастрычніка 1999 г. аб стварэнні Археаграфічнай камісіі, якая друкуецца першай, стала лагічным завяршэннем цэлага шэрагу падрыхтоўчых мерапрыемстваў, праведзеных Дзяржкамархівам і БелНДІДАС у другой палове 1990-х гадоў.

Перш за ўсё была арганізавана серыя міжнародных навуковых канферэнцый, на якіх праводзіўся аналіз стану і перспектыў развіцця ў рэспубліцы архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфіі. У праграме кожнай з іх археаграфічны аспект займаў вялікае месца. У час канферэнцый працавалі археаграфічныя секцыі. Наглядна гэта можна бачыць на прыкладзе дакладаў і выступленняў на навуковай канферэнцыі, прысвечанай 90-м угодкам беларускага гісторыка, археографа М.М.Улашчыка (люты 1996 г.). Гэты вядомы вучоны неаднаразова ўзнімаў пытанне аб важнасці аднаўлення ў Беларусі правераных гістарычным вопытам формаў арганізацыі археаграфічнай працы. Абмеркаванне асаблівасцей развіцця і сучаснага стану беларускай археаграфіі прайшло на старонках часопіса «Архівы і справаводства», пачынаючы з яго першага нумара. У публікацыях праводзілася думка аб пераемнасці развіцця беларускай археаграфіі: ад выпуску ў 1824 г. у Маскве беларускім археографам, гісторыкам і краязнаўцам І.І.Грыгаровічам 1-га тома «Белорусского архива древних грамот» да выдання Археаграфічнай камісіяй Інбелкульта ў 1927–1930 гг. пад кіраўніцтвам вядомых беларускіх вучоных М.В.Доўнар-Запольскага і Дз.І.Даўгялы трох тамоў «Беларускага архіва». Асаблівая ўвага была нададзена аналізу працы Віленскай археаграфічнай камісіі (1864–1915) і Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (1909–1919), а таксама Археаграфічнай камісіі Інбелкульта (другая палова 1920-х гадоў). Нарэшце, БелНДІДАС, НАРБ пры падтрымцы Дзяржкамархіва РБ выдалі некалькі дакументальных зборнікаў. Іх можна разглядаць як падыход да планамернай публікацыі дакументаў НАФБ.

Паводле Палажэння, зацверджанага пастановай калегіі Дзяржкамархіва РБ 27 студзеня 2000 г., Археаграфічная камісія з’яўляецца ведамасным каардынацыйным, навукова-метадычным і публікатарскім цэнтрам у галіне

археаграфіі, які закліканы абслугоўваць перш за ўсё архіўныя ўстановы. Гэта, аднак, не азначае, што ствараецца адасобленае ўтварэнне. Наадварот. Падкрэслім, што ў склад 54 членаў Археаграфічнай камісіі (персанальны склад друкуецца), акрамя супрацоўнікаў дзяржаўных архіваў і навуковых цэнтраў архіўнай галіны, уваходзяць вучоныя НАНБ, выкладчыкі ВНУ рэспублікі, работнікі шэрагу дзяржаўных устаноў, навуковых часопісаў, музеяў, Нацыянальнай бібліятэкі, грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд культуры». Усяго ў камісіі 13 дактароў і 21 кандыдат навук.

Адным са шляхоў аб'яднання археографаў рэспублікі і прыцягнення іх да працы ў камісіі павінна стаць і выданне «Беларускага археаграфічнага штогодніка». Тэматычная структура штогодніка распрацоўвалася з такім разлікам, каб на яго старонках з навуковымі артыкуламі маглі выступаць вучоныя не толькі архіўнай галіны, але і ўсе, хто так ці інакш звязаны з археаграфічнай навукай і практыкай.

Названыя вышэй акалічнасці дазволяць пашырыць прызначэнне Археаграфічнай камісіі, кола задач, што вырашаюцца ёю. Гэта важна, бо адным з галоўных напрамкаў дзейнасці Камісіі з'яўляецца распрацоўка разам з архіўнымі ўстановамі і зацікаўленымі навуковымі інстытутамі і арганізацыямі Праграмы публікацыі дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду рэспублікі (умоўна: «Беларусь у архіўных крыніцах»). Наўрад ці патрэбна ва ўмовах сённяшняй незалежнай Беларусі даводзіць, што без увядзення ў навуковы ўжытак важнейшых дакументаў гэтага комплексу нельга весці эфектыўную навуковую распрацоўку з улікам новых рэалій гісторыі рэспублікі, што навуковае вывучэнне і выданне нацыянальнай дакументальнай спадчыны мае вялікае значэнне для развіцця ўсіх гуманітарных навук і эфектыўнага выканання імі сваіх функцый. У любой дзяржаве архіўная справа і ўсё, што з ёю звязана, у тым ліку археаграфія, з'яўляецца тым пунктам, на якім грунтуецца заканадаўчая дзейнасць. Адсюль важнасць абнародавання багатага вопыту, што назапашаны ў старажытных архівах, з улікам якога выпрацоўваліся і фармуляваліся законы. Архіўныя дакументы — неад'емная частка вучэбнай і выхаваўчай працы ва універсітэтах і агульнаадукацыйных школах.

Стварэнне навукова абгрунтаванай, рэальнай для выканання праграмы публікацыі дакументаў НАФБ — справа і новая, і вельмі працаёмкая. Такога вопыту, як на Украіне, дзе работа над дзяржаўнай праграмай «Архіўная і рукапісная ўкраініка» вядзецца на працягу многіх гадоў спецыяльна створаным акадэмічным Інстытутам украінскай археаграфіі і крыніцазнаўства з удзелам практычна ўсіх колькі-небудзь значных інстытутаў, універсітэтаў, бібліятэк, музеяў, часопісаў, грамадскіх арганізацый краіны, замежных

украінскіх навуковых цэнтраў, у Беларусі няма. Па сутнасці, у нас адсутнічае нават першапачатковая база для распрацоўкі канцэпцыі публікацыі дакументаў НАФБ, для выяўлення недахопаў і вызначэння накірунку ў далейшай публікатарскай працы. Тое, што выдавалася ў апошнія дзесяцігоддзі, тычылася ў асноўным дакументаў і матэрыялаў паслякастрычніцкага перыяду, і вельмі мала крыніц па старажытнай гісторыі Беларусі. У навуковых установах рэспублікі не вядуцца поўныя картатэкі, якія ўлічвалі б усё тое, што публікавалася і публікуецца беларускімі археографамі, а таксама даследчыкамі за мяжой. Адзначым, што развал сістэмы мэтанакіраванай рэгістрацыі новых кніг нанёс удар па ўсіх гуманітарных навуках, у тым ліку і па археаграфіі.

Другая складанасць як у навуковай распрацоўцы, так і ў абнародаванні дакументаў нацыянальнай спадчыны — недахоп, пра што ўжо гаварылася, кваліфікаваных спецыялістаў, якія прафесійна займаліся б распрацоўкай усяго комплексу пытанняў археаграфічнай тэорыі і практыкі. У савецкі час гістарычныя дакументы друкаваліся сумесна архіўнымі і навуковымі ўстановамі (Галоўархіў СМ БССР, інстытуты АН БССР, Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ, рэспубліканскія бібліятэкі, музеі, творчыя саюзы). Да публікатарскай справы праз каардынацыйныя саветы і ўзгадненні выдавецкіх планаў прыцягваліся выкладчыкі гістарычных кафедраў вышэйшых навучальных устаноў. Цяпер жа гэтая складаная і адказная праца ў большасці выпадкаў трымаецца на самаахвярнасці і адданасці справе энтузіястаў-адзіночак.

Ва ўмовах дэстабілізацыі археаграфічнай практыкі і ўстойлівай цікавасці беларускага грамадства да свайго гістарычнага мінулага, зафіксаванага ў гістарычных крыніцах, пры адкрытасці архіваў не выпадковай стала перавага часопісна-газетнай формы публікацыі архіўных крыніц над кніжнымі. Аднак шырокі паток абнародаванай дакументальнай гістарычнай інфармацыі, невядомай да гэтага часу ці малавядомай, не прывёў, як чакалася, да рэканструкцыі цэласнага, дакладнага і аб’ектыўнага малюнка нашага мінулага. Разрыў паміж колькасцю ўведзеных і ўводзімых у грамадскі ўжытак фактаў гісторыі нашага грамадства і іх канцэптуальна-навуковым асэнсаваннем, які ўтварыўся ў пачатку 1990-х гадоў, усё яшчэ застаецца непераадоленым. Ацэнкі важнейшых сацыяльных з’яў усё яшчэ не вызначыліся і часта змяняюць адна другую. У перадачы крыніц дапускаюцца недакладнасці, яўныя скажэнні. Яшчэ горш, калі гэта робіцца пад уплывам кан’юнктурных меркаванняў.

Археаграфічная сітуацыя, якая склалася ў рэспубліцы, не можа быць па-за ўвагай у працы Археаграфічнай камісіі. Адна з яе задач — барацьба за

высокую культуру археаграфічных публікацый, падрыхтоўка адпаведных правіл, рэкамендацый, аглядаў. Праблемамі тэорыі, методыкі сучаснай археаграфіі, асабліва тым, што і як выдаецца, на якім навуковым узроўні, якія матэрыялы карыстаюцца найбольшым попытам з боку грамадскасці, безумоўна, будзе цікавіцца і «Беларускі археаграфічны штогоднік».

І ўсё ж пры ўсіх складанасцях распрацоўкі праграмы публікацыі гістарычных крыніц на шляху яе рэалізацыі ўзнікаюць яшчэ большыя цяжкасці арганізацыйнага і асабліва эканамічнага парадку. Час, калі адабраныя і ўключаныя ў каардынацыйныя і выдавецкія планы зборнікі дакументаў, цэлыя іх серыі абавязкова выдаваліся, застаўся ў мінулым. Археографам даводзіцца пастаянна вырашаць не столькі пытанне аб тым, што друкаваць, колькі пра тое, на якія сродкі друкаваць. Пры фінансавай абмежаванасці архіўнай галіны, дзяржаўных архіваў і навуковых цэнтраў прыходзіцца канстатаваць, што такіх сродкаў не толькі хранічна не хапае, але і наўрад ці трэба ўскладаць аптымістычныя спадзяванні на іх з’яўленне ў бліжэйшым будучым. Спонсарства ў Беларусі колькі-небудзь прыкметнага развіцця не атрымала. Да выкарыстання электронных носьбітаў дакументальнай інфармацыі, пра якія сёння ўсё часцей ідзе гаворка, нашы навуковыя цэнтры, даследчыкі, складальнікі дакументальных выданняў не гатовы ні тэхнічна, ні арганізацыйна, ні псіхалагічна.

Таму і пралежваюць гадамі ў інстытутах і выдавецтвах навуковыя зборнікі дакументаў, рэкамендаваныя вучонымі саветамі да выдання. З’яўленне дакументальных выданняў кніжнага тыпу ўжо на працягу доўгага часу застаецца справай шчаслівага збегу акалічнасцей. Калі ж той ці іншай кнізе ўдаецца ўбачыць свет, то тыраж яе настолькі мізэрны, што яна адразу ж ператвараецца ў бібліяграфічную рэдкасць і трапляе ў бібліятэках на паліцу рэдкай кнігі.

Ва ўмовах, якія склаліся, археографам як ніколі патрэбна дзяржаўная падтрымка. Важна з дапамогаю дзяржаўных органаў знайсці аптымальныя шляхі сканцэнтравання фінанасавых магчымасцей на галоўных накірунках публікацыі багацейшай дакументальнай спадчыны краіны з дакладным выдзяленнем у іх прыярытэтаў, збіраць на іх сродкі з усіх магчымых каналаў і крыніц іх паступлення. Неабходны таксама зацікаўленыя адносіны да публікацыі крыніц па гісторыі Беларусі выдавецкіх арганізацый. Іншымі словамі, цяперашнюю разбалансаваную археаграфічную сітуацыю можна выправіць публікацыяй гістарычных крыніц на дзяржаўнай аснове ў выглядзе навукова распрацаванай дзяржаўнай праграмы.

Мы акрэслілі некаторыя праблемы, задачы, напрамкі дзейнасці Археаграфічнай камісіі Дзяржкамархіва рэспублікі. Яны з’яўляюцца адна-

часова і задачамі «Беларускага археаграфічнага штогодніка» — навуковага выдання камісіі.

Нягледзячы на многія цяжкасці і праблемы цяперашняга этапу развіцця беларускай археаграфіі, у яе ёсць база для іх пераадолення. Гэта перш за ўсё гістарычны вопыт, традыцыі археаграфічнай працы ў рэспубліцы. Гэта вопыт археаграфічнай працы ў нашых суседзяў. Гэта актыўнасць архівістаў і вучоных, якія прынялі прапанову ўвайсці ў склад Археаграфічнай камісіі і рэдакцыйнай калегіі «Беларускага археаграфічнага штогодніка». Рэалізуючы іх, Археаграфічная камісія і яе друкаваны орган у стане ўнесці свой уклад як у асэнсаванне вопыту, традыцый мінулага, так і ва ўзбагачэнне іх сучаснай практыкай.

***Р.П.Платонаў, галоўны рэдактар***

# АРХЕАГРАФІЯ

## АРГАНІЗАЦЫЯ АРХЕАГРАФІЧНАЙ ПРАЦЫ: АДНАЎЛЕННЕ ТРАДЫЦЫІ

*У кастрычніку 1999 — студзені 2000 г. калегія Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь прыняла шэраг пастаноў, якія накіраваны на паляпшэнне і ўдасканаленне археаграфічнай працы ў архіўнай галіне. Імі з улікам новых рэалій аднаўляюцца традыцыі арганізацыі археаграфічнай працы ў Беларусі, перапыненыя ў сярэдзіне 1930-х гадоў. Ніжэй друкуюцца гэтыя дакументы.*

### ПАСТАНОВА КАЛЕГІІ ДЗЯРЖКАМАРХІВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»

*(Прынята 28 кастрычніка 1999 г.)*

У мэтах паляпшэння і ўдасканалення археаграфічнай працы ў архіўнай галіне калегія Дзяржкамархіва пастанаўляе:

1) Стварыць Археаграфічную камісію Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь. Ускласці на камісію распрацоўку сумесна з дзяржаўнымі архівамі і зацікаўленымі навуковымі і навучальнымі ўстановамі праграмы выдання дакументаў нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь, каардынацыю публікатарскай дзейнасці дзяржаўных архіваў і зацікаўленых устаноў, навуковую распрацоўку праблем гісторыі і тэорыі беларускай археаграфіі.

2) У склад Археаграфічнай камісіі ўключыць кваліфікаваных супрацоўнікаў Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, Дзяржкамархіва, архіваў рэспублікі, вучоных Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, якія па сваёй прафесійнай дзейнасці звязаны з вывучэннем і публікацыяй пісьмовых крыніц, помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Для бягучага кіраўніцтва камісіяй стварыць з яе складу бюро, уключыўшы ў яго старшыню камісіі, трох намеснікаў і вучонага сакратара.

3) Старшынёю камісіі зацвердзіць доктара гістарычных навук, прафесара Р.П.Платонава, намеснікамі — загадчыка аддзела археаграфіі БелНДІДАС, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры НАН Беларусі, члена Саюза беларускіх пісьменнікаў, кандыдата філалагічных навук Я.Я.Янушкевіча (пытанні публікацыі гістарычных крыніц), вядучага навуковага супрацоўніка БелНДІДАС, дацэнта Белдзяржуніверсітэта, кандыдата гістарычных навук М.Ф.Шумейку (пытанні гісторыі і тэорыі археаграфіі), начальніка аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Дзяржкамітэта па архівах і справаводству кандыдата гістарычных навук У.П.Крука (арганізацыйна-каардынацыйныя пытанні). Вучоным сакратаром камісіі зацвердзіць навуковага супрацоўніка БелНДІДАС кандыдата гістарычных навук Ю.У.Несцяровіча.

Бюро Археаграфічнай камісіі да 20 студзеня 2000 года распрацаваць Палажэнне аб Археаграфічнай камісіі, вызначыць яе структуру, персанальны склад і ўнесці на зацвярджэнне калегіі Дзярж-
камархіва.

4) Базавай установай Археаграфічнай камісіі ўстанавіць Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы, усклаўшы забеспячэнне каардынацыйнай, кансультацыйнай і метадычнай працы на аддзел археаграфіі; публікатарскай — на рэдакцыйна-выдавецкі аддзел інстытута. Дырэкцыі інстытута вырашыць пытанне аб размяшчэнні Археаграфічнай камісіі.

5) Дзяржаўнаму камітэту па архівах і справаводству прапрацаваць пытанні штогодняга фінансавання публікацыі дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду ў адпаведнасці з зацверджанай праграмай і планамі, прадстаўленымі Археаграфічнай камісіяй, а таксама навукова-метадычнай і нарматыўнай літаратуры па праблемах археаграфіі.

6) Дзяржкамархіву, дырэкцыям БелНДІДАС і БелНДЦЭД, бюро Археаграфічнай камісіі ў перспектыве разгледзець пытанне аб выданні «Беларускага археаграфічнага штогодніка». Археаграфічнай камісіі распрацаваць структуру і тэматыку штогодніка.

Старшыня калегіі —
Старшыня Дзяржкамархіва
Рэспублікі Беларусь А.М.Міхальчанка

Сакратар калегіі Л.У.Грыцэнка

# ПАЛАЖЭННЕ АБ АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*(Зацверджана калегіяй Дзяржкамархіва Рэспублікі Беларусь 27 студзеня 2000 г.)*

## 1. Агульныя палажэнні

1.1. Археаграфічная камісія Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь (далей: Археаграфічная камісія) з’яўляецца ведамасным каардынацыйным, навукова-метадычным і публікатарскім цэнтрам у галіне археаграфіі. Камісія здзяйсняе сваю дзейнасць на аснове дадзенага Палажэння.

1.2. Археаграфічная камісія сумесна з дзяржаўнымі архівамі і зацікаўленымі навукова-даследчымі ўстановамі распрацоўвае праграму выдання дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь; ажыццяўляе каардынацыю навукова-публікатарскай дзейнасці архіўных установ і арганізуе распрацоўку праблем гісторыі, тэорыі і методыкі археаграфіі; аказвае творчым калектывам навукова-метадычную і кансультатыўную дапамогу ў галіне археаграфіі.

1.3. Археаграфічная камісія ў сваім складзе аб’ядноўвае кваліфікаваных супрацоўнікаў Дзяржкамархіва, Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы (БелНДІДАС), дзяржаўных архіваў, вучоных Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, выдавецтваў, творчых саюзаў і грамадскіх арганізацый, а таксама вядомых вучоных, дзейнасць якіх звязана з вывучэннем і публікацыяй гістарычных крыніц.

1.4. Кіраўніцтва Археаграфічнай камісіяй ажыццяўляе бюро, у склад якога ўваходзяць старшыня камісіі, намеснікі старшыні, вучоны сакратар. На базе дзяржаўных архіваў, навукова-даследчых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў Беларусі бюро можа ўтвараць аддзяленні і секцыі Археаграфічнай камісіі.

1.5. Палажэнне аб Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, а таксама яе бюро, праграма выдання дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду зацвярджаюцца Дзяржкамархівам.

1.6. Базаваю ўстановаю Археаграфічнай камісіі з’яўляецца БелНДІДАС. Бягучую каардынацыйную, кансультатыўную і метадычную

працу камісіі забяспечвае аддзел археаграфіі, публікатарскую — рэдакцыйна-выдавецкі аддзел інстытута.

1.7. Археаграфічная камісія працуе на падставе перспектыўных і бягучых планаў. Пасяджэнні Археаграфічнай камісіі праводзяцца па меры неабходнасці, але не радзей чым адзін раз у паўгоддзе. Праца членаў Археаграфічнай камісіі — спецыялістаў архіўных установ прадугледжваецца ў адпаведных планах гэтых установ.

Пасяджэнні Археаграфічнай камісіі вядзе старшыня або яго намеснікі.

Археаграфічная камісія правамоцна прымаць рашэнні, калі на пасяджэнні прысутнічае не менш 1/2 яе складу. Рашэнне прымаецца простай большасцю галасоў і афармляецца пратаколам.

Рашэнні Археаграфічнай камісіі даводзяцца да ведама Дзяржкамархіва і зацікаўленых арганізацый.

1.8. Археаграфічная камісія працуе ва ўмовах поўнай галоснасці. Дзейнасць яе асвятляецца ў навуковай перыёдыцы і друку. Археаграфічная камісія сумесна з БелНДІДАС выдае архіўна-археаграфічны штогоднік.

1.9. Археаграфічная камісія мае сваю эмблему.

## 2. Асноўныя накірункі дзейнасці

Археаграфічная камісія ў межах сваёй кампетэнцыі:

2.1. на падставе прапаноў дзяржаўных архіваў, зацікаўленых навукова-даследчых установ, гістарычных кафедраў вышэйшых навучальных установ, выдавецтваў, вядомых вучоных распрацоўвае і зацвярджае перспектыўныя і бягучыя планы выданняў нацыянальнага архіўнага фонду;

2.2. ажыццяўляе навуковае рэцэнзаванне падрыхтаваных да друку рукапісаў зборнікаў дакументаў;

2.3. арганізуе навукова-метадычныя кансультацыі па падрыхтоўцы археаграфічных публікацый;

2.4. праводзіць семінары, нарады па павышэнні кваліфікацыі спецыялістаў-археографаў;

2.5. праводзіць навуковыя канферэнцыі па тэарэтычных, метадычных і практычных праблемах археаграфіі;

2.6. прымае ўдзел у археаграфічных экспедыцыях;

2.7. разам з навуковымі ўстановамі распрацоўвае правілы і рэкамендацыі па выданні гістарычных дакументаў.

## 3. Навуковыя сувязі

Археаграфічная камісія падтрымлівае сувязі:

3.1. з археаграфічнымі камісіямі (інстытутамі), архіўнымі ўстановамі, навукова-даследчымі інстытутамі іншых краін;

3.2. з міжнароднымі архіўнымі арганізацыямі;

3.3. з установамі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, галіновымі навукова-даследчымі інстытутамі, навукова-асветнымі ўстановамі і цэнтрамі Рэспублікі Беларусь;

3.4. з выдавецтвамі, рэдакцыямі навуковых, грамадска-палітычных і літаратурных часопісаў;

3.5. з грамадскімі ўстановамі, якія ставяць мэтай вывучэнне, захаванне і папулярызацыю гістарычнай спадчыны, помнікаў айчыннай гісторыі і культуры.

## 4. Правы

Археаграфічная камісія мае правы:

4.1. хадайнічаць перад кіраўніцтвам навуковых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, дзяржаўных архіваў, музеяў, бібліятэк аб уключэнні ў індывідуальныя планы іх супрацоўнікаў прац, што звязаны з падрыхтоўкаю археаграфічных публікацый, а таксама аб іх навуковых камандзіроўках, выкліканых неабходнасцю ўдзелу ў падрыхтоўцы зборнікаў гістарычных дакументаў;

4.2. рэкамендаваць навуковых рэдактараў зборнікаў гістарычных дакументаў, якія рыхтуюцца архіўнымі ўстановамі, удзельнічаць у рэцэнзаванні падрыхтаваных да друку рукапісаў;

4.3. уносіць прапановы ў адпаведныя ўстановы па фінансаванні выданняў гістарычных крыніц;

4.4. разам з сувыканаўцамі пазначаць сваім грыфам і эмблемай археаграфічныя выданні, падрыхтаваныя ў адпаведнасці з праграмай і планамі публікацыі дакументаў нацыянальнага архіўнага фонду.

## АБ ПЕРСАНАЛЬНЫМ СКЛАДЗЕ АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*(Зацверджана калегіяй Дзяржкамархіва Рэспублікі Беларусь 27 студзеня 2000 г.)*

Б ю р о :

ПЛАТОНАЎ Р.П., намеснік дырэктара БелНДІДАС, доктар гістарычных навук, прафесар — старшыня.

КРУК У.П., загадчык аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук — намеснік старшыні.

ШУМЕЙКА М.Ф., вядучы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС, дацэнт Белдзяржуніверсітэта, кандыдат гістарычных навук — намеснік старшыні.

ЯНУШКЕВІЧ Я.Я., загадчык аддзела археаграфіі БелНДІДАС, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, кандыдат філалагічных навук — намеснік старшыні.

НЕСЦЯРОВІЧ Ю.У., кандыдат гістарычных навук — вучоны сакратар.

Члены камісіі:

АДАМУШКА У.І., намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.

АСІНОЎСКІ С.М., галоўны рэдактар часопіса «Архівы і справаводства».

БАРКУН Г.І., дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

БУБНОЎСКІ Дз.С., старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

ГАЛУБОВІЧ А.К., дырэктар Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

ГАЛЕНЧАНКА Г.Я., загадчык аддзела спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук.

ГІЛЕП У.А., старшыня грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд культуры».

ГРУША А.І., вядучы палеантолаг Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

ДУБІНІН Д.У., намеснік дэкана гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

ЖУМАР С.У., загадчык аддзела архівазнаўства БелНДІДАС, кандыдат гістарычных навук.

ЖУРКЕВІЧ П.П., загадчык рэдакцыйна-выдавецкага аддзела БелНДІДАС.

ЗАПАРТЫКА Г.В., дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

ІВАНОВА Н.У., загадчык аддзела выкарыстання і публікацыі дакументаў занальнага дзяржаўнага архіва ў г. Маладзечна.

КАРАСЁЎ А.Д., дырэктар Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці.

КАРАЎ Дз.У., дырэктар Заходне-Беларускага гуманітарнага цэнтра даследаванняў Усходняй Еўропы, доктар гістарычных навук (г. Гродна).

КІСЯЛЁЎ Г.В., галоўны навуковы супрацоўнік аддзела старажытнай і новай літаратуры Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук, доктар філалагічных навук.

КНАЦЬКО Г.Дз., загадчык аддзела публікацыі дакументаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.

КРАМКО І.І., старшы навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі мовы Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат філалагічных навук.

КУШНЕР В.Ф., галоўны рэдактар «Беларускага гістарычнага часопіса».

ЛЕМЯШОНАК У.І., галоўны рэдактар Арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні гісторыка-дакументальных хронік «Памяць», доктар гістарычных навук.

ЛІНСКАЯ Л.А., старшы навуковы супрацоўнік аддзела фондаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

МАЛЬДЗІС А.І., загадчык аддзела «Банк інфармацыі па грамадскіх навуках» Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны Міністэрства народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь.

МІХАЛЬЧАНКА А.М., старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.

НАВІЦКІ У.І., в.а. намесніка дырэктара Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар.

НАСЕВІЧ В.Л., дырэктар БелНДЦЭД, кандыдат гістарычных навук.

НОВІКАВА Г.М., старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

ПАЛЯКОЎ С.К., намеснік начальніка ўпраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Дзяржкамдруку.

ПІШЧУЛЁНАК М.У., загадчык аддзела па архівах і справаводству Віцебскага аблвыканкама.

РАХМАНЬКО Т.Л., загадчык аддзела інфармацыі, публікацыі і навуковага выкарыстання дакументаў Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў.

РОШЧЫНА Т.І., загадчык аддзела рукапісаў рэдкай кнігі і старарукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь.

САВІЦКІ Э.М., намеснік дырэктара БелНДІДАС, доктар гістарычных навук, прафесар.

САРОКІН А.М., начальнік аддзела гуманітарных навук ВАК Беларусі, доктар гістарычных навук.

САЧАК М.М., загадчык аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Нацыянальнага гістарычнага архіва ў г. Гродна.

СЕЛЯМЕНЕЎ В.Дз., дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.

СКАЛАБАН В.У., дарадчык дырэктара БелНДІДАС, кандыдат гістарычных навук.

СТАШКЕВІЧ М.С., в.а. дырэктара Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар.

ФЯДОСАЎ У.В., дырэктар БелНДІДАС, кандыдат эканамічных навук, дацэнт.

ЯВАРОЎСКІ В.Б., старшы навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі філасофіі Інстытута гісторыі філасофіі і права Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат філасофскіх навук.

ЯЗЫКОВІЧ Л.У., загадчык аддзела гісторыі выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя П.Броўкі.

ЯСКЕВІЧ А.А., старшы навуковы супрацоўнік аддзела тэорыі літаратуры Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат філалагічных навук.

ЯЦКЕВІЧ І.Г., старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС, кандыдат гістарычных навук.

Старшыня Дзяржаўнага камітэта<br>па архівах і справаводству<br>Рэспублікі Беларусь А.М.Міхальчанка

**ПАСТАНОВА<br>КАЛЕГІІ ДЗЯРЖКАМАРХІВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ «БЕЛАРУСКІМ АРХЕАГРАФІЧНЫМ ШТОГОДНІКУ»**

*(Прынята 27 студзеня 2000 г.)*

1. Прыняць прапанову бюро Археаграфічнай камісіі і дырэкцыі БелНДІДАС аб выданні з 2000 года «Беларускага археаграфічнага штогодніка».

Згадзіцца з наступнай тэматычнай структурай штогодніка:

— навуковыя артыкулы і паведамленні па праблемах тэорыі, гісторыі, методыкі археаграфіі, архівазнаўства, дакументазнаўства і крыніцазнаўства;

— агляды і апісанні архіўных фондаў і калекцый гістарычных дакументаў;

— публікацыі дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь;

— матэрыялы з гісторыі дзяржаўных устаноў, палітычных партый і грамадскіх аб’яднанняў;

— матэрыялы па краязнаўству;

— артыкулы, матэрыялы па аўтаматызаваных архіўных тэхналогіях і электроннай дакументацыі;

— інфармацыя пра архівазнаўства за мяжой;

— бібліяграфія, рэцэнзіі, хроніка, юбілеі.

2. Зацвердзіць галоўным рэдактарам «Беларускага археаграфічанага штогодніка» старшыню Археаграфічнай камісіі Дзяржкамархіва, намесніка дырэктара БелНДІДАС доктара гістарычных навук, прафесара Р.П.Платонава; намеснікам галоўнага рэдактара — дарадчыка дырэктара БелНДІДАС кандыдата гістарычных навук В.У.Скалабана; адказным сакратаром — старшага навуковага супрацоўніка аддзела археаграфіі БелНДІДАС кандыдата гістарычных навук І.Г.Яцкевіча.

3. Зацвердзіць наступны склад рэдакцыйнай калегіі:

Адамушка У. І.
Гарбачоў Г. Л.
Дзятчык Н.М.
Жумар С. У.
Журкевіч П. П.
Кісялёў Г. В. (Інстытут літаратуры НАН Беларусі)
Крук У.П.
Ларын М. М. (Расія)
Ляхоцкі У. П. (Украіна)
Міхальчанка А. М.
Насевіч В. Л.
Платонаў Р. П.
Савіцкі Э. М.
Сечанава К. А.
Скалабан В. У.
Сташкевіч М. С. (Інстытут гісторыі НАН Беларусі)
Фядосаў У. В.
Шумейка М. Ф.
Янушкевіч Я. Я.

4. Выданне штогодніка даручыць рэдакцыйна-выдавецкаму аддзелу БелНДІДАС.

Аб’ём устанавіць 15–20 друкаваных аркушаў, тыраж — 100 экз.

Вырашэнне пытанняў матэрыяльна-фінансавага забеспячэння ўскласці на Дзяржкамархіў і БелНДІДАС.

Старшыня калегіі —
Старшыня Дзяржкамархіва
Рэспублікі Беларусь А.М.Міхальчанка

Сакратар калегіі Л.У.Грыцэнка

***М.Ф.Шумейко***

## СТАНОВЛЕНИЕ И РАЗВИТИЕ БЕЛОРУССКОЙ АРХЕОГРАФИИ В 1-й ПОЛОВИНЕ XIX в.

Присоединение в конце XVIII в. белорусских земель к Российской империи и активная политика царского правительства по русификации подпавшего под его власть населения ставили перед исторической наукой вообще, зарождавшейся археографией в частности, задачи политического свойства.

«Сии провинции, — писала Екатерина II, имея в виду часть Польши, Литву, Беларусь, Правобережную Украину, Крым, часть Казахстана, — надлежит легчайшими способами привести к тому, чтобы они обрусели и перестали бы глядеть, как волки в лесу»[1]. Такими «легчайшими способами», имевшимися в распоряжении российского правительства, являлись, с одной стороны, предание забвению исторических памятников прошлого порабощенных народов, а с другой их использование для обоснования «законности» своего владычества. Первое осуществлялось путем вывоза с присоединенных территорий в российские столицы письменных ценностей, индифферентного отношения к гибели остававшихся «в провинции» документов, второе — путем публикации «нужных» исторических источников.

Так, в 1770 — 1790-е гг. по личному указанию императрицы управляющий Московского архива Коллегии иностранных дел известный русский историк и археограф Н.Н.Бантыш-Каменский подготовил ряд документальных сборников, предназначавшихся «для служебного пользования» правительства и содержавших документы об отношениях России с Речью Посполитой. (В 1860-е годы они под названием «Переписка между Россиею и Польшею по 1700 год, составленная по дипломатическим бумагам управляющим Московского архива Коллегии иностранных дел Н.Н.Бантыш-Ка-

менским» были переизданы Обществом истории и древностей российских при Московском университете[2].) Данная публикация помимо чисто политического значения являлась еще и престижным для России делом, так как аналогичной работой в этот период занимались в Германии, Франции, Англии, Швеции, Дании[3].

Однако в отличие от западноевропейских стран, где подобные фундаментальные серийные издания исторических источников несли в себе идеи государственности и национальной культуры, российская документальная публикация была призвана «оправдать» в глазах мировой общественности недавно состоявшиеся разделы Речи Посполитой — отсюда очевидна заданность в подборе включенных в нее документов и материалов.

Говоря о становлении белорусской археографии, нельзя не вспомнить о предпринятых еще до присоединения белорусских земель к России публикациях документов, хотя и не носивших научного характера, но тем не менее свидетельствовавших о понимании их составителями важности эдиционной деятельности. Здесь мы имеем в виду вышедшее в 1730 — 1780 гг. в Варшаве восьмитомное неофициальное издание документов древнего литовского и польского права под названием «Volumina Legum». Включенные в него документы (статуты, конституции, привилеи как Речи Посполитой, так и Великого княжества Литовского) охватывали период с 1347 г. по конец XVIII в. (В 1859 — 1860 гг. восьмитомник был переиздан в Петербурге; в 1889 г. в Кракове издан 9-й том, в 1952 г. в Познани — 10-й).

В 1750-е годы пиаром М.Догелем (1715 — 1760) в Вильно было положено начало публикации документов из архива великокняжеской канцелярии, т. наз. Литовской метрики, продолжающееся до настоящего времени[4]. Тремя десятилетиями позже там же Д.Дубинским был издан на польском языке «Zbior praw i przywilejow miastu stolecznemu Wilnowi nadanych», оцененный российской официальной историографией как «тенденциозное издание польских археографов, стремившихся посредством архивных документов доказать, что Северо-Западный край издавна был польский, для чего даже документы, написанные на древнем западнорусском языке, передавались в польской транскрипции, так что производили впечатление польских документов»[5]. Кстати сказать, о «битве за Беларусь», развернувшейся в области археографии в середине XIX в. между польскими и русскими учеными, говорили в 1920-е годы и многие белорусские историки, краеведы, этнографы[6].

Имеются свидетельства и еще более ранних публикаций документов белорусского происхождения, осуществленных к тому же белорусами. Как считает один из историков белорусской археографии, ее зарождение вооб-

ще следует отнести к первой половине XVIII в., когда в 1745 — 1747 гг. в Люблине был издан двухтомный сборник «Svada Latina», включавший собрание риторики, статистики, писем, панегириков, надписей, поэтики, истории. Значительная часть его документов касалась рода Сапегов. Сборник был составлен секретарем Пинского дистрикта ордена отцов марианов Я.Д.Островским при предположительном участии канцлера Великого княжества Литовского Ф.Сапеги[7].

Эти и другие документальные издания, появившиеся в XVIII в. и содержавшие в своем составе письменные источники белорусского происхождения, безусловно должны быть приняты во внимание при исследовании истории белорусской археографии в качестве предтечи ее зарождения и оформления как самостоятельной науки и сферы практической деятельности. Однако только с первой четверти XIX в., когда на территории белорусских и литовских губерний сформировались архивно-археографические центры, начавшие вести планомерную работу в области полевой, камеральной и эдиционной археографии, можно, на наш взгляд, говорить о возникновении белорусской археографии. Заметим, кстати, что наши украинские коллеги начало эдиционной деятельности на Украине относят к середине XIX в. и связывают это с созданием в 1843 г. Временной комиссии для разбора актов при Киевском, Подольском и Волынском генерал-губернаторе, традиционно именуемой в научной литературе Киевской археографической комиссией[8]. Россияне за точку отсчета отечественной археографии берут 1767 год, когда Академия наук издала сразу три книги, в которых помещались публикации ценнейших источников по истории Древней Руси: Радзивилловская летопись по Кенигсбергскому списку, Правда Русская и Никоновская летопись[9].

По большому счету, выяснение «древности рода» применительно к науке, включая и археографию, бесперспективное, мягко говоря, занятие, ибо, как верно подметил академик М.Н.Тихомиров, «в науке же следует идти по принципу: несть еллин, несть иудей, но вси богови»[10]. Исторический опыт показывает, что автаркия в науке неизбежно ведет к застою, кризису.

Объективные условия сложились таким образом, что в течение почти столетия белорусская археография развивалась в теснейшей интеграции прежде всего с российской, а также украинской и польской археографией. Отсюда порой достаточно сложно (да и нужно ли?) разграничить по национальному признаку объекты ее исследования. Белорус по происхождению, М.В.Довнар-Запольский, обязанный своим становлением как ученого Киевскому университету, в результате работы в конце 1890-х годов в Москов-

ском архиве Министерства юстиции подготовил и опубликовал ряд документальных сборников, полностью укомплектованных актами Метрики Великого княжества Литовского, разработал систему их описания. Выдающийся российский филолог и историк академик А.А.Шахматов вместе с поляком по происхождению С.Л.Пташицким издали в 1907 г. 17-й том «Полного собрания русских летописей», состоявший из белорусских и литовских летописей; тот же Шахматов инициировал деятельность Б.А.Тарашкевича по подготовке к публикации полоцких грамот, хранившихся в Рижском городском архиве, помогал польским историкам, оказавшимся с началом первой мировой войны без средств к существованию в занятом русскими войсками Львове[11]. Подобные примеры могут быть значительно расширены и продолжены.

Возвращаясь к истории зарождения и становления белорусской археографии, отметим, что одним из первых археографических центров, начавших вести в 1820-е годы планомерную работу по выявлению, описанию и публикации документальных материалов, был Виленский университет, в котором работали известные польские, белорусские, русские, украинские историки, юристы И.Лелевель, И.Данилович, И.Ярошевич, И.Онацевич, И.Лобойко и др. Все они помимо преподавательской вели активную археографическую деятельность, разыскивая в архивах белорусских церквей и монастырей, частных собраниях памятники белорусской письменности и культуры. Так, Даниловичем был обнаружен в библиотеке известного российского мецената и в прошлом государственного деятеля России графа Н.П.Румянцева (о нем речь будет идти далее) Судебник Казимира IV 1468 г. (Документ был передан в библиотеку в 1817 г. известным библиографом В.Г.Анастасевичем, который в свою очередь нашел список Судебника в Новгородской Софийской библиотеке.) В 1826 г. Судебник был издан Даниловичем[12]. Тогда же в Супрасльском монастыре И.Данилович выявил т. наз. Супрасльскую летопись, которую он напечатал в 1823 г. в «Dziennike Wilenskim». Уже после отъезда ученого в Харьков летопись была переиздана в 1827 г. А.Марцинковским под названием «Летописец Литвы и Хроника русская, стараниями Игнатия Даниловича изданная»[13].

С именем же И.Даниловича связаны попытки первого научного издания статутов Великого княжества Литовского 1529, 1566 и 1588 гг., предпринятые по инициативе т. наз. «Румянцевского кружка», членом которого был ученый. Войдя в 1822 г. в состав комиссии по изданию статутов, Данилович развернул активную деятельность по выявлению возможно более полного корпуса всех имевшихся списков и редакций статутов. Через год он имел сведения о 5 списках первого, 22 — второго и одном — третьего

статутов. С помощью максимального собрания списков ученый надеялся, как он сам говорил, «собрать занимательнейшие разности» (т. е. варианты) и «восстановить» первоначальные тексты статутов[14]. Документы предполагалось публиковать на языке оригинала с параллельным переводом на русский язык, сопровождая их обширными историческими и текстуальными примечаниями. К сожалению, эта работа, требовавшая огромных не только интеллектуальных, но и финансовых затрат, не была завершена. Дело ограничилось копированием одного из списков статутов, находившегося в Публичной библиотеке, а также их описанием, опубликованным Даниловичем в «Dziennike Wilenskim» за 1823 г.[15].

Другим центром археографических изысканий в рассматриваемый период были Гомель, Полоцк, Мстиславль, другие белорусские города и местечки. В местечке Гомель, принадлежавшем А.П. и Н.П.Румянцевым, с 1814 г. жил известный государственный деятель России, покровитель и организатор археографических поисков граф Н.П.Румянцев. Именно с его деятельностью связано появление первого белорусского археографического сборника документов, ставшего своеобразной точкой отсчета, от которой ведет свою родословную белорусская археография.

Государственный канцлер, председатель Государственного совета, министр иностранных дел России при Александре I Н.П.Румянцев после своей отставки в 1814 г. занялся активной археографической деятельностью, объединив вокруг себя блестящую плеяду ученых, преимущественно историков, получивших по имени своего руководителя название «Румянцевского кружка»[16]. Однако, еще будучи министром иностранных дел, Н.П.Румянцев в 1811 г. добился создания при Московском архиве Коллегии иностранных дел специальной комиссии для печатания государственных грамот и договоров. Итогом ее деятельности станет четырехтомное документальное издание под названием «Собрание государственных грамот и договоров» (М., 1813 — 1828). Разыскивая документы для сборника, Н.П.Румянцев и члены его кружка (а среди них были А.Х.Востоков, К.Ф.Калайдович, Н.Н.Бантыш-Каменский, П.И.Кеппен, И.Ф.Крузенштерн, В.Г.Анастасевич, И.Н.Лобойко, И.Н.Данилович, П.М.Строев, И.И.Григорович и др.) не ограничивались обследованием лишь московских архивов, значительно пострадавших к этому времени от наполеоновского нашествия, но обращались и к провинциальным хранилищам, в том числе и белорусским, хотя также сильно пострадавшим в ходе войны 1812 г., но тем не менее хранившим достаточно много ценных документальных памятников.

Корреспондентом «Румянцевского кружка» по восточнобелорусским архивам стал выходец из многочисленной семьи священника гомельской

усадьбы Н.П.Румянцева И.И.Григорович (1790 — 1852), «пенсионер» графа в Петербургской духовной академии[17]. Окончив академию и переехав в начале 1820-х годов в Гомель, И.И.Григорович по совету своего покровителя серьезно занялся изучением истории края. Уже первое его знакомство с местными архивами оказалось весьма успешным: поиски документов для «Собрания государственных грамот и договоров» привели к открытию многих интересных документов, носивших региональный характер. Мысль об их отдельном издании под названием «Белорусский архив», вероятно, в равной мере принадлежала как И.И.Григоровичу, так и Н.П.Румянцеву. Подобная публикация помимо сугубо научного могла иметь и идеологическое значение, поскольку она, по словам И.И.Григоровича, обнаруживала «дух папизма» и те притеснения от него, которые пришлось вынести в Беларуси православным. С последним соглашался и Н.П.Румянцев, но, очевидно, как человек светский, а потому более веротерпимый, он считал целесообразным подобрать и прокомментировать документы «без всякой желчи и той ненависти, которую часто являли наши духовные особы к католической религии»[18].

Для дальнейших разысканий материалов И.И.Григорович привлек к сотрудничеству архивариуса Полоцкой греко-униатской духовной консистории И.Кунцевича, полоцкого архимандрита И.Шулякевича, переводчика Могилевского магистратского суда Н.Г.Горатынского, смотрителя полоцких уездных училищ А.М.Дорошкевича, служащего полоцкого уездного казначейства И.Сыцянко и др.[19]

Обращает на себя внимание тщательность, с которой помощники И.И.Григоровича описывали грамоты или снимали с них копии. При этом они руководствовались, очевидно, методикой, специально разработанной И.И.Григоровичем. (Наше предположение о ее существовании подтверждает обнаруженный д. филол. н. Н.В.Николаевым в Отделе рукописей Российской государственной библиотеки (Москва) документ, составленный И.И.Григоровичем в Гомеле 19 октября 1821 г. и названный им «Наставление, как поступать при отыскании харатейного Евангелия, для показания его древности». С сообщением о своей находке Н.В.Николаев выступал на конференции «Проблемы белорусской археографии» (11 — 12 марта 1999 г., г. Минск). В настоящее время ее материалы, включая и сообщение Н.В.Николаева, готовятся к изданию. Так, все описания сделаны по единому формуляру, который включает следующие позиции: 1) номер по порядку; 2) время и место издания; 3) содержание; 4) приметы; 5) для отметок.

Приведем в качестве примера описание грамоты Стефана Батория о пожаловании г. Могилеву магдебургского права и герба одной башни, дан-

леды і даслаў адрас энтамолага *В.Ф.Ашаніна* (адз. зах. 23). Частка з гэтых дакументаў напісана на нямецкай мове. На вялікі жаль, падрабязных звестак пра Ю.Каваля пакуль што адшукаць не ўдалося.

*Аляксандр Іларыёнавіч Васільчыкаў* (1818 — 1881), вядомы рускі грамадскі дзеяч і пісьменнік. У 1840 г. пачаў службу на Каўказе ў адміністрацыі барона Гана. 27 ліпеня 1841 г. А.І.Васільчыкаў прысутнічаў секундантам пры дуэлі М.Лермантава і М.Мартынава, за што быў аддадзены ваеннаму суду. Жыццё яго было поўным прыгод і здзяйсненняў. Зразумела, што А.К.Ельскі не мог не набыць аўтограф легендарнага ў сваім часе князя А.І.Васільчыкава. Гэта ліст князя, магчыма да графа П.А.Шувалава, на французскай мове, без даты, у канцы з прыпіскай на рускай мове «Дача Брюлов в Павловске у садовника Федора Федоровича Миллера» (адз. зах. 6).

*Канстанцін Сцяпанавіч Весялоўскі* (1819 — ?), рускі статыстык, член Акадэміі навук у Пецярбургу, неадменны яе сакратар з 1857 па 1890 г. Аўтограф К.С.Весялоўскага для сваёй калекцыі А.Ельскі атрымаў у выглядзе яго ўласнаручнага подпісу на маленькім кавалачку паперы, які збіральнік наклеіў на ліст стандартных памераў (адз. зах. 7).

*Павел Аляксандравіч Віскаватаў* (1842 — 1905), прафесар рускай славеснасці Дэрпцкага універсітэта, доктар філалогіі, біёграф М.Лермантава, рэдактар газеты «Русский мир»[14]. У зборы А.Ельскага трапіў ліст П.А.Віскаватава да Мар'яна Здзяхоўскага, напісаны ім 9 лютага 1885 г. (адз. зах. 8). *Мар'ян Эдмундавіч Здзяхоўскі* (1861 — 1938), вядомы польскі літаратуразнавец, філосаф, палітолаг, публіцыст, ураджэнец в. Ракаў, што на Валожыншчыне. Вучыўся ў Пецярбургскім і Дэрпцкім універсітэтах у 1879 — 1883 гг., дзе мог сысціся з П.А.Віскаватавым. Працягам іх добрых узаемаадносін стала ліставанне. А.К.Ельскі добра ведаў М.Здзяхоўскага, гасцінна прымаў яго ў сваім доме ў Замосці. «З сардэчнасцю выказваю павагу і глыбокае прызнанне шаноўнаму Аляксандру Ельскаму, які нашаму грамадству ў Літве і Русі служыць узорам не толькі працы, але і глыбокага спасціжэння духу народа і яго маральных і разумовых патрэб»[15]. Такі запіс пакіне М.Здзяхоўскі ў «Кнізе для запісу наведнікаў збораў у Замосці» 30 жніўня 1902 г. Аўтограф П.Віскаватава мог перадаць А.Ельскаму, па просьбе апошняга, сам М.Здзяхоўскі. Магчыма, праз П.Віскаватава і М.Здзяхоўскага трапіў у Замасцянскія зборы і ліст князя А.Васільчыкава.

*Ксенафонт Антонавіч Гаворскі* (1821 — 1871), беларускі гісторык, археолаг, выдавец. Працаваў у Полацкай духоўнай семінарыі, рэдагаваў неафіцыйную частку «Витебских губернских ведомостей», некаторы час жыў у Кіеве. У 1864 г. па запрашэнні генерал-губернатара М.М.Мураўёва

пераехаў у Вільню, дзе выдаваў часопіс «Вестник Западной России»[16]. Стаяў на рэакцыйных пазіцыях, выступаў супраць паланізацыі, але настойліва праводзіў ідэі заходнерусізму. З аўтографамі К.А.Гаворскага звязана імя больш вядомага беларускага і польскага гісторыка, этнографа, археолага, публіцыста, выдаўца, грамадскага дзеяча Адама Карлавіча Кіркора (1818 — 1886). У свой час А.К.Кіркор перадаў А.Ельскаму значную частку свайго архіва, у асноўным лісты з асабістай перапіскі. У БДАМЛіМ трапілі толькі некалькі, атрыманых А.К.Кіркорам у розныя гады: М.І.Кастамарава, А.А.Катлярэўскага і ў тым ліку тры лісты К.А.Гаворскага (адз. зах. 9), дасланыя ў 1864 — 1865 гг. У гэты перыяд А.К.Кіркор з'яўляецца рэдактарам газеты «Виленский вестник»[17]. Непаразуменні, узнікшыя паміж рэдактарам «Вестника Западной России» і «Виленского вестника», змушалі першага пісаць апраўдальныя лісты.

*Господин редактор!*

*Достопочтенное письмо Ваше от 3 апреля я получил 16-го, — уже после напечатания в 8 книжке Вестника статьи Г.Кукольника, до 40 № Вашей газеты, поэтому я не мог прекратить перепечатание раньше получения этого №, но с 41 №, согласно законному Вашему требованию, я прекращаю, с величайшим, впрочем, прискорбием, потому что большее распространение, посредством периодических изданий, подобного рода исторических статей между русскими и поляками, в настоящих обстоятельствах здешней страны, может обратить на путь истинный многих заблуждающихся для их же собственного блага. При том же, приступая к перепечатанию этой статьи, судя по малому числу строк, помещаемых в фельетоне*[18] *Вашего издания, я пологал, что она кратка. Во всяком, впрочем, случае, прошу Вас извинить меня за невольное нарушение прав журнальной собственности и вместе с тем благодарю за предостережение меня, что этот мой поступок не может нравиться Его Превосходительству Г.Кукольникову, пред которым я благоговею как пред известным русским ученым и патриотом.*

*Примите уверение в должном моем почтении и совершенной преданности.*

*Ваш Милостивый Государь покорнейший слуга*

*К.Говорский.*

*21 апреля 1864 г.*

*г.Киев*

*P.S. Если будет издана эта прекрасная статья г.Кукольника особою книжкою, то, будь угодно Его Превосходительству, я напечатаю об ней*

*объявление в моем Вестнике и прийму на комиссию распродажи ее в редакции, а также разсылки моим подписчикам, как пожелают выписать эту книжку, без приложения денег за пересылку.*

*15 мая 1865 г.*

*Многоуважаемый Государь, Адам Карлович!*

*В ответ на почтенное Ваше письмо имею честь уведомить Вас, что только под теми статьями, помещёнными в Вашей газете, не обозначен источник, откуда они заимствованы, которые сообщены были в мою редакцию путем официальным, по приказанию графа Муравьёва для помещения в Вестнике Западной России, под всеми же прочими статьями, перепечатанными из вашей газеты, по моему собственному желанию, всегда обозначались или названия этой газеты, или же статья. Эти помещались под общею рубрикою «Извещения из газет» и в этом случае мой корректор, действительно, не всегда обращал нужное внимание, чтоб обозначать под статьями, особенно мелкими, название той газеты, из которой они перепечатаны. Впрочем, долгом считаю присовокупить еще и то, что известия (почти все), касающиеся Западной России, перепечатываются в моем журнале большею частию из разных губернских Ведомостей и Епархиальных Ведомостей — из тех же самых источников, из каких перепечатываются и в Вашей газете.*

*С должным почитанием и преданностью*

*К.Говорский.*

*15 мая*

*П.С. В 7 книжке перепечатана из Вашей газеты статья о праздновании Пасхи. По моему указанию, а не по требованию администрации, то и под нею обозначено название этой газеты.*

*Милостивый Государь, Адам Карлович!*

*Из почтенного письма Вашего я усматриваю, что Вам, касательно счёта и подписчиков, переврано и совершенно, не знаю, с какой целью, превратно перетолковано. Поэтому необходимо нужно нам объясниться лично и завтра же постараюсь побывать у Вас непременно. Благодарю за откровенность в Вашем письме, а то Вы, пожалуй, дулись бы на меня, как удостоверитесь завтра, совершенно понапрасну.*

*Если деньги Вам нужны сегодня непременно, по счёту, так покорнейше прошу Вас прислать за ними вашего бухгалтера или кого-нибудь грамотного, но только после театра, потому что сейчас уезжаю туда с до-*

*черью. Адреса и деньги я передавал Вашему бухгалтеру, но он их не принял, объявив, что Вы не приказали принимать, если не все 12 р. за каждого подписчика.*

*Примите уверения в совершенном моём почтении*

*К. Говоровский.*

Несумненную цікавасць маюць і лісты да А.К.Кіркора рускага гісторыка *Мікалая Іванавіча Кастамарава* (1817 — 1885) (адз. зах. 12), з якім Адам Карлавіч быў знаёмы асабіста. Разам з двума лістамі да А.К.Ельскага трапілі тры фотаздымкі гісторыка за розныя перыяды жыцця і дзве выразкі з газет таго часу з артыкуламі пра яго. Да аўтографаў М.Кастамарава А.Ельскі зробіць наступны каментар: «…Знакаміты гісторык расійскі. Не любіў шляхецкай гаспадаркі гістарычнай, але сваю гісторыю пісаў праўдзіва. Ва ўсялякім разе, сумленны чалавек і вялікага вопыту». М.І.Кастамараў і А.К.Кіркор мелі цесныя зносіны пасля пераезду апошняга ў Пецярбург у 1868 г.

*Многоуважаемый Адам Карлович и Мария Осиповна!*

*Очень Вам благодарны за Ваше внимание ко мне. Оно мне дорого. Я всегда уважал Вас и буду уважать, ничто не в силах поколебать моё уважение, а ещё более сердечного расположения. Минуты, которые я провёл в Вашем сообществе, для меня всегда будут дороги по воспоминаниям «…».*

Ліст без даты, яго можна прыблізна аднесці да 1870 г.

У другім лісце ўжо толькі да Марыі Восіпаўны (ліст датаваны 1879 г., А.Кіркор некалькі гадоў як жыве ў Кракаве), М.Кастамараў, запрашаючы яе папрацаваць над рукапісам, выкажа просьбу, «*если можно, привезти Obrazy Litewski Ходзькі…*»[19] Як бачна, М.Кастамараў быў добрым знаўцам і актыўна цікавіўся творчасцю выхадцаў з Беларусі.

Вельмі цёплыя і па-сяброўску шчырыя лісты да А.Кіркора пісаў *Аляксандр Аляксандравіч Катлярэўскі* (1837 — 1881) (адз. зах. 3), вядомы славіст, археолаг і этнограф. У зборы А.Ельскага захаваліся яго тры лісты да А.Кіркора — «прыяцеля свайго»*. А.А.Катлярэўскі пісаў да А.Кіркора ў Кракаў з Дэрпта, а пасля з Неапаля, куды адправіўся папраўляць сваё здароўе.

*Павел Васілевіч Кукальнік* (1795 — 1884), пісьменнік, гісторык, доктар права. Вядомы ў Вільні цэнзар з 1829 па 1865 г., старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі, выкладчык многіх Віленскіх навучальных устаноў. Яго аўтограф А.Ельскі збярог у выглядзе невялікай запіскі аб вяртанні

рукапісу некаму з аўтараў для правак (адз. зах. 14). Запіска датавана 12.12.1851 г.

*Бернард Ларавічы*, «Педагог. Філолаг у Адэсе, аўтар італьянска-расійскай граматыкі і яшчэ некалькіх вядомых прац»*. Збярогся яго ліст на італьянскай мове да некага з Ельскіх (адз. зах. 1). Першапачатковае сцвярджэнне, што гэта ліст да Аляксандра Карлавіча, пасля яго перакладу на беларускую мову стала сумнеўным. У лісце Б.Ларавічы выказвае шкадаванне, што не дачакаўся ў 11 гадзін таго, каму прынёс кнігі з тэкстамі опер. На жаль, дадатковыя звесткі пра Б.Ларавічы і яго адносіны да сям'і Ельскіх не адшуканы.

*Мікалай Мікалаевіч Любовіч* (1855 — 1935), гісторык-славіст, доктар гісторыі, прафесар, з 1924 г. — член-карэспандэнт АН СССР. У той час, калі А.Ельскі ведаў М.М.Любовіча і паклапаціўся пра яго аўтографы, ён быў яшчэ дацэнтам Варшаўскага універсітэта. Таму ў каментары збіральніка будзе пакінута інфармацыя толькі пра дачыненні М.Любовіча да Варшаўскага універсітэта. А.Ельскі набыў два лісты М.М.Любовіча да кс. І.Бергеля ў Слуцку ад 26.12.1881 і 20.01.1882 г. (адз. зах. 15).

Ёсць некалькі аўтографаў-лістоў са зваротам «Леў Міхайлавіч». Усе яны так ці інакш звязаны адной тэмай — гіпалогіяй. Гэта аўтографы *Івана Мердэра*, служачага Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнага конезаводства (адз. зах. 16); *С.А.Папова*, рэдактара конезаводскага часопіса «Рускі спорт» (адз. зах. 19); *Ул.Папова*, «слаўнага спартсмена расійскага»*, ездака (адз. зах. 18). Такая акалічнасць прыводзіць да думкі, што лісты гэтыя пісаліся да Леона Ельскага, стрыечнага брата Аляксандра Карлавіча, вядомага ў свой час гіполага. Захапленне Леона не абышло і гаспадара Замосця, яно мацавала іх сяброўства. Зразумела, што аўтографы аўтарытэтных гіполагаў былі дарагімі для А.Ельскага. І ён папрасіў іх у свайго брата. У гэтым жа шэрагу можна назваць і аўтограф «расійскага сатыстыка»* *Віктара Міхайлавіча Раеўскага* — яго заяву ва ўпраўленне Палтаўскай заводскай канюшні (адз. зах. 30).

Выклікаў увагу А.К.Ельскага і аўтограф пракурора Варшаўскага акругового суда *А.Полана* — яго ліст у газету «Nowiny» (адз. зах. 29). Ліст датаваны 26.12.1881 г.

*Флавіян Мікалаевіч Дабранскі* (1848 — 1919), гісторык, археограф, лінгвіст. Сябра камісіі па стварэнні Віленскай публічнай бібліятэкі, узначальваў Віленскую археаграфічную камісію, быў сябрам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Ліст Ф.М.Дабранскага да польскага публіцыста Ёзэфа Такажэвіча, які трапіў да А.Ельскага, напісаны 5 сакавіка 1884 г. (адз. зах. 10). На вокладцы да яго А.Ельскі зрабіў такі запіс на польскай

мове: «Ліст нязмерна цікавы, напісаны да польскага публіцыста Ё.Такажэвіча, у якім адбілася ўся сутнасць маскаля»[*]. Ліст сапраўды цікавы і мае падставы быць апублікаваным. З архіва Ё.Такажэвіча ёсць у зборы А.Ельскага

яшчэ адзін ліст — *Мікалая Іванавіча Пятрова* (1840 — 1921), літаратуразнаўца, гісторыка літаратуры, прафесара Кіеўскай духоўнай акадэміі (адз. зах. 17). Ліст быў напісаны 5 красавіка 1884 г. як адказ на просьбу Ё.Такажэвіча аб высылцы яму кнігі «Очерки из истории украинской литературы XVIII в.» і дазволе на публікацыю ў часопісах «Ateneum» і «Kraj» рэцэнзій на кнігі М.І.Пятрова. Дазвол быў атрыманы, а кніга выслана.

*Павел Пятровіч Дуброўскі* (1812 — 1882), славіст, прафесар польскай мовы і літаратуры Галоўнага педагагічнага інстытута ў Пецярбургу, выдавец газеты «Денница»[20], аўтар прац пра Адама Міцкевіча, Іаахіма Лялевеля і інш. У зборах А.Ельскага захаваўся яго ліст на польскай мове ад 26 красавіка 1857 г. да рэдактара зборніка «Kronika»[21] Аляксандра Невяроўскага (адз. зах. 11). П.П.Дуброўскі дае кароткую рэцэнзію на зборнік і характарызуе свае адносіны да часопісаў «Русский Вестник»[22] і «Русская беседа»[23].

*Мікалай Стрэмаухаў*, «славянафіл і рускі публіцыст»[*]. З яго двух лістоў да Фелікса Андрэевіча Весялоўскага (20 сакавіка і 2 мая 1883 г.) (адз. зах. 21) становіцца зразумелым, як моцна прапагандаваліся ідэі славянафільства ў той час. Як бачна з канверта да аднаго з лістоў, Ф.А.Весялоўскі жыў у с. Гарадзішча Валынскай губ. Звестак пра яго нідзе не знойдзена. Не зрабіў пра яго ніякага запісу і А.Ельскі.

*Сяргей Рыгоравіч Строганаў* (1794 — 1882), граф, генерал кавалерыі, удзельнік Барадзінскай бітвы. У 1831 — 1834 гг. выконваў абавязкі ваеннага губернатара ў Мінску і Рызе. У 1835 г. назначаны апекуном Маскоўскай навучальнай акругі. Быў вядомым у свой час педагогам. Гэта адзначае і А.Ельскі ў запісах да аўтографа С.Строганава — яго ліста на французскай мове неўстаноўленай асобе, напісанага ў 1865 г. (адз. зах. 22).

Маюцца ў зборы і некалькі асабістых дакументаў А.Ельскага, подпісы вядомых людзей на якіх далі падставу, каб уключыць іх у калекцыю: білет А.К.Ельскага на права бясплатнага наведвання выстаўкі Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі з 7 па 11 верасня 1883 г. за подпісам прэзідэнта таварыства *Мікалая Мышанкова* (адз. зах. 5); афіцыйнае паведамленне А.К.Ельскаму Вольнага эканамічнага таварыства ў Пецярбургу аб выбранні яго 24 лютага 1877 г. сябрам таварыства і лісты з напамінаннем пра плату сяброўскіх складак у 1882 г. за подпісам вядомага эканаміста і сакратара таварыства *А.Ходнева* (адз. зах. 3).

Даследуючы гэтую частку аўтографаў з Бібліятэкі і музея старажытнасці Аляксандра Ельскага ў Замосці, яскрава абазначыўся яе характар. З Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва ў Маскве ў свой час паступілі аўтографы рускіх гісторыкаў, літаратараў, выдаўцоў і інш., якія сваёй творчасцю і грамадскай дзейнасцю так ці інакш уплывалі на ход падзей у Заходнім краі Расійскай імперыі і былі звязаны з многімі вядомымі дзеячамі былой Рэчы Паспалітай. Магчыма, што ў калекцыі А.Ельскага рускі раздзел быў намнога большым, але ў Польшчы да 1936 г. збярогся толькі ў апісанай колькасці.

[1] Аляксандр Карлавіч Ельскі (16.06.1834 — 10.09.1916), беларускі пісьменнік, краязнавец, перакладчык, публіцыст, калекцыянер.

[2] З 1976 г. — Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва; з 1993 г. — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ).

[3] БДАМЛіМ. Ф.43. Воп.1. Адз.зах. 1—30.

[4] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Даведнік. БелНДІДАС. М., 1997 г.

[5] Дзеля блізкіх і прышласці. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Універсітэты Ельскіх» (Да 165-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Ельскага). Мінск, 7 кастрычніка 1999 г. Мн., 1999.

[6] Гаворка ідзе пра Дзяржаўны літаратурны музей у Маскве.

[7] Бястужаў А.А. (1797 — 1837), дзекабрыст, пісьменнік.

[8] Вайдзевіч Ф.Ф. — абшарнік в. Выганічы Мінскага пав. (цяпер Валожынскі р-н), у якога ў 1821 — 1822 гг. жыў А.А.Бястужаў.

[9] Альманах, які выдаваў А.А.Бястужаў сумесна з К.Ф.Рылеевым у 1823 — 1825 гг.

[10] Боткін С.П. (1832 — 1889), рускі тэрапеўт.

[11] Тут і далей пад зоркай радкі з каментараў А.К.Ельскага.

[12] Літаратурна-палітычная газета, якая выходзіла ў Пецярбургу з 1863 па 1881 г.

[13] Маёнтак каля в. Пусэн у Віндаўскім пав. Курляндскай губ. (сучасны Вентспілскі р-н у Латвіі).

[14] Выдавалася ў Пецярбургу з 1871 па 1880 г.

[15] У.І.Мархель. Кніга для запісу…, або 234 аўтографы. / Матэрыялы канферэнцыі «Дзеля блізкіх і прышласці». Мн., 1999. С.8.

[16] Штомесячны палітычны і гісторыка-літаратурны часопіс. Выдаваўся з 1862 па 1864 г. у Кіеве, з 1864 па 1871 г. у Вільні.

[17] «Виленский вестник» («Kurier Wilenski»), палітычная і літаратурная газета — афіцыйны орган Віленскага генерал-гу-

бернатарства. Выдавалася ў 1842 — 1915 гг. у Вільні, у 1915 — 1916 гг. у Гомелі.
[18] Тут у значэнні месца друкавання матэрыялу ў газеце, т. зв. «падвал», які аддзяляўся лініяй адрыву.
[19] Маюцца на ўвазе «Ліцвінскія абразкі» Ігната Ходзькі (1794 — 1861).
[20] «Денница»= «Zutrzenka», літаратурная газета. Выдавалася ў Варшаве на рускай і польскай мовах.
[21] «Kronika». Варшава, 1856 — 1860.
[22] Літаратурна-палітычны часопіс. Выдаваўся ў Маскве з 1856 па 1899 г.
[23] Славянафільскі часопіс. Выходзіў у 1856 — 1860 гг. у Маскве.

# АРХІВАЗНАЎСТВА І АРХІЎНАЯ СПРАВА

*А.М.Міхальчанка*

## АРХІВЫ БЕЛАРУСІ НА МЯЖЫ XX–XXI СТАГОДДЗЯЎ: НАКІРУНКІ РАЗВІЦЦЯ

Аб'ём чалавечых ведаў і дзейнасці дасягнуў у нашу эпоху беспрэцэдэнтнага ўзроўню. За кароткі перыяд часу патрэбнасці ў інфармацыі і яе дакументаванні ўзраслі ў шмат разоў. У такіх умовах задача архівіста заключаецца ў тым, каб дапамагчы грамадству знайсці новыя метады стварэння сваёй дакументальнай спадчыны і спрасціць да яе доступ.

Цяпер у рэспубліцы Беларусь дзейнічаюць сем органаў кіравання архіўнай справай (Дзяржкамархіў і аддзелы па архівах і справаводству абласных выканаўчых камітэтаў), 31 дзяржаўны архіў (6 рэспубліканскіх, 6 абласных, 16 занальных, 3 дзяржархівы грамадскіх аб'яднанняў), 2 лабараторыі (Цэнтральная лабараторыя мікрафільмавання і рэстаўрацыі дакументаў НАФ Рэспублікі Беларусь і Рэспубліканская тэхнічная лабараторыя мікрафільмавання страхавога фонду дакументацыі), 2 навукова-даследчыя ўстановы (Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы і Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі), база-сховішча фонду страхавой дакументацыі (43 арганізацыі) і 50 райдзяржархіваў у 119 раёнах.

У 1999 г. у рэспубліцы працягвалася стварэнне сеткі раённых і гарадскіх дзяржаўных архіваў па асабовым складзе. На пачатак 2000 г. маецца 50 райгарархіваў, з якіх у Віцебскай вобласці — 11 (з 18), Гродзенскай — 9 (з 16), Гомельскай — 8 (з 23), Мінскай — 10 (з 26), Магілёўскай — 13 (з 20). У 2001 г. стварэнне сеткі гэтых архіваў павінна быць закончана.

Працягвалася праца па арганізацыі Архіва Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Перад архівістамі нашай, як і іншых краін, стаяць складаныя задачы. Само нарастанне колькасці архіўных матэрыялаў магло б стаць невырашальнай праблемай, калі б не змены, якія сталі вынікам узнікнення і

развіцця новых тэхналогій. Але ў той жа час створаны новымі тэхналогіямі больш эфектыўныя метады захоўвання, атрымання і распаўсюджвання дакументальнай інфармацыі — праблемы, якія закранулі саму аснову прафесіі архівіста. Яны прывялі да пашырэння аксіём і тэорый, неабходных для таго, каб прыстасавацца да новых абставін, да стварэння новых прыёмаў і метадалогій. Ужо цяпер важна дакладна ўзважыць вынікі такіх перамен.

У якой ступені мы, работнікі архіваў, падрыхтаваны да выканання патрабаванняў новай эпохі? Для адказу на гэтае пытанне трэба прааналізаваць уласнае бачанне сваіх задач і спецыфікі сваёй працы. Мы належым да прафесіі, якая існуе ва ўсім свеце, і колькасць членаў яе ўзрастае з кожным годам. Але ці дастаткова ў нас ведаў, уменняў і ўпэўненасці дзеля таго, каб справіцца са сваёй работай у новых умовах распаўсюджвання інфармацыі, уласцівых перыяду канца XX і пачатку XXI стагоддзя? Да якой ступені кожны з нас прасякнуты тым усведамленнем нашай агульнай ролі і задач, якое павінна з’яўляцца асновай нашага самаадчування як адзінай прафесіі?

Паколькі мы не можам прадбачыць, да якіх вынікаў вядуць і прывядуць новыя метады кіравання інфармацыяй, для ўсіх і кожнага з нас жыццёва неабходным становіцца вызначэнне і разуменне сваёй ролі як спецыяліста. Таму мы павінны задацца пытаннем: як пашырыць і паглыбіць усведамленне нашай прафесіі і што трэба зрабіць, каб выканаць задачы, якія паўсталі перад намі і якія непараўнальныя па сваёй складанасці з задачамі, што калі-небудзь стаялі перад былымі пакаленнямі работнікаў архіваў.

Архівы ёсць катэгорыя больш складаная, чым проста збор інфармацыі ў выглядзе фактаў і дэталяў. Архіў — гэта адзінае цэлае, гэта поўная, непадзельная адзінка, складаючыя часткі якой узаемна звязаны і арганічна дапаўняюць адна другую. Як архівы цалкам, так і іх асобныя часткі можна разглядаць і разумець па-рознаму, але яны, тым не менш, былі і застаюцца для чалавецтва пастаяннай крыніцай пазнання і праверкі ісціны. Архівы ёсць памяць чалавецтва, і памяць больш надзейная, чым параўнальна слабая памяць асобнага чалавека ці групы людзей. Архівы адрозніваюцца паслядоўнасцю, стабільнасцю і надзейнасцю. Яны адлюстроўваюць карані нашай культуры і цывілізацыі ва ўсёй яе шматбаковасці, паколькі складаюцца з паўсядзённай чалавечай дзейнасці ў самых розных галінах. Гэта вынікі дзеянняў, думак, абмеркаванняў і рашэнняў, адлюстраванне ведаў і вопыту чалавецтва. Для перадачы гэтых ведаў і вопыту ад пакалення да пакалення неабходна штучная памяць, якая значна пераўзыходзіць чалавечую. Такой памяццю і з’яўляюцца архівы.

Свет без архіваў быў бы светам без памяці, культуры, законнасці, разумення каранёў гісторыі і навукі, светам, не маючым калектыўнага твару. Адпаведна на работнікаў архіваў ускладаецца велізарная адказнасць: забяспечыць грамадству магчымасць дакладнага вывучэння самога сябе шляхам доступу да архіваў, да сваёй грамадскай памяці.

Гэта адказнасць цягне за сабою неабходнасць прымаць рашэнні аб тым, якую дакументацыю трэба захоўваць. Узнікае вельмі важная задача, паколькі такое рашэнне будзе вызначаць змест культурнай спадчыны і калектыўнай свядомасці будучага грамадства. Акрамя таго, архівісты павінны забяспечыць найбольш працяглае існаванне архіваў, незалежна ад таго, захоўваецца дакументацыя на паперы ці з дапамогай сучасных носьбітаў інфармацыі. Работнікі архіваў вырашаюць гэтую задачу шляхам стварэння найбольш спрыяльных умоў для арганізацыі, аховы і выкарыстання архіваў. Яны зберагаюць жыццёва важныя ўзаемасувязі і суадносіны, якія забяспечваюць дакладнасць архіўнай дакументацыі. Такім чынам, у працэсе стварэння архіва яго работнікі прыкладаюць намаганні да таго, каб інфармацыя, што змяшчаецца ў дакументах, не была скажонай ці замаскіраванай. Потым складаецца навукова-даведачны апарат, які забяспечвае членам грамадства доступ да сваёй дакументальнай спадчыны.

Пералічаныя абавязкі вызначаюць неабходнасць адказных і актыўных адносін архіўных работнікаў да сваіх архіваў. Мы, архівісты, узброеныя ведамі і вопытам, нясём адказнасць за выкананне ўсіх працэсаў, якія вядуць да правільнага і надзейнага стварэння, захавання і выкарыстання архіваў. Гэта шматбаковая і важная мэта выступае ў якасці галоўнай задачы архівіста.

За апошнія гады інфармацыя стала пашыраным «аб’ектам ужытку», прадметам велізарнай галіны, якая ахоплівае тых, хто друкуе і распаўсюджвае прадукты інфармацыі, вытворцаў камп’ютэрнай апаратуры і яе праграмнага забеспячэння, капіравальных машын і камунікацыйнай тэхналогіі. Сектар інфармацыйнага абслугоўвання з’яўляецца сёння імкліва растучым. Інфармацыя і яе носьбіты, якія ствараюцца і прадаюцца ў велізарным маштабе, ператварыліся ў найважнейшы фактар нашага жыцця.

Само слова «архіў» больш не мае адназначных адносін толькі да паперы; яно можа таксама азначаць шэраг іншых носьбітаў інфармацыі, заснаваных на электронных і лічбавых метадах. У апошні час распрацаваны новыя метады вытворчасці, кантролю і кіравання. Іх развіццё працягваецца настолькі імкліва і эфектыўна, што мы вымушаны прызнаць як рэальнасць той факт, што архівы здольны ўжываць новыя формы і метады, якія ўжо не патрабуюць удзелу архівістаў. Таму мы павінны як мага хутчэй больш дак-

ладна акрэсліць сваю пазіцыю ў эпоху інфармацыі і распрацаваць уласную стратэгію дзеянняў. Трэба ставіць і вырашаць пытанне аб тым, як уплывае эпоха інфармацыі на архіўную справу і як распрацоўваць нашу тэорыю, прыстасоўваць нашу метадалогію і практыку да новых абставін з тым, каб застацца вернымі сваім абавязкам. Першы з іх — захоўваць дакументацыю, а другі — спрыяць яе эфектыўнаму выкарыстанню.

На працягу многіх стагоддзяў архівы ствараліся ў асноўным па адзінай схеме. У наш час новыя метады надаюць ім новую форму, якая на першы погляд можа здацца вельмі далёкай ад сутнасці архіўнай справы. У гэтай сувязі ў эпоху інфармацыі архівістам давядзецца вырашаць тры найважнейшыя задачы.

Па-першае, сучаснае развіццё тэхналогіі ставіць архівістаў перад неабходнасцю захоўваць цэласнасць архіваў новымі метадамі, бо ў нашы дні вельмі ўзрасла рызыка парушэння гэтай цэласнасці. Архівісты могуць і павінны прыняць усе неабходныя захады для іх аховы. Для дасягнення гэтай мэты мы ўступаем у канструктыўны дыялог з тымі, хто гэтыя архівы стварае. Мы прапануем свае ўласныя тэорыі і метадалогію карыстання дакументамі і, значыць, растлумачваем і падтрымліваем іх узаемазалежнасць у архіве. Тым самым імкнёмся забяспечыць цэласнасць дакладнай інфармацыі, якую архівы даюць грамадству.

Па-другое, у час, калі архіўная сістэма ствараецца носьбітамі інфармацыі, якія па сваёй прыродзе непастаянныя, яна можа падвяргацца непажаданым зменам альбо нават знішчэнню. Адсюль неабходнасць забяспечыць грамадству надзейную дакументацыю шляхам распрацоўкі дакладнага вызначэння тэрміна «арыгінальны дакумент».

Па-трэцяе, важнейшая задача — захоўваць дакументальную спадчыну і забяспечваць доступ да яе як сучаснаму, так і будучаму грамадству. Яна набывае асаблівае значэнне ў эпоху ўсё больш і больш нарастаючай плыні інфармацыі. Паколькі захаваць усю створаную і ствараемую ў нашы дні дакументацыю практычна немагчыма, патрэбна падысці да гэтай задачы выбіральна. Грамадства ўсклала на архівістаў вялікую адказнасць — вырашаць, што павінна быць уключана ў яго дакументальную спадчыну. Перад імі стаіць задача стварэння палітычных, прававых і культурных асноў карыстання дакументальнай спадчынай як для грамадства ў цэлым, так і для кожнага яго члена. Аднак рэсурсы нашы звычайна бываюць абмежаваныя, і калі мы маем намер іх павялічыць, то павінны ўсе разам і кожны асабіста дакладна і пераканаўча заявіць аб важнасці задачы, якую трэба вырашаць, і аб тым, якія рэсурсы для гэтага неабходны.

Такім чынам, грамадства даручыла нам важную справу. Упэўненае, што мы возьмем на сябе адказнасць за яе кампетэнтнае выкананне, яно ўхваліла і санкыянавала нашу дзейнасць. Яно дало нам пэўную ступень свабоды, самастойнасць, неабходныя для нашай працы. Паколькі архівісты знаходзяцца на службе ў грамадства, яны павінны стаяць тварам да яго патрэб. Гэта значыць, весці пастаянны дыялог паміж разуменнем канцэпцыі дакументальных архіваў з боку архівіста і выражэннем сваіх патрэб з боку грамадства. Вынікі такога дыялогу павінны ўвасабляцца ў практычных справах.

Архівы, як і само грамадства, увесь час мяняюцца. Наша поле дзейнасці пашырылася: калі раней яно ўключала толькі пэўную колькасць інфармацыі, зафіксаванай з дапамогай традыцыйных носьбітаў інфармацыі, то цяпер яно ахоплівае непамерна большую яе колькасць, якая збіраецца і назапашваецца шляхам усё больш новых метадаў. Адначасова сам характар архіваў ператварыўся з нязменнага ў пераменлівы. Задачы архівістаў, аднак, не змяніліся. Яны, як і раней, абавязаны ад імя грамадства ацэньваць і збіраць, захоўваць і забяспечваць доступ да архіўных матэрыялаў для самых розных мэтаў і патрэб — як вядомых, так і пакуль яшчэ невядомых. Наш час — эпоха інфармацыі — прад’яўляе высокія патрабаванні да нас саміх, да нашай кампетэнтнасці і эфектыўнасці нашай працы, да нашага пераканаўчага ўплыву.

Шлях да кампетэнтнага задавальнення ўсё новых і новых патрабаванняў ляжыць праз далейшае развіццё прафесіі архівіста. Трэба трывала ўсвядоміць, што патрабаванні, якія ставіць перад намі грамадства, — гэта патрабаванні да прафесіі, для задавальнення іх неабходны нашы вялікія намаганні, наша прафесійная кампетэнтнасць, нашы моцныя рукі. Мы, са свайго боку, павінны ўслед за сваім прызваннем прыкласці ўсе патрэбныя намаганні для паглыблення сваіх ведаў, што дазволіць паказаць грамадству сваю ўпэўненасць і рашучасць.

Але намаганні, пра якія ідзе гаворка, немагчымы без дакладна выпрацаванай у дзяржаве нацыянальнай інфармацыйнай палітыкі. Пад гэтым перш за ўсё трэба разумець палітычную волю ўрада стварыць неабходныя заканадаўчыя ўмовы для кіравання рэсурсамі, якія датычацца інфармацыйнага сектара. Гэтыя рэсурсы велізарныя і разнастайныя, яны ахопліваюць некалькі істотных элементаў:

— чалавечыя рэсурсы (прафесійныя і тэхнічныя работнікі, персанал падтрымкі і абслугоўвання);

— рэсурсы, якія звязаны з дакументамі (архіўныя фонды і бібліятэчныя зборы інкунабул і рэдкіх рукапісаў);

— фінансавыя рэсурсы (бюджэтныя сродкі для кіравання інфармацыяй і дакументамі);

— матэрыяльныя рэсурсы (інфраструктура, абсталяванне і тэхналогіі).

Пералічаныя элементы ствараюць унікальнае асяроддзе дакументазнаўства, уласцівае кожнай краіне, дапаўняюць мазаіку, вядомую пад назвай нацыянальная інфармацыйная палітыка. Такая палітыка з'яўляецца вынікам сумесных намаганняў усіх інфармацыйных сектараў, у якіх стратэгіі кожнай сферы аб'ядноўваюцца для падтрымкі мэты ў нацыянальным маштабе і кіруюцца дэмакратычна прынятымі законамі.

Гаворачы аб нацыянальных прыярытэтах у перспектыве развіцця архіўнай галіны, трэба назваць перш за ўсё перадавыя інфармацыйныя тэхналогіі, якія прапануюць шэраг новых варыянтаў для распаўсюджвання і забеспячэння доступу да «памяці Беларусі», г. зн. да архіваў, бібліятэк, фондаў, збораў, калекцый і інш. Камп'ютэрныя інфармацыйныя сістэмы ствараюцца з мэтай інфармавання грамадства аб дакументальнай спадчыне, яны выкарыстоўваюцца ў якасці інструмента для пошуку фондаў і збораў, а таксама для забеспячэння доступу да машыначытальных копій дакументаў, арыгіналы якіх захоўваюцца на паперы ці іншых традыцыйных носьбітах. Ва ўсім свеце праводзіцца вялікая праца ў гэтай галіне. За апошнія гады ўжыванне сеткі Internet склала аснову для татальнай рэвалюцыі ў справе распаўсюджвання такой інфармацыі.

Гаворка ідзе, зразумела, не пра інфармацыю наогул, а пра інфармацыю, якая з'яўляецца каштоўнай для архіваў і іх карыстальнікаў. Адсюль паўстае задача наладзіць доступ да патрэбных інфармацыйных крыніц і навучыць архівістаў карыстацца электроннымі сістэмамі. Нам неабходна як мага хутчэй вырашыць, як мы можам стварыць сховішчы лічбавых матэрыялаў у сферах, вельмі важных для нашай краіны.

Няма сумнення ў тым, што Internet дапаможа вырашыць памянёную праблему.

Спадзяванні на глабальную электронную сетку Internet сёння велізарныя. У архіўных колах шырока абмяркоўваецца, як яна зменіць усю інфармацыйную структуру і створыць новыя шляхі атрымання інфармацыі. Фактычна развіццё Internet пачалося ў Міністэрстве абароны Злучаных Штатаў. Але сёння Internet — гэта ўсясветная павуціна ўзаемазвязаных універсітэцкіх, дзелавых, ваенных і навуковых сетак. Яна складаецца з гіганцкіх рэгіянальных, буйных гарадскіх і мясцовых сетак. Усе яны звязаны ў адзіную сетку.

Internet забяспечвае доступ і выкарыстоўваецца для размеркавання ўсіх відаў рэтраінфармацыі, лістоў, перыядычных выданняў, кніг і г. д. Паводле

апошніх падлікаў, у наш час існуе больш сотні мільёнаў людзей і кампаній, звязаных з сістэмай Internet, і яна дала велізарныя адукацыйныя крыніцы, калі-небудзь вядомыя ў гісторыі чалавецтва. Яна аб'ядноўвае веды універсітэцкіх бібліятэк, архіваў, навукова-даследчых цэнтраў амаль ва ўсім свеце — прынамсі, тэарэтычна. Праўда, аднак, у тым, што, хоць мы і гаворым пра яе глабальную сетку, тым не менш і да сённяшняга часу існуе вялікая перашкода для рэальнага выкарыстання Internet. Большая частка насельніцтва свету не можа выкарыстоўваць камп'ютэрную сувязь на сваёй уласнай мове. Больш складанымі бар'ерамі на шляху яе развіцця з'яўляюцца тэхнічная інфраструктура, выдаткі і кампетэнцыя персаналу.

І ўсё ж давайце на некаторы час забудземся пра перашкоды і звернемся да нашых магчымасцей. Крыніцы Internet не вельмі адрозніваюцца ад інфармацыі, якую мы знаходзім на архіўных паліцах. Назвы «электронны архіў» ці «віртуальны архіў» на самай справе вельмі дакладна характарызуюць сітуацыю. Internet забяспечвае доступ да ўсіх відаў інфармацыі і ператворыцца ў архіў Internet, і ўсё, што змяшчаецца ў ім, крок за крокам дапоўніць ці, можа, нават зменіць у нейкай ступені архіўныя сховішчы. З бурным развіццём сеткі Internet практычна ўсе сховішчы лічбавых матэрыялаў стануць праз яе даступнымі тым ці іншым шляхам, а колькасць інфармацыі ў сетцы ўзрастае ў геаметрычнай прагрэсіі.

Ці здолее Internet стаць сродкам вырашэння новых архіўных праблем? Для гэтага трэба звярнуцца да практыкі, і гэта тое, што мы хочам зрабіць у праекце «Віртуальны архіў Беларусі».

Мэтай праекта з'яўляецца стварэнне электронных копій дакументаў, якія адносяцца да гісторыі Расіі, Беларусі, Літвы і Украіны эпохі сярэднявечча і новага часу. Яго выкананне павінна дазволіць значна палегчыць доступ да інфармацыі, жыццёва важнай для ўмацавання нацыянальнай і гістарычнай самасвядомасці народаў гэтых краін і ўсведамлення імі свайго месца ў еўрапейскай цывілізацыі.

Асноўныя комплексы архіўных дакументаў, якія сфарміраваліся ў перыяд Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і часткова Расійскай імперыі, складаюць агульную гістарычную спадчыну рускіх, беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў. Сёння яны разгрупаваны па фондах гістарычных архіваў і бібліятэк паказаных вышэй краін, а таксама Польшчы. Дакументы змяшчаюць у сабе найбагацейшую інфармацыю па палітычнай, эканамічнай, культурнай гісторыі гэтага рэгіёна, па генеалогіі яго насельніцтва. Агульны іх аб'ём складае, магчыма, сотні тысяч адзінак захоўвання (дзесяткі мільёнаў старонак). Кожны з названых комплексаў дазваляе асэнсаваць толькі частку агульнага малюнку і мае патрэбу ў

дапаўненні матэрыяламі з іншых комплексаў. Пры гэтым нярэдка дакументы, якія захоўваюцца ў адным з нацыянальных архіваў, цалкам адносяцца да тэрыторыі іншай краіны. Перадача арыгіналаў дакументаў за межы краін-уладальнікаў у цяперашніх умовах з'яўляецца вельмі праблематычнай. Доступ да іх ускладняецца як наяўнасцю дзяржаўных межаў, так і малой прапускной здольнасцю сённяшніх архіваў, якая дазваляе задавальняць вельмі невялікую колькасць запытанняў. Акрамя таго, інтэнсіўнае выкарыстанне арыгіналаў можа прывесці да іх разбурэння. Абмен мікрафільмамі і фотакопіямі толькі часткова дазваляе вырашыць праблему, бо магчымасці іх тыражавання таксама абмежаваныя.

Радыкальным рашэннем магло б стаць стварэнне лічбавых копій дакументаў шляхам сканіравання. Іх можна выдаваць даследчыкам на кампакт-дысках, у выглядзе файлаў электроннай пошты ці раздрукоўваць на паперы. Улічваючы, што сабекошт запісу кампакт-дыска складае сёння менш за 5 долараў, магчымасці тыражавання аднойчы створаных электронных версій дакументаў неабмежаваныя. Практычна кожны, хто пажадае, зможа атрымаць паўнацэнную інфармацыю, якая адлюстроўвае як змест, так і знешні выгляд крыніцы. Такое рашэнне будзе рэзка стымуляваць працу прафесійных даследчыкаў, выкананне генеалагічных запытанняў, а таксама распрацоўку навучальных праграм для школ і універсітэтаў, дзейнасць грамадскіх арганізацый, краязнаўцаў і генеолагаў-аматараў.

У праекце, які прапануецца, намячаецца удзел як мінімум 15 архіваў і бібліятэк з васьмі гарадоў пяці краін:

Ад Расійскай Федэрацыі: Дзяржаўны архіў старажытных актаў — г. Масква; Дзяржаўны гістарычны архіў; Публічная бібліятэка імя М.Я.Салтыкова-Шчадрына; Архіў Санкт-Пецярбургскага аддзялення Акадэміі навук — г. Санкт-Пецярбург;

Ад Рэспублікі Беларусь: Нацыянальныя гістарычныя архівы — г. Мінск, г. Гродна;

Ад Літоўскай Рэспублікі: Дзяржаўны гістарычны архіў; Бібліятэка Акадэмі навук; Бібліятэка Вільнюскага універсітэта — г. Вільнюс;

Ад Польшчы: Архіў старажытных актаў — г. Варшава, Бібліятэка Чартарыйскага — г. Кракаў;

Ад Украіны: Дзяржаўны гістарычны архіў; Цэнтральная навуковая бібліятэка Акадэміі навук — г. Кіеў; Дзяржаўны гістарычны архіў, бібліятэка Акадэміі навук — г. Львоў.

Акрамя таго, патрэбны ўдзел тых універсітэтаў, якія маглі б узяць на сябе ролю каардынатараў праекта на ўзроўні краін-удзельніц (па адным ад кожнай з пяці краін).

Рэалізацыя праекта павінна прайсці некалькі этапаў.

*На першым з іх* неабходна будзе скласці пералік асноўных комплексаў дакументаў, якія намечаны да сканіравання, вызначыць чарговасць іх апрацоўкі. У выніку вызначыцца катэгорыя найбольш каштоўных дакументаў (каля мільёна старонак), сканіраванне якіх павінна прынесці найбольш хуткі і найбольш значны эфект. Гэтую работу давядзецца правесці архіўным установам, у якіх захоўваюцца дакументы, разам з навукова-даследчымі цэнтрамі. Па нашым меркаванні, у кожным з 14 месцаў захавання архіўных крыніц патрабуецца праца 1–2 даследчыкаў на працягу 3–12 месяцаў.

*На другім этапе* (храналагічна можа супадаць з першым) будзе распрацоўвацца тэхнічны праект сістэмы атрымання электронных выяў, іх захавання і тыражавання. Ён павінен уключаць выбар канкрэтных тэхнічных і праграмных сродкаў. Рэалізацыю гэтай задачы магла б узяць на сябе спецыялізаваная праектная арганізацыя ці фірма адной з краін-удзельніц праекта.

*На трэцім этапе* давядзецца набыць як мінімум 8 праграмна-тэхнічных комплексаў і ўстанавіць іх у кожным з 8 паказаных гарадоў, а таксама правесці навучанне персаналу. У склад кожнага комплексу, паводле папярэдніх меркаванняў, павінны ўвайсці па дзве рабочыя станцыі на базе камп’ютэраў класа Pentium II (адна з іх павінна быць аснашчана планшэтным сканерам фармату А3; другая — канструкцыяй для запісу на кампакт-дыскі), а таксама адпаведнае праграмнае забеспячэнне.

*На чацвёртым этапе* пройдуць сканіраванне дакументаў, першасная апрацоўка выяў, стварэнне мінімальнага даведачнага апарату і запіс выяў на кампакт-дыскі для пастаяннага захоўвання і тыражавання. Выявы мяркуецца захоўваць у графічным (піксельным) фармаце, без распазнавання тэксту. Як сведчыць міжнародны вопыт аналагічных праектаў, кожная рабочая станцыя дазволіць якасна апрацоўваць да 100 старонак у дзень (25 000 старонак у год). Гэта дазволіць за некалькі гадоў стварыць электронныя копіі дакументаў, вызначаныя як найбольш каштоўныя на першым этапе. Кожны камплект з дзвюх рабочых станцый патрабуе пастаяннага ўдзелу 2 аператараў.

*На пятым, апошнім этапе* (храналагічна часткова супадае з чацвёртым) будуць праводзіцца тыражаванне электронных копій па заяўках канкрэтных карыстальнікаў, археаграфічная апрацоўка дакументаў (пры неабходнасці — пераклад іх на сучасныя мовы) і забеспячэнне паўнацэнным даведачным апаратам. У выніку, акрамя лічбавых выяў дакументаў, будуць створаны іх машыначытальныя версіі.

Мяркуецца, што фінансаванне праекта (на яго выкананне патрэбны значныя фінансавыя сродкі) на кожным этапе і ў цэлым будзе ажыццяўляцца краінамі-ўдзельніцамі па дагаворанасці (сваімі сіламі, у рамках асобных рэгіянальных праектаў і інш.) і з прыцягненнем спонсараў.

Цяпер на Беларусі прапрацоўваецца пытанне аб стварэнні віртуальных архіваў «Літоўская метрыка», «Архіў Радзівілаў» і інш.

Калі ўсім зацікаўленым дзяржавам і іх установам узяцца за ажыццяўленне праекта, пра які ідзе размова, то можна быць упэўненымі, што вынікі пераўзыдуць усе нашы чаканні.

Менавіта таму ў саюзе Беларусі і Расіі вельмі патрэбны быў бы аналагічны заходнім інстытут незалежных кансультантаў, якія маглі б, ведаючы асаблівасці айчыннага справаводства, архіўнай справы і сучасных праграмных комплексаў, прааналізаваўшы патрэбы канкрэтнай арганізацыі, даць рэкамендацыі па той ці іншай тэхніцы, той ці іншай платформе і адпаведна таго ці іншага вырашэння практычнай задачы. На наш погляд, кансультацыйныя цэнтры маглі б стварыць у сябе такія ВНУ, як Расійскі дзяржаўны гуманітарны універсітэт (РДГУ) ці Беларускі дзяржаўны універсітэт (гістарычны факультэт, кафедра крыніцазнаўства і музеязнаўства, дзе выкладаецца гістарычная інфарматыка). Магчымы і такі варыянт, калі за гэтую справу ўзяўся б Дзяржаўны універсітэт кіравання, які мае як кафедру дакументазнаўства, так і кафедру вылічальнай тэхнікі, ці Усерасійскі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы (УНДІДАС). Гэты інстытут з’яўляецца цэнтрам распрацоўкі метадычнага забеспячэння работы з дакументамі ў справаводстве і архіве, укаранення сучасных камп’ютэрных тэхналогій у архіўную справу.

Мая мара як старшыні Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству РБ — стварэнне арміі кампетэнтных энтузіястаў архіўнай справы, прафесіяналаў, якія здольныя паспяхова даводзіць да грамадства важнае значэнне архіваў, нястомна і пераканана паглыбляць свае веды, сумесна працаваць для дасягнення агульнай мэты.

Калі мы бачым неразуменне ў грамадстве адказнай ролі архіваў, давайце пральём святло ведаў для пераадолення гэтай недасведчанасці. Калі мы бачым, што архівы застаюцца ў цяні грамадскай думкі, давайце ўздымем факел, які іх асвятліць. Калі ўзнікае ў грамадстве неабходнасць вырашыць, ці трэба далей захоўваць тую ці іншую дакументацыю, давайце дапаможам яму ў выбары правільнага рашэння. Калі ж мы бачым, што наш уплыў нязначны і нашы абавязкі не знаходзяць адпаведнага прызнання, давайце з усёй рашучасцю дабівацца ўсведамлення каштоўнасці архіўнай працы.

Калі мы самі не разумеем альбо не ведаем чагосьці, давайце зробім усё неабходнае для ўласнага адукавання. Калі нам неабходна навучыцца новым ідэям і новым метадам, прыкладзём намаганні да таго, каб яны арганічна ўвайшлі ў кантэкст нашай нязменнай мэты і нашых прынцыпаў.

Калі мы збіраемся разам, давайце рупліва працаваць на карысць архіваў і разумення іх значэння нашым грамадствам. Не будзем забываць, што нягледзячы на сур'ёзныя цяжкасці і перашкоды, якія стаяць перад намі, моц нашага інтэлекту і пераканаўчасць — як усіх разам, так і кожнага паасобку — дапаможа гэтыя цяжкасці і перашкоды пераадолець.

***У.В.Фядосаў***

## ПРАБЛЕМЫ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАДРЫХТОЎКІ СУПРАЦОЎНІКАЎ АРХІЎНАЙ ГАЛІНЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

У пераходны перыяд усё больш усведамляецца неабходнасць дакладных ведаў пра набыты чалавекам вопыт, актывізуецца імкненне асэнсаваць гэты вопыт спробаў, памылак, поспехаў для прыняцця новых рашэнняў. Сам час прыводзіць да тэндэнцыі ўзаемадзеяння вучоных розных спецыяльнасцей, узнікнення асаблівых міждысцыплінарных кантактаў, з'яўлення новых навуковых дысцыплін. Эвалюцыя прафесіі архівіста, неабходнасць максімальна поўнага задавальнення патрэбаў грамадства ў рэтраспектыўнай дакументнай інфармацыі, эканамічныя рэаліі прывялі да больш глыбокага разумення значэння эканамічных умоваў і эканамічных механізмаў для вырашэння задач, што стаяць перад галіною. У святле сказанага пытанне распрацоўкі эканамічных праблем тэорыі і практыкі архіўнай справы ў Рэспубліцы Беларусь уяўляецца ўсё больш важным і актуальным. Карэнныя змены ў эканамічным жыцці грамадства, станаўленне архіваў як суб'екта эканомікі, істотная карэкціроўка спосабаў эканамічнага забеспячэння архіўнай галіны патрабуюць ад архівістаў не толькі глыбокіх і ўсебаковых ведаў у выбранай сферы дзейнасці, але і ўліку эканамічнага боку працоўных аперацый, што праводзяцца, і рашэнняў, якія прымаюцца.

У тэарэтычным плане даўно ўжо наспела патрэба ў вывучэнні ў рамках архівазнаўства спецыяльнай навуковай дысцыпліны «эканоміка архіўнай справы», у распрацоўцы яе ўнутранай структуры, катэгарыяльнага апарату, вызначэнні міжпрадметных і міжгаліновых сувязей і г. д. У аснову выкладання гэтай навуковай дысцыпліны, на думку аўтара, можа быць пакладзена

рабочая праграма курса «Асновы архіўна-эканамічных ведаў», зацверджаная Вучоным саветам Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы (*гл.* Архівы і справаводства. 1999. № 1). У праграме вызначана дзесяць тэм, якія ахопліваюць асноўныя моманты, звязаныя з функцыянаваннем эканомікі архіўнай галіны. Адной з іх з’яўляецца эканамічная падрыхтоўка і адукацыя архівістаў.

Эканамічная падрыхтоўка, эканамічнае мысленне, стыль эканамічнай працы — усё часцей мы чуем гэтыя словы, асабліва на сучасным этапе пераходу да рынкавых адносін. Эканамічнае мысленне сёння становіцца важнай умовай правядзення якасных пераўтварэнняў у архіўнай галіне. На сучасным этапе гэтыя пераўтварэнні маюць на ўвазе неабходнасць вырашэння шырокага комплексу задач, звязаных з працай пры мінімальных аб’ёмах бюджэтнага фінансавання, якое дазваляе па сутнасці толькі падтрымліваць неабходныя тэхналагічныя рэжымы захоўвання архіўных дакументаў, пры нізкім узроўні заработнай платы работнікаў, адсутнасці дастатковай колькасці кадраў вышэйшай кваліфікацыі.

Забяспечыць неабходны ўзровень эканамічнага мыслення студэнтаў, супрацоўнікаў архіўнай галіны можна толькі маючы адпаведную вучэбную базу, вучэбна-метадычную, навуковую і іншую літаратуру. На жаль, такой базы не мае ні адна з вучэбных устаноў, што займаюцца падрыхтоўкай гісторыкаў-архівістаў, спецыялістаў па справаводству, не гаворачы ўжо пра самі архівы. Як вынік — многімі архівістамі яшчэ не да канца ўсвядомлены той факт, што эфектыўнасць эканамічнай дзейнасці архіваў (асабліва ва ўмовах перманентнага эканамічнага крызісу) звязана не толькі з найбольш поўным задавальненнем матэрыяльных патрэбаў архіваў, але і з рацыянальным выкарыстаннем эканамічных рэсурсаў. Зыходзячы з гэтага і павінна сёння разглядацца эканамічная падрыхтоўка супрацоўнікаў архіўнай галіны Рэспублікі Беларусь. Яна патрэбна ўсюды: як на ўзроўні кіраўнікоў, бухгалтараў дзяржаўнай архіўнай службы — для эканамічнага абгрунтавання запланаваных мерапрыемстваў, так і на ўзроўні радавых супрацоўнікаў — для эфектыўнага выкарыстання выдзеленых сродкаў.

Чым жа павінна адрозніваца, на наш погляд, эканамічнае мысленне супрацоўнікаў архіўнай галіны Рэспублікі Беларусь? У наяўнай эканамічнай літаратуры само паняцце «эканамічнае мысленне» трактуецца па-рознаму. Але ў большасці яго вызначаюць як сукупнасць эканамічных ідэй, поглядаў, уяўленняў, тэорый, якія непасрэдна адлюстроўваюць эканамічную дзейнасць і паказваюць адносіны суб’ектаў мыслення да з’яваў гаспадарчага жыцця грамадства, галіны, прадпрыемства. Такое азначэнне ўяўляецца нам правамерным.

Працэс пазнання эканамічных адносін уключае ў сябе засваенне набытых эканамічнай навукай ведаў (паняцці, катэгорыі, законы, ідэі, гіпотэзы), здабыванне новых ведаў, удакладненне існуючых і фарміраванне ў свядомасці ўсё больш поўнага тэарэтычнага вобразу эканомікі. Адначасова эканамічнае мысленне ўяўляе сабой і працэс суаднясення эканамічных ведаў з рэальнымі эканамічнымі праблемамі, пошук шляхоў іх вырашэння, выбар аптымальнага рашэння. Як відаць, здольнасць эканамічна мысліць чалавек не атрымлівае ад нараджэння, а набывае паступова ў працэсе сацыяльнага дзеяння, у ходзе гаспадарчай дзейнасці. Такім чынам, эканамічнае мысленне чалавека ёсць вынік яго творчай дзейнасці.

Эканамічнае мысленне архівіста павінна знаходзіць сваё выражэнне перш за ўсё ў яго творчай дзейнасці ў час падрыхтоўкі дакументаў да захоўвання і арганізацыі выкарыстання, уключаючы размеркаванне, абмен, ужыванне архіўнай інфармацыі. Яно фарміруецца ў свядомасці супрацоўніка як у працэсе навучання, так і ў практычнай рабоце. Трэба, аднак, улічваць, што першаступеннае значэнне тут мае правільнае вызначэнне аб'ёму і зместу неабходных эканамічных ведаў, іх мінімум, а таксама дыферэнцыяцыя сістэмы падрыхтоўкі як па ўзроўню адукацыі, так і па профілю рыхтуемых спецыялістаў. Напрыклад, асабліва значнай уяўляецца патрэбнасць галіны ў кваліфікаваных фінансавых спецыялістах, што звязана з павышэннем ролі фінанасаў у кіраванні эканамічнымі працэсамі, развіццём сеткі платных паслуг, якія выконваюцца архіўнымі ўстановамі Рэспублікі Беларусь. Бухгалтары, эканамісты галіны павінны пастаянна павышаць сваю кваліфікацыю, самастойна вывучаць асновы рынкавай эканомікі.

Што датычыцца іншых супрацоўнікаў галіны, то агульныя накірункі іх эканамічнай падрыхтоўкі розныя. Па-першае, яны звязаны з пастаянным узбагачэннем сябе новымі, неабходнымі для працы ведамі эканамічнай тэорыі і эканомікі архіўнай справы, г. зн. прадугледжваць пэўныя элементы самападрыхтоўкі. Па-другое, з авалоданнем уменнямі і навыкамі практычнага выкарыстання гэтых ведаў для павышэння эфектыўнасці дзейнасці пры аптымальных затратах матэрыяльных рэсурсаў.

Але і ў тым, і ў другім выпадку ўзнікае шэраг праблем аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару, звязаных з нераспрацаванасцю эканамічных аспектаў архіўнай справы ў Рэспубліцы Беларусь, недастатковай падрыхтоўкай кадраў прафесарска-выкладчыцкага складу ў гэтым плане, адсутнасцю навуковых, вучэбных і метадычных распрацовак адпаведнага профілю. Прыкладам адсутнасці добрых дапаможнікаў па эканамічнай тэорыі могуць быць падручнікі, што выдаюцца ў рэспубліцы і ў блізкім за-

зале пасяджэнняў у дзень адкрыцця канферэнцыі партрэта У.І.Леніна, чырвоных сцягоў, пераважанне нацыянальных колераў; накіраванне ў прэзідыум канферэнцыі заявы, падпісанай групай яе удзельнікаў, аб магчымасці пераходу ў перспектыве ў беларускім правапісе з кірыліцы на лацінку; у прамовах некаторыя камуністы не вызначылі кіруючую ролю КП(б)Б у культурным будаўніцтве ў БССР. А.І.Крыніцкаму давялося пісаць у ЦК ВКП(б) вялікую тлумачальную запіску «Аб выніках і вывадах Акадэмічнай канферэнцыі па беларускаму правапісу і азбуцы». У ёй ён даводзіў, што ЦК КП(б)Б пры правядзенні нацыянальнай палітыкі і беларусізацыі бачыць небяспеку з боку мясцовага шавінізму і нацыянал-дэмакратызму і што будуць зроблены ўсе патрэбныя захады, каб забяспечыць партыйную лінію[13]. Тым не менш як унутранае, так і міжнароднае значэнне канферэнцыі — важнага фактара нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР — прызнавалася ўсімі.

Вядомы латышскі паэт Ян Райніс, напрыклад, у рыжскай газеце «Сацыял-дэмакрат» 24 лістапада 1926 г. пісаў пра свае ўражанні ад удзелу ў канферэнцыі і наведвання Мінска: «Справа друку (кнігі) і наогул асветы моцна ідзе наперад. У школах і ў вышэйшых навучальных установах выкладаецца на беларускай мове. Прыбыўшыя на канферэнцыю госці агледзелі ВНУ, добра абсталяваныя клінікі, заалагічнае сховішча. Вялізныя мясцовыя дзяржаўныя музеі мастацтва, прыродазнаўства і этнаграфіі... Самастойны беларускі тэатр існуе ўсяго пяць год, але, выкарыстоўваючы папярэдні вопыт, ён дасягнуў высокай ступені развіцця»[14]. Дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, аўтар першай «Беларускай граматыкі для школ» Браніслаў Тарашкевіч, якому польскія ўлады не дазволілі ўдзельнічаць у канферэнцыі, паведамляў У.М.Ігнатоўскаму: «...Канферэнцыя адклікнулася ў нас даносным рэхам і не толькі сярод беларускага грамадства, але і ў польскіх і літоўскіх кругах. Усе вельмі зацікаўлены... Усім стала ясна, што Менск запраўды можа пахваліцца значнымі культурнымі дасягненнямі, не баючыся паказацца «загранічным гасцям»[15].

Пасля Акадэмічнай канферэнцыі паглыбіўся працэс перагляду сваіх палітычных пазіцый у асяроддзі многіх дзеячаў беларускай эміграцыі, пачаты яшчэ Берлінскай канферэнцыяй (12 кастрычніка 1925 г.). На гэтай канферэнцыі была распушчана Рада БНР, а Мінск прызнаны адзіным цэнтрам кансалідацыі беларускага народа і адраджэння яго культуры. Група дзеячаў Рады на чале з яе старшынёю А.І.Цвікевічам вярнулася ў БССР. Яшчэ раней, 13 ліпеня 1923 г., ЦВК СССР і ЦВК БССР прынялі рашэнне аб амністыі ўдзельнікаў палітычных партый і плыняў, якія адмовіліся ад ба-

рацьбы супраць савецкай улады. Усім, хто вярнуўся, гарантаваліся палітычныя правы і свабоды. У выніку навукова-творчы патэнцыял беларусізацыі ўзрос.

Прынятыя Акадэмічнай канферэнцыяй пастановы аб рэформе беларускага правапісу і азбукі не набылі сілу закона. Аднак яны ўлічваліся пры распрацоўцы ў далейшым правапісных праектаў. У 1927 г. працы канферэнцыі былі выдадзены асобным зборнікам і выкарыстоўваліся ў практычнай рабоце мовазнаўцамі і літаратарамі.

## 2. Распрацоўка канцэпцыі беларусізацыі

Да беларусізацыі ў рэспубліцы падыходзілі паступова, па меры ліквідацыі цяжкіх вынікаў грамадзянскай вайны, пазбаўлення ад бандытызму, вывядзення народнай гаспадаркі з крызіснага стану, падвядзення пад гэтую палітыку неабходнай эканамічнай базы, стварэння кадравых перадумоў. Наўрад ці можна без пэўных удакладненняў згадзіцца са сцверджаннем, што да 15 ліпеня 1924 г., калі ЦВК БССР прыняў пастанову «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі», нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа больш мела грамадска-ініцыятыўны, чым дзяржаўны характар[16]. У 1924 г. нарком асветы БССР У.М.Ігнатоўскі, які на ліпеньскай сесіі ЦВК выступіў з дакладам аб распрацоўцы названых вышэй практычных мерапрыемстваў, падкрэсліваў, што гэтыя мерапрыемствы з'яўляюцца працягам вялікай работы, якая праводзіцца у рэспубліцы з пачатку 1920-х гадоў. Як важнейшыя крокі ў ім былі названы прыняцце ў лютым 1919 г. на першым з'ездзе Саветаў Беларусі Канстытуцыі ССРБ, у ліпені 1920 г. — Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці ССРБ, у лютым 1921 г. — рашэнняў сесіі ЦВК ССРБ аб узмацненні работы Народнага камісарыята асветы на мясцовых мовах (беларускай, яўрэйскай, рускай і польскай), пры наданні асаблівага значэння мове «першай важнасці — беларускай», і аб мерах па павелічэнні колькасці школьных працаўнікоў-беларусаў. Наркамасветы асігнаваліся значныя сродкі на пастаноўку народнай асветы, адкрыццё бібліятэк, навуковых устаноў, арганізацыю выдавецкай справы. ЦВК адобрыў мерапрыемствы па стварэнні Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Быў прыняты зварот ЦВК да культурных работнікаў — ураджэнцаў Беларусі — з заклікам вяртацца на радзіму, каб прымаць удзел у яе нацыянальна-культурным адраджэнні. У.М.Ігнатоўскі прааналізаваў таксама з пазіцый пераемнасці дзейнасць партыйных і дзяржаўных органаў рэспублікі ў 1921–1923 гг. па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі і развіцці беларускай культуры[17].

Аналагічная ацэнка была выказана і ў Палітычнай справаздачы ЦК X з'езду КП(б)Б. У адпаведнасці з гэтай справаздачай КП(б)Б пачала «ўшчыльную» падыходзіць да практычнага вырашэння нацыянальнага пытання ў БССР з 1921 г. Адначасова, аднак, прызнавалася, што нацыянальныя праблемы да 1923 г. «вялікага месца ў палітычнай рабоце яшчэ не займалі». «Бударажачым фактарам» у той час была пастаноўка камуністамі-беларусамі перад кіруючымі партыйнымі органамі пытанняў аб стварэнні ў КП(б)Б «беларускіх секцый» (1919) і аб важнасці з улікам унутранага і міжнароднага становішча ператварэння ССРБ ва «ўзорную савецкую рэспубліку» (1921).

Апошняя ідэя сфармулявана ад імя 32 беларусаў-камуністаў («Заява 32-х») у Дакладной запісцы ў ЦК РКП(б) на імя У.І.Леніна (14 студзеня 1921 г.) і Дакладзе ў ЦБ КП(б)Б (1 лютага 1921 г.). У гэтых дакументах дзеля развіцця беларускай дзяржаўнасці ва ўмовах захопу Польшчай Заходняй Беларусі прапаноўвалася сабраць беларускія землі ў межах адзінага вытворча-гаспадарчага і этнаграфічнага арганізма і вырашыць праблему за кошт усходніх беларускіх тэрыторый, што ў гады грамадзянскай вайны ўвайшлі ў склад РСФСР. Эканамічныя адносіны з Савецкай Расіяй меркавалася будаваць на аснове адзінага гаспадарчага плана з улікам гістарычных асаблівасцей, рэсурса-сыравіннага забеспячэння Беларусі. Адзначалася неабходнасць вяртання ў рэспубліку беларускіх камуністаў, раскіданых па Расіі ў час 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў, запрашэння кваліфікаваных спецыялістаў, якія ведаюць край і гатовыя ў ім працаваць. Значная частка даклада прысвячалася нацыянальна-культурным пытанням: развіццю нацыянальнай асветы, школы, кнігавыдання, пашырэнню ўжывання беларускай мовы. У прыватнасці, прапанавалася партыйную агітацыю і прапаганду сярод працоўных рэспублікі перавесці на родную мову[18].

Пры разглядзе «Заявы 32-х» («Даклада») на пасяджэнні ЦБ КП(б)Б 15 лютага 1921 г., як сведчыць пратакол пасяджэння, яна была празнана «не вытрыманай і не абрунтаванай у камуністычным духу»[19]. У далейшым, на рубяжы 1920–1930 гг., яна трактавалася ўжо як «нацыянал-дэмакратычны катэхізіс», як «платформа, спісаная ў эсэраўскай арганізацыі». Тым не менш, у 1920-я гады ў ходзе беларусізацыі многія ідэі, сугучныя ёй, праводзіліся ў жыццё, хоць аб гэтым прама не гаварылася. Дастаткова назваць тэрытарыяльнае ўзбуйненне БССР 1924 і 1926 гг. шляхам вяртання ёй беларускіх зямель, якія знаходзіліся ў складзе РСФСР, правядзенне эканамічнай палітыкі ў адпаведнасці з традыцыямі гаспадарання, рэсурс-

ным забеспячэннем і асаблівасцямі Беларусі, вяртанне ў рэспубліку нацыянальнай інтэлігенцыі як з РСФСР, УССР, так і з-за мяжы.

У дакладах У.М.Ігнатоўскага на ліпеньскай (1924) сесіі ЦВК БССР, А.І.Крыніцкага на X з’ездзе КП(б)Б (1927) падкрэслівалася значэнне для канцэптуальнага фарміравання палітыкі беларусізацыі даклада старшыні ЦВК БССР і адначасова Старшыні СНК БССР, члена бюро ЦК КП(б)Б А.Р.Чарвякова «Нацыянальныя моманты ў дзяржаўным і партыйным будаўніцтве» і яго абмеркавання на XII Усебеларускай партыйнай канферэнцыі (VII з’езд КП(б)Б, 20–26 сакавіка 1923 г.). Гэта было першае шырокае абмеркаванне прынцыпаў беларусізацыі як важнейшага праяўлення нацыянальнай палітыкі, якія ў далейшым удакладняліся, канкрэтызаваліся і дапаўняліся.

У дыскусіі, як паказвае стэнаграма пасяджэння, сутыкнуліся два пункты гледжання на нацыянальнае пытанне ў цэлым, на праблемы беларускай культуры, беларускай мовы дзвюх частак КП(б)Б, якія можна пазначыць як звышінтэрнацыяналісцкую і нацыянальна-арыентаваную. Першая, па сутнасці, змазвала значэнне нацыянальнага пытання, афіцыйна нібы прызнавала яго існаванне, а на справе не заўважала, захапляючыся звышінтэрнацыяналісцкімі ідэямі, блізкімі да трацкісцкіх. Беларуская культура, мова ў разуменні гэтай часткі з’яўлялася пабочным прадуктам грамадскага жыцця, з якім наўрад ці варта лічыцца. Другая частка падыходзіла да нацыянальнага пытання як маючага самадастатковае значэнне, бачыла задачу ў тым, каб, выкарыстоўваючы перавагі савецкай улады, дабіцца хутчэйшага нацыянальнага адраджэння беларускага народа, яго культуры, мовы, разумна спалучаючы ў практычнай працы нацыянальнае і інтэрнацыянальнае. Перамогу атрымаў гэты падыход. Ён быў замацаваны рэзалюцыяй «Па нацыянальным пытанні», прынятай па тэзісах, якія зачытаў А.Р.Чарвякоў.

Галоўнымі былі палажэнні:

1) Канчатковае вызначэнне тэрыторыі Беларусі шляхам уключэння ў яе склад родных ёй суседніх раёнаў, для чаго патрэбны перагляд і перагрупоўка існуючых адміністрацыйна-гаспадарчых дзяленняў у адпаведнасці з іх натуральна-гістарычнымі, эканамічнымі, вытворча-дынамічнымі і культурна-нацыянальнымі асаблівасцямі.

2) Забеспячэнне большай дэцэнтралізацыі кіравання галінамі прамысловасці мясцовага значэння.

3) Уцягненне шырокіх пластоў насельніцтва рэспублікі ў актыўнае нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва.

4) Развіццё школы, прэсы, тэатра, клубаў і іншых культурна-асветных устаноў на роднай мове (беларускай, яўрэйскай, рускай і польскай), прыняўшы ўсе патрэбныя меры для наладжвання працы на беларускай мове, стварэння нармальных умоў для развіцця беларускай культуры.

5) Барацьба з ухіламі ў нацыянальнай палітыцы і шкоднымі ўплывамі ў міжнацыянальных адносінах.

6) Кіраўніцтва беларускай працай павінна ажыццяўляцца камуністычнай партыяй як у цэнтры, так і на месцах[20].

Беларусізацыя стала дзецішчам нацыянальна-арыентаванай часткі КП(б)Б, якая ў 1920-я гады выступала своеасаблівым рухавіком вырашэння ў рэспубліцы нацыянальнага пытання. Сярод яе прадстаўнікоў было нямала партыйных і дзяржаўных дзеячаў, што прыйшлі ў КП(б)Б з Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА), часткова з Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПСР). Вакол камуністаў-беларусаў гуртаваліся маладыя камуністы, якія ў савецкі час атрымалі адукацыю і выхаванне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, тэхнікумах, на курсах беларусазнаўства, у літаратурна-творчых аб'яднаннях.

І ўсё ж стымулюючая роля належала пастановам ЦК РКП(б), а таксама патрабаванням і рэкамендацыям нарад, якія праводзіліся ЦК РКП(б) з адказнымі работнікамі нацыянальных рэспублік і абласцей па нацыянальных пытаннях. Беларусізацыя не была ўнікальнай з'явай, уласцівай толькі БССР. Такая ж палітыка праводзілася ва ўсіх нацыянальных рэспубліках і рэгіёнах СССР з улікам іх асаблівасцей (украінізацыя, татарызацыя і г. д.).

У Беларусі, напрыклад, адразу ж пасля X з'езда РКП(б) (сакавік 1921 г.), які прыняў рэзалюцыю «Аб чарговых задачах партыі ў нацыянальным пытанні», у кастрычніку—лістападзе 1921 г. па ініцыятыве ЦБ КП(б)Б з мэтай узгодненасці гэтай рэзалюцыі з мясцовымі ўмовамі прайшлі дыскусійныя сходы адказных работнікаў Мінскай партыйнай арганізацыі. У выніку былі распрацаваны тэзісы пад агульнай назвай «Беларускае нацыянальнае пытанне і Камуністычная партыя», зацверджаныя затым ЦБ КП(б)Б і апублікаваныя ў снежні 1921 г. у друку. У тэзісах аб'ектыўна асвятляліся нацыянальныя аспекты гістарычнага мінулага Беларусі, раскрываліся прычыны адставання яе ў эканамічным, сацыяльна-палітычным развіцці, паказваліся формы нацыянальна-культурнага прыгнёту, працэсы працяглай паланізацыі і русіфікацыі насельніцтва. Перад партыяй ставілася задача ва ўмовах, створаных пралетарскай рэвалюцыяй, ісці ў працоўныя гушчы беларускага народа з камуністычна-асветнай працай на яго роднай мове, пераадольваючы ўхілы як у бок імперыялістычнай вялікадзяржаўнасці,

велікарускага шавінізму, так і ў бок буржуазна-дэмакратычнага нацыяналізму. Першы ўхіл прызнаваўся асабліва шкодным і небяспечным[21].

Значным афіцыйным дакументам, у якім пытанні беларусізацыі атрымалі шырокае адлюстраванне, стала «Платформа па нацыянальным пытанні», прынятая на пашыраным пасяджэнні ЦБ КП(б)Б у ліпені 1923 г. Складальнікі платформы, распрацаванай у выкананне рэзалюцыі ХІІ з’езда РКП(б) (красавік 1923 г.) па нацыянальным пытанні, улічвалі асаблівасці тагачаснага стану Беларусі: слабасць прамысловага развіцця; сацыяльны склад насельніцтва — пераважна сялянскае; неакрэсленасць нацыянальных формаў культуры ў сувязі з паланізатарскай і русіфікатарскай палітыкай; шматнацыянальны склад насельніцтва і яго спецыфічнае рассяленне — беларусы жылі ў асноўным у сельскіх населеных пунктах, яўрэі — у гарадах, дзе складалі 40–50% іх жыхароў, рускія — пераважна ў гарадах, астатнія — у гарадах і вёсках; асаблівасці моўнай сітуацыі — рускамоўны горад і беларускамоўная вёска; незавершанасць працэсу кансалідацыі беларусаў у сучасную нацыю. Паводле перапісу насельніцтва 1926 г., у рэспубліцы пражывала 80,6% беларусаў, 8,2% яўрэяў, 7,7% рускіх, 2% палякаў, 1,3% латышоў, літоўцаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

У «Платформе» з улікам становішча, якое склалася ў пачатку 1920-х гадоў у рэспубліцы, намячалася вырашыць шэраг задач як перадумоў разгортвання беларусізацыі. Першай называлася правядзенне пад кантролем ЦБ КП(б)Б чысткі дзяржаўных і партыйных устаноў ад нацыяналістычных элементаў (рускіх, а таксама нярускіх і іншых нацыяналістаў). Дадзенае палажэнне паўтарала аналагічны запіс у «Практычных мерапрыемствах па правядзенні ў жыццё рэзалюцыі ХІІ з’езда партыі па нацыянальным пытанні», якія зацвердзіла нарада ЦК РКП(б) з адказнымі работнікамі нацыянальных рэспублік і абласцей (8 — 12 чэрвеня 1923 г.). Аднак пасля фармальнага, амаль даслоўнага паўтарэння гэтай фармулёўкі, у «Платформе» паказвалася, што ў Беларусі барацьба за савецкую ўладу, шматгадовае рэвалюцыйнае змаганне зблізілі і з’ядналі ў дружалюбнае сумеснае жыццё, замацаванае інтэрнацыянальнымі вузамі, яўрэйскіх, рускіх, польскіх, беларускіх працоўных, з прычыны чаго правядзенне чысткі ў БССР не з’яўляецца актуальным пытаннем.

Другая задача — арганізацыя сістэматычнай і няўхільнай працы па нацыяналізацыі дзяржаўных і партыйных устаноў. Пад ёй меўся на ўвазе паступовы перавод іх у справаводстве на мясцовыя мовы. Мясцовымі мовамі прызнаваліся беларуская, яўрэйская, руская і польская. Грамадзяне рэспублікі мелі права звяртацца вусна і пісьмова ў органы дзяржаўнай ула-

ды на ўсіх чатырох мовах і атрымліваць адказ на мове свайго звароту. Адказныя кіраўнікі і супрацоўнікі дзяржаўных устаноў абавязваліся вывучыць дзяржаўныя мясцовыя мовы. Дзяржаўныя мовы, перш за ўсё беларуская, падлягалі ўвядзенню ў справаводства ў першую чаргу ў наркаматах асветы, земляробства, міліцыі, у судовых інстанцыях, на пошце і тэлеграфе (спачатку ў паветах і валасцях). Ва ўсіх без выключэння школах беларуская мова ўводзілася як абавязковая.

У якасці актуальнай задачы ставілася прыцягненне лаяльных элементаў мясцовай інтэлігенцыі на працу ў савецкія ўстановы, школы, установы культуры пры адначасовай падрыхтоўцы для яе кадраў савецкіх і партыйных работнікаў. Як канкрэтныя меры ў гэтым накірунку патрабавалася больш шырока весці падрыхтоўку і перападрыхтоўку настаўнікаў для беларускіх, яўрэйскіх і польскіх школ, павялічваць прыём беларускай сялянскай моладзі на педагагічны факультэт універсітэта, у агульнаадукацыйныя сямігодкі, прафесійна-тэхнічныя школы і рабтэхнікумы, у сельскагаспадарчыя тэхнікумы і на рабфакі. «Платформа» намячала паступова ўвесці беларускую мову як асноўную мову выкладання ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы і ўстановы прафесійнай адукацыі. Адзначалася патрэба ў наладжванні пераважна на беларускай мове выдавецкай дзейнасці, паляпшэння працы газеты «Савецкая Беларусь», часопісаў «Полымя», «Маладняк» і іншых выданняў.

Пералічваліся таксама практычныя меры па арганізацыі нацыянальных вайсковых злучэнняў, увядзенні ў ваенныя школы, ваенкаматы беларускай мовы, пераходу на яе ваеннага камандавання. Асобны раздзел прысвячаўся пераводу на беларускую мову партыйнай работы, выданню на ёй папулярнай марксісцкай літаратуры, арганізацыі сеткі добра пастаўленага партыйнага перыядычнага друку[22].

Такім чынам, у «Платформе» ўпершыню рабілася спроба вызначыць у межах распачатай беларусізацыі комплекс узаемазвязаных мер па развіцці беларускай мовы і пашырэнні сферы яе ўжывання, павышэнні культурнага ўзроўню насельніцтва, фарміраванні кадраў з мясцовага насельніцтва, прыстасаванні да мясцовых моўных і іншых асаблівасцей вайсковых фарміраванняў. Устанаўліваліся канкрэтныя тэрміны правядзення ў жыццё распрацаваных мерапрыемстваў. Многія з іх, аднак, у далейшым аказаліся недастаткова прадуманымі, і іх давялося карэкціраваць і ўдакладняць.

Такія ўдакладненні і канкрэтызацыя былі праведзены праз год на ліпеньскім (1924) пленуме ЦК КП(б)Б. Пленум зацвердзіў рэзалюцыю «Аб практычных мерапрыемствах агульнага характару па правядзенні нацыянальнай палітыкі». У рэзалюцыі зноў канстатавалася раўнапраў’е белару-

скай, яўрэйскай, рускай і польскай моваў. Пры гэтым з улікам значнай перавагі ў БССР беларускага насельніцтва беларуская мова выбіралася як пераважная ў зносінах паміж дзяржаўнымі, прафесійнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі. Мовай зносін дзяржаўных органаў БССР з органамі СССР і саюзных рэспублік прымалася руская мова. У раздзеле «Справаводства» ўстанаўліваліся больш рэальныя тэрміны пераходу на беларускую мову ЦВК, СНК БССР, наркаматаў, прафесійных саюзаў. У раздзеле «Аб супрацоўніках дзяржаўных устаноў» для кожнага супрацоўніка савецкіх, прафесійных і грамадскіх арганізацый і ўстаноў указвалася на абавязковасць ведання імі беларускай і рускай моваў, а для некаторых катэгорый — дастаткова яўрэйскай ці польскай. Пасля сканчэння намечаных тэрмінаў супрацоўнікі, якія мовамі не авалодалі, не павінны былі прымацца на службу ва ўстановы і арганізацыі БССР. Для дзяржаўных служачых наладжваліся курсы па вывучэнні беларускай мовы. Рэзалюцыя вызначала практычныя мерапрыемствы па правядзенні нацыянальнай палітыкі Народным камісарыятам асветы БССР: у галіне сацыяльнага выхавання, прафесійна-тэхнічнай адукацыі, палітыка-выхаваўчай працы і выдавецкай справы[23].

Пастанова 2-й сесіі ЦВК БССР «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі» ад 15 ліпеня 1924 г., з якой многія даследчыкі звязваюць пачатак у рэспубліцы масавай беларусізацыі на дзяржаўным узроўні, прымалася да выканання папярэдніх ёй рашэнняў ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б (пленум працаваў 6–9 ліпеня 1924 г.).

Студзеньскі (1925) пленум ЦК КП(б)Б сутнасць разгорнутага працэсу вызначыў формулай: «Лозунг, які КП(б)Б павінна прыняць у культурнай працы, — гэта лозунг беларусізацыі». Абгрунтоўваючы яго, рэзалюцыя пленума «Чарговыя задачы КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы» акцэнтавала ўвагу на значным адставанні росту беларускай нацыянальнай культуры (мова, літаратура, школа, удзел беларусаў у палітычным, культурным, гаспадарчым жыцці) у параўнанні з культурай яўрэйскай, рускай, польскай нацыянальнасцей. Таму, як адзначалася ў гэтым дакуменце, пры абавязковасці з боку ўрада і партыі забяспечваць развіццё культуры кожнай з іх, пры прызнанні дзяржаўнымі мовамі чатырох «справа развіцця мовы, літаратуры, школы, усёй культуры на беларускай мове прызнаецца першай і асноўнай справай». Найбольш буйны раздзел рэзалюцыі быў названы «Культурнае адраджэнне Беларусі». У ім фармуляваліся такія задачы, пастаўленыя ў парадак дня беларусізацыяй, як удасканаленне «папулярнай беларускай мовы, найбольш блізкай да вёскі», распрацоўка палітычнай, навуковай, юрыдычнай тэрміналогіі, прыярытэтнае выданне на беларускай

мове кніг, у першую чаргу вучэбнай літаратуры. Вялікае значэнне надавалася беларусізацыі пазашкольных устаноў і культурна-асветнай працы. Пленум патрабаваў шырэй прыцягваць да будаўніцтва беларускай культуры камуністаў-небеларусаў, якія вывучылі беларускую мову і ведаюць асаблівасці краю, дзе працуюць. Вызначаліся напрамкі працы сярод яўрэйскага, польскага, латышскага насельніцтва. Асобна разглядаліся праблемы беларусізацыі ў дзяржаўным апараце, грамадскіх арганізацыях, часцях Чырвонай Арміі, дыслацыраваных у БССР.

Для павышэння ролі Камісіі па нацыянальнай палітыцы пры ЦВК БССР у ажыццяўленні кантролю за выкананнем прынятых рашэнняў ёй надаваўся статус пастаянна дзеючага і рэгулярна працуючага ўрадавага органа[24].

Пасля студзеньскага (1925) пленума ЦК КП(б)Б раздзелы беларусізацыі аб рабоце сярод нацыянальных меншасцей, якія жылі на тэрыторыі рэспублікі, нацыянальных момантах у дзяржаўнай і партыйнай рабоце, кадравай нацыянальнай палітыцы сталі ўключацца ва ўсе колькі-небудзь значныя рашэнні партыйных і дзяржаўных органаў. Ажыццяўленню беларусізацыі і яе праблемам прысвячаліся прамовы вядомых партыйных і дзяржаўных дзеячаў. У адным толькі 1926 г. былі прыняты пастановы аб вылучэнні ў партыйныя, савецкія, прафесійныя і іншыя органы работнікаў з мясцовага карэннага насельніцтва, аб праверцы выканання мерапрыемстваў па беларусізацыі дзяржаўных устаноў рэспублікі, аб пераводзе ў 1927 г. газеты «Звязда» і акруговых газет на беларускую мову, аб беларусізацыі вышэйшых навучальных устаноў, камуністычнага універсітэта, 2-й Беларускай дывізіі, аб рабоце сярод нацыянальных меншасцей па дакладах нацыянальных бюро пры ЦК КП(б)Б, дзейнасці нацыянальных саветаў і інш. У сваёй сукупнасці прынятыя дакументы прыдалі беларусізацыі *канцэптуальны* характар, акрэслілі яе дакладныя мэты, чарговыя задачы, накірункі, формы, вывелі беларусізацыю як палітыку на дзяржаўны ўзровень.

У той жа час правядзенне беларусізацыі стрымлівалася пастаяннай боязззю кіраўніцтва КП(б)Б магчымасці ўзнікнення ў яе ходзе розных нацыяналістычных ухілаў. Перад партыйнымі арганізацыямі ставілася задача забеспячэння *бальшавіцкай лініі* ў вырашэнні нацыянальнага пытання і правядзенні беларусізацыі, узмацнення барацьбы супраць праяўленняў чужой ідэалогіі.

Найбольш небяспечным ухілам у сярэдзіне 1920-х гадоў лічылася недастатковая ўвага да практычнага вырашэння нацыянальных пытанняў, аднясенне іх да разраду другарадных, ігнараванне нацыянальнай псіхалогіі. Канкрэтныя праяўленні яго бачыліся ў пагардлівых адносінах да белару-

скай мовы («штучнасць мовы»), беларускай культуры («слабая» ў параўнанні з іншымі культурамі), недаацэнцы нацыянальных момантаў у савецкім, партыйным, культурным будаўніцтве, задач па вылучэнні і выхаванні работнікаў мясцовага паходжання. Такія з'явы кваліфікаваліся як прыкрытая форма вялікадзяржаўнага шавінізму.

Як скрытае, так і адкрытае супраціўленне беларусізацыі мела месца, напрыклад, у Полацкай акрузе з боку часткі русіфікаваных настаўнікаў старой школы, сярод мінскай прафесуры, у раёнах Гомельскай і Рэчыцкай акруг пасля іх вяртання ў склад БССР з РСФСР, у пластах яўрэйскіх рабочых, некаторых сельскіх населеных пунктах. У маі 1926 г. бюро ЦК КП(б)Б на адным з пасяджэнняў спецыяльна разглядала заяву полацкіх грамадзян у ЦВК СССР і пасланы ў Маскву артыкул «Варожасць з-за мовы» за подпісам «Беларус». У іх выказваўся пратэст супраць, як сцвярджалася ў заяве і лісце, «насільнай беларусізацыі», навязвання насельніцтву, якое прывыкла да рускай мовы і літаратуры, «штучна створанай у перайманне польскай тэрміналогіі мовы». У выніку, як даводзілі аўтары заявы і ліста, абвастрыліся адносіны насельніцтва з органамі мясцовай улады, ажывіўся беларускі шавінізм. Імі наогул выказвалася сумненне ў існаванні самастойнай беларускай мовы і беларускай культуры. Па даручэнні бюро ЦК КП(б)Б заява і артыкул былі апублікаваны ў газетах «Звязда» і «Савецкая Беларусь» адначасова з вялікім матэрыялам-каментарыем да іх пад назвай «Ці мае беларускі народ сваю мову і сваю культуру?» Газеты змясцілі таксама выступленні шэрагу вядомых вучоных, пісьменнікаў, журналістаў з крытыкай вывадаў заявы і ліста з Полацкай акругі, рэзалюцыі сходаў настаўніцкіх калектываў, у якіх асуджаліся пратэсты супраць беларусізацыі[25].

Другая небяспека, на якую звярталася ўвага партыйных і дзяржаўных органаў, — меўшыя месца захапленні «нацыянальнай культурай наогул» на шкоду «класавай пастаноўцы пытання і камуністычна-пралетарскаму зместу нацыянальнай культуры». Сцвярджалася, што вырастаючыя на гэтай глебе беларускі нацыяналізм, яўрэйскі нацыяналізм, настроі адасаблення польскага насельніцтва здольны ад нацыяналістычнай інтэлігенцыі, якая змешвае «інтарэсы працоўных дадзенай нацыі» з так званымі «агульна-нацыянальнымі інтарэсамі гэтай жа нацыі, але ўжо ўсёй», прасачыцца ў камуністычную партыю ў выглядзе тых ці іншых нацыянальных ухілаў.

У рэзалюцыі кастрычніцкага (1926) пленума ЦК КП(б)Б «Аб нацыянальнай палітыцы ў БССР» яшчэ адзначалася, што ўхілы як да вялікадзяржаўнага шавінізму, так і да мясцовага нацыяналізму ў партыйным асяроддзі «ў значнай меры аслаблены і згубілі сваю вастрыню». Таму патрабавалася весці барацьбу з пасіўнымі і фармальнымі адносінамі да пра-

вядзення нацыянальнай палітыкі і асабліва да беларусізацыі[26]. Паступова, аднак, усё больш і больш небяспечным сталі лічыць «наступальны беларускі нацыяналізм» і барацьбу з ім вылучаць на першы план.

## 3. Этапы беларусізацыі

У правядзенні беларусізацыі меліся свае этапы, адзначаліся прылівы і адлівы. Умоўна, як паказваюць архіўныя крыніцы, можна лічыць, што першы этап ахопліваў 1924–1927 гг., калі былі прыняты і пачалі актыўна праводзіцца ў жыццё асноўныя партыйныя і дзяржаўныя рашэнні. Да пачатку 1928 г. у правядзенні беларусізацыі былі дасягнуты адносна значныя вынікі, асабліва калі іх ацэньваць з колькаснага боку. Яны падведзены ў брашуры «Практычнае вырашэнне нацыянальнага пытання ў БССР. Ч. I. Беларусізацыя», выдадзенай у 1928 г.

Так, на беларускую мову выкладання перайшло да 80% агульнаадукацыйных школ. У цэлым жа навучанне вялося на васьмі нацыянальных мовах. Тысячы настаўнікаў закончылі паўтарамесячныя курсы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі па беларускай мове. Беларуская мова стала асноўнай мовай выкладання ў сельскагаспадарчых, педагагічных тэхнікумах, частцы прафтэхвучылішчаў, рабфакаў, вячэрніх школ для дарослых, у школах рабочай і сялянскай моладзі. Паслядоўна праводзіўся перавод на беларускую мову лекцыйных курсаў і семінараў у вышэйшых навучальных установах, у першую чаргу на педагагічных і іншых факультэтах Белдзяржуніверсітэта. Беларусізаваліся камуністычны універсітэт, савецка-партыйныя школы, сістэма партыйна-палітычнай вучобы. На беларускай мове вывучаліся гісторыя, эканоміка, літаратура, геаграфія Беларусі.

У 1928 г., паводле справаздачных даных, у цэнтральных партыйных, дзяржаўных, прафсаюзных органах, грамадскіх арганізацыях беларускай мовай валодала 80% служачых супраць 20% у 1925 г., на акруговым і раённым узроўні адпаведна 70% і 36%. Намецілася планавасць пераводу на беларускую мову справаводства ў кіраўніцкіх структурах. Сярод іх работнікаў павялічыўся лік беларусаў. У адміністрацыйных органах на пачатак 1929 г. доля беларусаў дасягнула 51,3%, гаспадарчых — 30,8%, судовых — 26,3%, зямельных — 59,5%. У часцях Чырвонай Арміі была сфарміравана 2-я тэрытарыяльная дывізія, створана Аб’яднаная беларуская школа камандзіраў. Укамплектаванасць іх беларусамі ў 1927 г. складала 70%. У іншых вайсковых часцях было арганізавана вывучэнне беларускай мовы, гісторыі рэспублікі, асаблівасцей быту яе насельніцтва.

З 11 газет, якія выдаваліся ў рэспубліцы ў 1927 г., 3 выходзілі на беларускай мове, 4 — на рускай, па 2 — на яўрэйскай і польскай мовах; з 11

часопісаў на беларускай мове выдаваліся 4, рускай — 3, на беларускай і рускай — 2 і яўрэйскай мове — 2. У акруговых газетах частка матэрыялаў друкавалася на рускай, частка на беларускай мовах. На беларускую мову выдання з сярэдзіны 1927 г. перайшла газета «Звязда», якая з'яўлялася цэнтральным партыйным органам. На ёй выходзіў партыйны тэарэтычны і палітычны часопіс «Бальшавік Беларусі».

Нягледзячы на характэрную для 1920-х гадоў тэхнічную адсталасць друкарскага абсталявання, зношанасць машын і хранічны недахоп фінансавых сродкаў, павялічвала з году ў год выданне беларускіх кніг, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў Беларускае дзяржаўнае выдавецтва.

На беларускую мову Я.Купала пераклаў «Інтэрнацыянал», а песня «Ад веку мы спалі» была абвешчана беларускай «Марсельезай». Прымаліся захады па беларусізацыі рэлігійнага жыцця. Як нацыянальныя святы былі адзначаны 400-годдзе беларускага друку, 20-годдзе з дня выхаду ў свет першай беларускай газеты «Наша доля», 5-годдзе з дня заснавання Беларускага дзяржаўнага універсітэта, творчыя юбілеі гісторыка У.М.Ігнатоўскага, пісьменнікаў Я.Купалы, Я.Коласа, З.Жылуновіча.

Растучы ўплыў на развіццё беларускай, а таксама яўрэйскай і польскай культур аказваў Інстытут беларускай культуры, які шырока разгарнуў сваю дзейнасць у гэтым напрамку з 1924 г. Новымі п'есамі, як арыгінальнымі беларускімі, так і перакладзенымі на беларускую мову, узбагаціліся рэпертуары Першага, Другога, Трэцяга і іншых драматычных тэатраў. Высокую актыўнасць у правядзенні беларусізацыі, стварэнні твораў на беларускай і іншых нацыянальных мовах праяўлялі члены літаратурна-творчых аб'яднанняў («Маладняк», «Узвышша», «Полымя» і інш.).

Адметнай асаблівасцю стала пашырэнне беларусізацыі паміж 1927–1928 гг. *за межы* рэспублікі, у раёны Сібіры і Далёкага Усходу, дзе жыло шмат перасяленцаў з Беларусі. Ініцыятыву праявілі прадстаўнікі літаратурнага аб'яднання «Маладняк» Алесь Дудар (А.А.Дайлідовіч) і Анатоль Вольны (А.І.Ажгірэй). Улетку 1927 г. пры падтрымцы беларускага ўрада яны наведалі пасёлкі і вёскі Сібірскага краю з пераважна беларускім насельніцтвам. Вынікам стала некалькі газетных публікацый аб жыцці і быце беларусаў у расійскай глыбінцы. Адначасова маладыя пісьменнікі палічылі сваім абавязкам звярнуцца па беларускай праблеме з лістом у вышэйшыя партыйныя і дзяржаўныя інстанцыі СССР і БССР, у якім выказалі сваё бачанне яе і прапановы вырашэння. Пасля ліста ў раёны Сібіры была паслана камісія Наркамасветы РСФСР для правядзення абследавання і выяўлення патрэбаў беларускага насельніцтва. Шэраг мясцовых школ быў пераведзены на выкладанне асноўных прадметаў на беларускай мове, ад-

крыты новыя школы. Беларуская мова стала ўжывацца ў клубнай працы. Наладжваліся сувязі культурна-асветных устаноў Сібіры з Беларуссю і яе мастацка-творчымі калектывамі і арганізацыямі.

На першым этапе, аднак, праблемы беларусізацыі вырашаліся пераважна на *агітацыйна-арганізацыйным* узроўні, трывала ў быт, культуру народа яна яшчэ не ўвайшла. На так званых яе «верхніх паверхах» у адносінах да служачых дзяржаўнага, кааператыўнага, гаспадарчага апаратаў, партыйных і камсамольскіх работнікаў, супрацоўнікаў навуковых і навучальных устаноў прымаліся меры адміністрацыйнага ўздзеяння аж да вызвалення ад займаемых пасад за няведанне ці ігнараванне беларускай мовы. «Именно только при такой твердой линии можно создать нормальные условия для развития белорусской культуры при обеспечении руководства партии», — гаварылася ў Палітычнай справаздачы ЦК X з’езду КП(б)Б[27]. На «ніжніх паверхах» у працы сярод шырокіх мас насельніцтва галоўнымі былі метады агітацыі і прапаганды, уздзеянне перакананнем. «...Мы признали на основании общих решений партии невозможным допустить малейшие элементы насильственной белорусизации в отношении рабочих и крестьян», — чытаем у той жа Палітычнай справаздачы[28]. У вышэйшых партыйных і дзяржаўных структурах ўсведамлялася неабходнасць змянення сітуацыі, ці, як пісалі ў той час, ажыццяўлення «пералому ў беларусізацыі», разуменне таго, што націскам, загадамі і распараджэннямі паглыбляць работу далей, пераводзячы яе на «ніжнія паверхі», у гушчыню народа, ужо немагчыма.

Першы сакратар ЦК КП(б)Б В.Г.Кнорын (ён да гэтага часу перагледзеў свае погляды на беларускую мову і культуру) пісаў у артыкуле «Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытанні (Да пытання аб палітыцы беларусізацыі)», які быў як установачны надрукаваны ў пачатку 1928 г. у рэспубліканскіх газетах: «Ці можна рабочаму навязаць беларускую мову або якую іншую мову метадамі арганізацыйнага і адміністрацыйнага ўплыву або нават энтузіязмам і растлумачэннем палітычнай мэтазгоднасці? Не! Гэта дасць мала вынікаў. Можна актыву, можна дзяржаўным служачым, але ў радавую масу рабочых укараняць беларускую мову трэба так, каб яна ўбіралася як патрэбнае для дыхання паветра, як патрэбны сродак падтрымання існавання культурнага чалавека і грамадзяніна»[29].

На другім этапе для далейшага пышырэння і паглыблення беларусізацыі намячалася вырашыць задачы:

• узмацніць работу па вывучэнні беларускай мовы партыйным, савецкім, прафсаюзным актывам і паскорыць пераход на яе ўсіх арганізацый, якія непасрэдна працуюць сярод насельніцтва;

• палепшыць распаўсюджванне сярод насельніцтва беларускіх газет, кніг, павялічыць іх тыражы, звяртаючы асаблівую ўвагу на забеспячэнне беларускім друкам рабочых у гарадах;

• больш беларусізаваць культурную працу прафсаюзаў, забяспечваючы масавае абслугоўванне ўсіх беларусаў — членаў саюзаў — на матчынай мове;

• развіваць і ўзмацняць прапаганду беларускай мовы шляхам арганізацыі на ёй значна большай колькасці палітычных і іншых выступленняў, чым на першым этапе;

• мэтанакіравана працягваць беларусізацыю вайсковых часцей Беларускай ваеннай акругі з тым, каб павялічыць у іх колькасць нацыянальных фарміраванняў;

• беларусізаваць гандлёвы апарат з тым, каб абслугоўванне насельніцтва гандлёвай сеткай праводзілася пераважна на беларускай мове;

• больш востра ставіць і больш грунтоўна вырашаць праблемы развіцця вышэйшых формаў беларускай культуры (літаратуры, тэатра, музыкі, жывапісу), узмацняючы сувязі яе з рабочымі і сялянскімі масамі.

Другі этап, аднак, увосень 1929 г. быў перапынены. Пачаліся карэнныя змены ў нацыянальнай палітыцы КП(б)Б, якая з абвяшчэннем генеральным сакратаром ЦК ВКП(б) І.В.Сталіным «крутога павароту ва ўсёй палітыцы» стала адлюстроўваць новы курс.

### 4. Прыкметы згортвання

Падставы для «крутога павароту» ў беларусізацыі, па сутнасці, пераходу да русіфікацыі ў непрыкрытых формах стварыла праца ў маі—чэрвені 1929 г. камісіі ЦКК ВКП(б) на чале з яе членам, старшынёю ЦК КП(б)У У.П.Затонскім па вывучэнні практыкі нацпрацы ў Беларусі. Па сабраных і абагульненых У.П.Затонскім і яго людзьмі матэрыялах, якія дакладваліся ЦК ВКП(б), камісія прыйшла да высновы, што ў БССР перабольшваецца значэнне нацыянальных асаблівасцей ва ўсёй нацыянальнай працы на шкоду яе класаваму зместу. Кіраўніцтва КП(б)Б было абвінавачана ёю ў тым, што паддаецца ціску нацыяналістычнай інтэлігенцыі, не вядзе наступальную барацьбу супраць буржуазна-дэмакратычнай ідэалогіі, якая актывізавалася і ва ўмовах абвастрэння класавай барацьбы з кулацтвам набыла формы беларускага шавінізму і нацыянал-дэмакратызму[30]. Рэдакцыйным артыкулам «Аб правым ухіле ў КП(б)Б па нацыянальным пытанні», надрукаваным 27 ліпеня 1929 г. у газеце «Звязда», «беларускі наступальны шавінізм і нацыянал-дэмакратызм» абвяшчаўся «галоўнай небяспекай», супраць яго газета заклікала мабілізаваць «грамадскую думку шырокіх пар-

тыйных і рабочых мас» і разгарнуць «непрымірымую барацьбу». Члены КП(б)Б, якія не згаджаліся з такой фармулёўкаю, сталі абвінавачвацца ў неразуменні «разгорнутай класавай барацьбы і яе законаў» і ў нацыянал-ухілізме. Артыкул друкаваўся з улікам ацэнак і вывадаў абмеркавання 27 чэрвеня 1929 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б даклада У.П.Затонскага. Называліся прозвішчы тых прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі, якія падпалі пад крытыку за беларускі нацыяналізм (пісьменнікі З.Х.Жылуновіч, Міхась Зарэцкі, паэт, літаратурны і тэатральны крытык Тодар Глыбоцкі — А.Дудар, дзеяч заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху А.І.Луцкевіч і інш.).

Разам з тым у газеце падкрэсліваўся «выключны характар», які беларусізацыя набывае «ў сувязі з абвастрэннем класавай барацьбы, наскокамі кулака, нэпмана і яго вольных ці нявольных агентаў-ідэолагаў на лінію партыі ў нацыянальным пытанні». Ставілася задача «пасіліць тэмп беларусізацыі». Але размова ўжо ішла аб іншай беларусізацыі.

Беларусізацыя 1920-х гадоў і яе бясспрэчныя дасягненні, што прызнаваліся ўсімі кіраўніцкімі структурамі БССР і ў масах насельніцтва, была рэальнасцю. Але такой жа рэальнасцю трэба прызнаць і тэндэнцыю, па сутнасці, да антыбеларусізацыі. Яна праяўлялася спачатку ў тайных, замаскіраваных формах, затым, асабліва пасля праверкі камісіяй ЦКК ВП(б) практыкі нацыянальнай працы ў рэспубліцы, усё больш адкрыта і агрэсіўна. Архіўныя дакументы фіксуюць яе ў пастаянных закліках да партыйных арганізацый і грамадства ў цэлым павышаць палітычную пільнасць, да ўзмацнення непрымірымай барацьбы з такімі «небяспечнымі хваробамі», як ухіл альбо да вялікадзяржаўнага шавінізму, альбо да мясцовага нацыяналізму.

Вучоныя, літаратары, дзеячы культуры, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў беларусізацыі, таксама адзначалі наяўнасць небяспекі для яе ў такіх сацыяльна-палітычных формах, як «безухільны інтэрнацыяналізм» (выказванне З.Х.Жылуновіча)[31], «нацыянальны эгаізм» (словы грамадскага дзеяча, вучонага А.А.Смоліча)[32]. Першы перарастаў у касмапалітызм, пагражаючы ўсяму нацыянальнаму; другі замыкаўся ў межах «дробнамесніцкай самабытнасці», набываюы рысы агрэсіўнасці «местачковага манеру». Пры ўсёй знешняй супрацьлегласці гэтыя сапраўды небяспечныя для беларусізацыі з'явы жывілі адна другую, уносілі абвастрэнне ў грамадска-палітычнае жыццё і сферу культуры.

За сутыкненнем тэндэнцый да паглыблення беларусізацыі, з аднаго боку, і яе згортваннем, з другога, бачыцца барацьба нацыянальна-арыентаванага і звышінтэрнацыяналісцкага крылляў у КП(б)Б. Вышэй ад-

значалася, што беларусізацыя была дзецішчам нацыянальна-арыентаванага крыла і праводзілася пад яго ціскам. Праз сваіх прадстаўнікоў у кіраўніцтве рэспублікі, навуковых і творчых колах яно дало беларусізацыі тэарэтычнае абгрунтаванне, прапанавала комплекс практычных мерапрыемстваў па яе ажыццяўленні. Згортванне беларусізацыі стала вынікам сілавых дзеянняў, прамых і тайных, звышінтэрнацыяналісцкага крыла, якое на рубяжы 1920–1930 гг. ператварылася ў непадзельна пануючае. Лозунг «КП(б)Б — на чале ўсяго нацыянальна-культурнага будаўніцтва!» кожная з гэтых частак разумела па-свойму: адна — як рычаг руху беларусізацыі і каранізацыі наперад, з улікам інтарэсаў і патрэб усіх нацыянальных груп насельніцтва БССР; другая — як сродак адхілення ад уплыву на беларусізацыю аўтарытэтнай нацыянальнай інтэлігенцыі. Паводле слоў старшыні камісіі па праверцы нацыянальнай працы ў БССР У.П.Затонскага, апошняя «ў выглядзе так званых культурных сіл — акадэмікаў, паэтаў, філосафаў і іншых дзеячаў беларускай культуры» — адыгрывала ў палітычным жыцці БССР «непамерна вялікую ролю»[33].

Прадстаўнікі нацыянальна-арыентаванай часткі КП(б)Б, па поглядах блізкія да камуністаў-беларусаў пачатку 1920-х гадоў, не былі, аднак, пэўнай арганічнай цэласнасцю. Яны групаваліся вакол розных лідэраў, найбольш аўтарытэтных у той ці іншы перыяд, мянялі схільнасці, дапускалі сутыкненні паміж сабой. Такія адносіны далі падставы для абвінавачвання іх у стварэнні груп і свядомай фракцыйнай дзейнасці. Гэта знайшло адлюстраванне ў Дакладной запісцы ў Прэзідыум і парткалегію ЦКК ВКП(б) «Аб сувязі асобных членаў КП(б)Б з нацдэмаўскай контррэвалюцыйнай арганізацыяй і аб антыпартыйных групоўках у КП(б)Б», накіраванай у лютым 1931 г. парткалегіяй ЦКК КП(б)Б. Па матэрыялах, якія паступілі з Мінска, ЦКК ВКП(б) прыняла дзве пастановы: «Па справе беларускіх тт.» (З.Х.Жылуновіч, А.Р.Чарвякоў, І.А.Васілевіч і інш.) і «Па справе беларускіх нацыянал-дэмакратаў» (У.М.Ігнатоўскі, А.В.Баліцкі, А.Ф.Адамовіч і інш.). Пералічаныя ў абедзьвюх пастановах дзеячы КП(б)Б быццам бы не толькі самі дапускалі адступленні ад «бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі», але і прыкрывалі «контррэвалюцыйную дзейнасць» нацыянал-дэмакратаў у выдавецкай працы, Інбелкульце і Акадэміі навук Беларусі, перападрыхтоўцы настаўніцтва і іншых галінах нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Іх абвінавацілі ў правядзенні ў КП(б)Б «нацыянал-апартуністычнай лініі» і ў тым, што з'яўляліся «зброяй у руках контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай інтэлігенцыі»[34].

На кастрычніцкім (1930) пленуме ЦК КП(б)Б пры абмеркаванні даклада першага сакратара ЦК К.В.Гая «Аб чарговых задачах у нацпалітыцы»

старшыня ДПУ БССР Р.Я.Рапапорт паведаміў аб раскрыцці яго ведамствам падпольнай контррэвалюцыйнай інтэлігенцкай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі». Яна нібыта яшчэ з часоў грамадзянскай вайны вяла барацьбу з савецкай уладай, усяляк маскіруючы сваю нацыяналістычную дзейнасць, у тым ліку праводзячы яе і пад сцягам беларусізацыі[35]. З гэтага моманту выкрывальныя ідэолага-палітычныя кампаніі супраць беларускага нацыяналізму, нацыянал-дэмакратызму і іх «працягу ў партыі» — нацыянал-ухілізму, якія да гэтага часу праводзіліся сродкамі агітасветы і прэсы, былі заменены адміністрацыйна-палітычным уздзеяннем праз сродкі ДПУ і ЦКК. Нацыянальна-арыентаванае крыло ў КП(б)Б спыніла сваё існаванне. Вялікую групу нацыянальнай інтэлігенцыі арыштавалі і выслалі за межы БССР. Беларусізацыя тым часам стала паскорана перарастаць у сваю процілегласць.

[1] Палітыцы беларусізацыі прысвечаны асобныя раздзелы ў 2-й частцы «Нарысаў гісторыі Беларусі» (Мн., 1995. С. 115–127), выдадзеных Інстытутам гісторыі НАН Беларусі, 2-й частцы вучэбнага дапаможніка для студэнтаў навучальных устаноў «Гісторыя Беларусі» (Мн., 1998. С. 144–149), раздзел у кнізе Л.Лыча і У.Навіцкага «Гісторыя культуры Беларусі» (Мн., 1996. С. 196–266), артыкулы А.Караля ў дапаможніку для вывучаючых гісторыю Беларусі «Крыжовы шлях» (Мн., 1993. С. 118–164) і 1-м томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Мн., 1993. С. 348–350), артыкул І.І.Каляды «Палітыка беларусізацыі: прычыны яе згортвання» («Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук». 1998. № 1. С. 75–80) і інш.

[2] Кароль А. Беларусізацыя — палітыка нацыянальнага адраджэння // Крыжовы шлях. Мн., 1993. С. 146.

[3] Звезда. 1926. 19 дек.

[4] Там жа.

[5] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ). Ф. 4. Воп. 20. Спр. 19. Л. 20–21.

[6] Там жа. Воп. 3. Спр. 6. Л. 453.

[7] Звезда. 1926. 6 июля.

[8] X съезд Коммунистической партии (большевиков) Белоруссии. 3–10 января 1927 г. Стенографический отчет. Мн., 1927. С. 29.

[9] Там жа. С. 32.

[10] НАРБ. Ф. 15. Воп. 4. Спр. 227. Л. 87–88.

[11] X съезд Коммунистической партии (большевиков) Белоруссии... С. 31, 33.

[12] Там жа. С. 42.

[13] НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 2546. Л. 1–12.

[14] Там жа. Спр. 108. Л. 36–37.
[15] Там жа. Л. 22, 22зв.
[16] Лыч Л. І непадуладныя асіміляцыі... Беларусізацыя і яўрэі // ЛіМ, 1999. 16 крас.
[17] НАРБ. Ф. 6. Воп. 1. Спр. 277. Л. 48–59.
[18] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6-і т. Мн., 1996. Т. 3. С. 426.
[19] НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 158. Л. 19.
[20] Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. 1918–1927. Мн., 1973. Т. 1. С. 95.
[21] Пастановы і рэзалюцыі ЦК КП(б) і КП(б)Б па нацыянальным пытанні. Мн., 1926. С. 84–88.
[22] Идеологическая деятельность Компартии Белоруссии. В двух частях. Ч. 1. 1918–1928. Мн., 1990. С. 96–102.
[23] Там жа. С. 115–121.
[24] Там жа. С. 159–168.
[25] «Скарыніч». М. — Мн., 1997. С. 182–202.
[26] Идеологическая деятельность Компартии Белоруссии... С. 250–251.
[27] Х съезд Коммунистической партии (большевиков) Белоруссии... С. 28–29.
[28] Там жа. С. 29.
[29] Кнорин В.Г. Избранные статьи и речи. Мн., 1990. С. 239.
[30] Так начиналась национальная трагедия // Нёман. 1992. № 9. С. 122–149.
[31] Савецкая Беларусь. 1928. 20 ліст.
[32] НАРБ. Ф. 4. Воп. 16. Спр. 56. Л. 81.
[33] Так начиналась национальная трагедия // Нёман. 1992. № 9. С. 126–127.
[34] НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 220. Л. 13.
[35] Платонаў Р. Ідэі. Палітыкі. Лёсы: Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20–30-х гадоў. Мн., 1996. С. 189–205.

***С.Я.Новікаў***

# КРЫТЫЧНЫ АНАЛІЗ ЯК СРОДАК НАВУКОВАГА ДОСЛЕДУ АРХІЎНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ ПА ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Зварот да новых метадаў спасціжэння гістарычных заканамернасцей, распрацоўка альтэрнатыўных пытанняў, пошук наватарскіх спосабаў наву-

ковага пазнання і шмат іншага — відавочныя здабыткі айчыннай гістарыяграфіі і крыніцазнаўства. Між тым праблема кожнага даследчыка — не толькі рацыянальна выкарыстаць напрацаваны тэарэтычны і практычны арсенал, але і знайсці ўласны ключ гістарычнага доследу ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу.

Аўтар прапануе свой варыянт набліжэння да навуковай ацэнкі ў дачыненні толькі да аднаго з фактаў гісторыі другой сусветнай вайны. Звужэнне фокуса гістарычнага пошуку не пярэчыць даследчыцкай парадыгме, наадварот, стварае ўмовы для грунтоўнага аналізу, новай інтэрпрэтацыі і даступнага вытлумачэння старонак мінулага. Спачатку звернем увагу чытача на тое, што аўтарскі дыскурс праведзены з выкарыстаннем нетрадыцыйнага *гісторыка-лінгвістычнага падыходу, ці метаду*, які разглядаецца ў якасці аднаго з варыянтаў пошуку адказаў на пытанне сутнаснага вызначэння гістарычнай назвы такой дзяржаўнай установы Трэцяга Рэйха, як *«Reichsministerium fuer die besetzten Ostgebiete»*. Пры гэтым заўважым, што ў савецкай, сучаснай расійскай і беларускай гістарыяграфічнай літаратуры назва сустракаецца з самымі рознымі (больш за дзесятак) азначэннямі, сярод якіх: «Так называемое министерство оккупированных восточных областей», «Рейхсминистерство по делам оккупированных восточных областей», «Министерство по делам оккупированных областей на Востоке (восточное министерство)», «Рейхсминистерство по оккупированным восточным территориям», «Имперское министерство оккупированных восточных областей», «Міністэрства па справах акупіраваных усходніх абласцей», «Міністэрства ўсходніх тэрыторый» і інш.

Што з’яўлялася падставай для такога разыходжання аўтарскіх ацэнак у дачыненні да афіцыйнай назвы, якая па архіўных крыніцах сустракаецца ў поўнай і скарочанай формах, г. зн. мае толькі *два* канкрэтныя абазначэнні? Узнікаюць і іншыя пытанні, напрыклад: на якой дакументальнай аснове даследчыкі прыходзілі да згаданых навуковых ацэнак і высноў, які навуковы метад быў імі выкарыстаны і чаму ён прывёў да такіх розных вынікаў у дачыненні да назвы афіцыйнай установы і г. д.?

Такія разыходжанні ў азначэнні назвы адной з дзяржаўных устаноў Трэцяга Рэйха дапускаліся, на наш погляд, па некаторых аб’ектыўных прычынах, у тым ліку: *па-першае,* у сувязі з абмежаваннямі ў выкарыстанні дакументальных крыніц, якія не траплялі да даследчыкаў; *па-другое,* з-за адсутнасці палітычнай патрэбы ў раскрыцці «белых плямаў» гістарычнага мінулага; *па-трэцяе,* з-за непатрэбнасці крытычнага і аб’ектыўнага падыходу да шматлікіх гістарычных фактаў і г. д.

У нашым выпадку пачнём даследчыцкі пошук з разгляду новага архіўнага дакумента, які быў знойдзены аўтарам вясной 1999 года ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Апрача таго, зазначым, што падобная знаходка ўпершыню трапіла да нямецкіх калегаў, якія годам раней апублікавалі дакумент у новым навуковым выданні пад назвай *«Выкарыстана ў «Рэйхскамісарыяце Остланд»: Дакументы па масавым знішчэнні людзей у краінах Прыбалтыкі і Беларусі. 1941 — 1944» (Берлін, 1998. — 302 с. Пераклад аўтара. — С.Н.).* Знаёмства з адшуканай архіўнай крыніцай і яе публікацыяй дазваляе прыйсці да высновы, што шырокай грамадскасці прадстаўлены новы малавядомы ці зусім невядомы гістарычны дакумент з назвай **«<u>Першы ўказ фюрэра</u>** *(падкрэслена ў арыгінале. — С.Н.)* **аб увядзенні грамадзянскага кіравання на новазанятых усходніх тэрыторыях. 17 ліпеня 1941 года».** З назвы прыведзенага дакумента бачна, што змест указа датычыцца плануемых дзеянняў з боку Германіі на новазанятай тэрыторыі СССР, у тым ліку Беларусі, большая частка якой на час падпісання ўказа ўжо знаходзілася ў тыле групы армій «Цэнтр». Значнасць дакумента вынікае з новаўвядзення, з улікам якога гітлераўскае кіраўніцтва планавала падзяліць ужо занятую тэрыторыю на ваенную і грамадзянскую зоны, вызначаць і канчаткова ўстанаўліваць іх знешнія і ўнутраныя межы, асабовы склад новай грамадзянскай адміністрацыі і г. д. Але нельга не звярнуць увагу на тое, што да апошняга часу прыведзены гістарычны дакумент не знаходзіў свайго выкарыстання ў савецкай, сучаснай расійскай і айчыннай гістарыяграфіі. Фактам з’яўляецца і наступнае: працяглы перыяд указ заставаўся па-за межамі агульнавядомых грунтоўных збораў дакументальных крыніц, не кажучы, што ён не трапіў на старонкі шматлікіх публікацый ваеннай гісторыі і да шырокай чытацкай аўдыторыі.

Для вызначэння дакладнага месца «Першага ўказа фюрэра...» сярод іншых дырэктыўных дакументаў, распараджэнняў і загадаў традыцыйнага падыходу нам не стае. Таму для аналізу выкарыстаем *гісторыка-лінгвістычны метад* навуковага даследу. У якасці зыходнага матэрыялу звернемся да адбітка арыгінальнага дакумента «Першага ўказа фюрэра...» Змест дакумента ахоплівае толькі адну друкаваную старонку, якая да таго ж і па структуры падзелена на тры невялікія часткі. Сутнасць кожнай з іх, аднак, акрэслена больш маштабнымі падзеямі, якія мелі адносіны і да Беларусі. Адзначым, што непасрэднай згадкі пра яе (Беларусь) у дакуменце няма, аднак у першым сказе дакумента прыводзіцца назва тутэйшага насельніцтва. У аўтарскім перакладзе гэта выглядае так: *«Тэрыторыя былых свабодных дзяржаў Літвы, Латвіі і Эстоніі, а таксама прастора,* ***за-***

***селеная беларусамі*** *(выдзелена аўтарам. — С.Н.), пераходзяць пад грамадзянскае кіраванне з падпарадкаваннем рэйхсміністру па занятых усходніх тэрыторыях»*[1]. Дык чым жа можа стаць «Першы ўказ фюрэра...» для шырокага кола айчынных чытачоў, а таксама даследчыкаў, чытачоў, навукоўцаў — прычынай для пытанняў ці падставай для адказаў?

Аўтарскі погляд, аналіз і ацэнка знойдзенага дакумента пабудаваны на тым, што «Першы ўказ фюрэра...» з'яўляўся *зыходнай* крыніцай, якой перш за ўсё і вызначалася сутнасць назвы рэйхсміністэрства. Разглядаць дакумент як падмурак навуковага тлумачэння патрабуе і згаданы вышэй гісторыка-лінгвістычны падыход, без чаго немагчыма канкрэтызацыя сутнасці палітычнай, гістарычнай і моўнай дэфініцыі афіцыйнай назвы.

З указа вынікае, што Гітлерам у якасці афіцыйнай назвы новай дзяржаўнай установы Трэцяга Рэйха было зацверджана ***«Рэйхс- / Германскае міністэрства па <u>занятых</u> усходніх <u>тэрыторыях</u>»*** *(падкрэслена аўт. — С.Н.).* На наш погляд, такі падыход мае пад сабой наступную аргументацыю:

*па-першае,* нямецкамоўнае слоўнікавае тлумачэнне згаданага тэрміна падае на першым месцы менавіта *тэрыторыю*, а толькі потым *вобласць*. Ступень паслядоўнасці ці ўжытку тэрмінаў, іх значнасць пры моўным выкарыстанні вызначаліся рознымі як гістарычнымі, так і палітычнымі абставінамі. Адной з іх было тое, што пры падрыхтоўцы «Першага ўказа фюрэра...» маглі кіравацца толькі нямецкімі, а не іншымі аналогіямі, што ў нашым выпадку азначае ігнараванне лакальных назваў, больш зразумелых насельніцтву акупаваных тэрыторый. Падставай для такой высновы з'яўляецца тое, што тэрмін *вобласць* ужываецца часцей ў дачыненнні не часткі якой-небудзь тэрыторыі, а ў якасці акрэслівання межаў ці рамак якой-небудзь з'явы, зоны, прасторы;

*па-другое,* аўтар схіляецца да ўжывання тэрміна *тэрыторыя* на падставе адміністрацыйна-тэрытарыяльных фактаў існавання не савецкай, а нямецкай дзяржавы, у якой у перыяд Трэцяга Рэйха адсутнічала падобная дзяржаўная адзінка[2]. Аб выкарыстанні менавіта гэтага азначэня сведчаць і факты непасрэднага нямецка-, руска- і беларускамоўнага ўжытку тэрміна вобласць. Адзначым, што архіўныя крыніцы ўтрымліваюць прыклады звароту кіруючых органаў новай акупацыйнай адміністрацыі да выкарыстання канкрэтнай назвы — Oblast', але пры гэтым ужываюць згаданы тэрмін менавіта ў якасці ўдакладнення, калі першы раз згадваўся нямецкі тэрмін — Gebiet і адразу ж у дужках прыводзілася ўдакладненне — Gebiet (Oblast'). Апрача таго, нам будзе цяжка знайсці аналогіі нямецкага тэрміна вобласць, калі атаясамліваць яе з вядомым у СССР азначэннем, паколькі па дакумен-

тальных крыніцах атрамлівалася: па стане на 19.11.1941 на захопленай тэрыторыі «Генеральнай акругі Беларусь» прадугледжвалася стварэнне 33 (Gebiets-) абласных камісарыятаў, пры гэтым у межах галоўных камісарыятаў Мінска і Баранавіч ужо было створана 13 абласных (!) камісарыятаў, адпаведна ў Баранавічах, Барысаве, Вілейцы, Ганцавічах, Глыбокім, Кобрыне, Лідзе, Мінску (раёне), Навагрудку, Слоніме, Слуцку, Старых Дарогах, Целяханах;

*па-трэцяе,* адной з падстаў для аўтарскай высновы з'яўляецца і новы дакумент — вышэй згаданы «Першы ўказ фюрэра...», першы сказ якога адпавядае моўным нормам толькі ў тым выпадку, калі ва ўжытку знаходзіцца менавіта слова *тэрыторыя,* прычым адзіночнага ліку. Як вядома, у нямецкай мове адзіночны лік дзейніка граматычна не ўжываецца ў адносінах да некалькіх адзінак, якімі ў пачатку дакумента выступаюць адначасова адразу чатыры аб'екты, што ў мове арыгінала знайшло адлюстраванне ў выкарыстанні дапасавання менавіта множнага ліку.

Такім чынам, аўтарскі погляд, аналіз і ацэнка знойдзенага дакумента пабудаваны на тым, што «Першы ўказ фюрэра...» з'яўляўся ***зыходнай*** крыніцай, з якой перш-наперш і вынікала сутнасць падыходаў гітлераўскага кіраўніцтва ў дачыненні да геаграфічнай прасторы — *тэрыторыі,* з аднаго боку, а з другога, зацвярджалася назва новай дзяржаўнай установы — *Рэйхс- / Германскага міністэрства па занятых усходніх* ***<u>тэрыторыях</u>*** *(падкрэслена аўт. — С.Н.). У* афіцыйнай назве рэйхсміністэрства больш дакладным, на нашу думку, можна лічыць азначэнне *тэрыторыі,* а не *вобласці.* Адсутнасць жа больш трапнай і поўнай аналогіі ў рускай і беларускай мовах прывяло да такой блытаніны ці недакладнасці. Але гэта толькі адзін бок нашага гісторыка-лінгвістычнага аналізу і правядзення навуковага доследу.

Другі патрабуе яшчэ больш прынцыповага і рашучага кроку ў напрамку вызначэння сутнасці другой часткі афіцыйнай назвы, якая датычыцца тэрміна *занятых.* Доўгі час у беларуска- і рускамоўнай гістарычнай літаратуры ў якасці вызначальнага ўжываўся тэрмін *акупаваных* ці *оккупированных.* Такі погляд мае поўнае права на існаванне, паколькі цалкам зразумелы для савецкіх людзей. Не адмаўляючы гэтага, гісторыя пакінула нам і іншыя падставы для вызначэння сутнасці менавіта новай афіцыйнай назвы дзяржаўнай установы гітлераўскай Германіі. Асаблівасцю палітычнага існавання апошняй была жорсткая катэгарычнасць у поглядах, ацэнках і падыходах, якімі кіраваліся на ўсіх узроўнях. З улікам такіх акалічнасцей і разглядаліся пытанні бягучага моманту, у тым ліку быў зроблены выбар на карысць сапраўднай назвы новага міністэрства, перад якім стаялі задачы па

грамадзянскім кіраванні, эканамічным выкарыстанні і пераабсталяванні «жыццёвай прасторы на Усходзе». Нельга не мець на ўвазе, што прадстаўнікі вышэйшага гітлераўскага кіраўніцтва рабілі выбар новай назвы не без уліку моўных, ідэалагічных, гістарычных і іншых падыходаў, добра ведаючы сэнс тэрмінаў besetzen і okkupieren. Аднак перавагу вырашылі аддаць менавіта першаму, а не апошняму. Дык па якіх прычынах носьбіты нямецкай мовы вырашаюць ўжыць адзін з тэрмінаў?

Спроба штучнага рэканструявання магчымай гістарычнай сітуацыі патрабуе адказу перш за ўсё на пытанне аб вызначэнні дакладнага сэнсу згаданых тэрмінаў, не толькі вядомых, але і разглядаемых у якасці падмурка такіх пошукаў. На нашу думку, назва вызначалася і з улікам міжнародных абставін, асабліва тых, якія характарызавалі ці давалі магчымасць для першасных ацэнак падобных дзеянняў на ўсходніх тэрыторыях. Таму па палітычных меркаваннях вышэйшае кіраўніцтва не хацела паказваць сябе акупантамі. Тым больш, што гэты тэрмін сведчыў толькі пра часовую акупацыю чужой тэрыторыі, у той час як заняць іх можна было назаўсёды. Акрамя таго, нельга не ўлічваць і такі момант ідэалагічнага кшталту, як шырокае выкарыстанне чыста германскіх назваў, тады як акупаваць у моўным сэнсе з’яўляецца паўторам лацінскага слова [lat. — occupatio, occupare]. Пакінуць жа яго для шырокага ўжытку выходзіла за межы ўсталяванай у 1930-я гады моўнай нацысцкай практыкі, калі амаль ва ўсіх сферах грамадскага жыцця адбывалася прынцыповая замена ўсяго запазычанага з іншых моваў і рашуча ўводзілася толькі германская тэрміналогія з выкарыстаннем своеасаблівага гатычнага стылю. Апошняе пацвярджаюць шматлікія дзяржаўныя дакументы Трэцяга Рэйха, афіцыйныя выданні, падручнікі па гісторыі[3].

Апрача гэтага, неабходна мець на ўвазе наступныя, не менш значныя моманты гісторыі, палітыкі, ідэалогіі Трэцяга Рэйха ваеннага перыяду, у тым ліку:

*па-першае,* назва рэйхсміністэрства ўзнікла значна раней за пачатак аператыўных ваенных дзеянняў на Усходзе і непасрэднай акупацыі заходніх абласцей СССР, паколькі праект «Указа фюрэра аб кіраванні на новазанятых усходніх тэрыторыях» быў падрыхтаваны больш чым за месяц да пачатку ваеннай аперацыі супраць СССР, 16.05.41[4];

*па-другое,* Розенберг, якога фюрэр яшчэ раней (20.04.41) прызначыў «упаўнаважаным па цэнтралізаваным разглядзе пытанняў усходнееўрапейскага рэгіёна», не мог прапанаваць свайму вышэйшаму кіраўніцтву іншы варыянт назвы і па ідэалагічных прычынах, таму што тэрмін *акупаваныя тэрыторыі* прынцыпова розніцца ад абвешчаных у да-

кументах Нацыянал-сацыялісцкай партыі яе праграмных мэтаў, задач, планаў[5];

*па-трэцяе,* сам Розенберг па паходжанні быў прыбалтыйскім немцам і не дрэнна ўяўляў сабе гістарычнае мінулае нямецкай дзяржавы, якая з пачатку XIII стагоддзя на працягу звыш двух вякоў мела самыя непасрэдныя адносіны да ўсходніх тэрыторый, асабліва зямель Прыбалтыкі і Беларусі. Таму прапанова Розенберга ў гэтым выпадку была абгрунтавана думкай хутчэй аб вяртанні, чым акупацыі былых усходніх тэрыторый;

*па-чацвёртае,* з пункту гледжання моўнага перакладу нямецкага слова besetzt, -en трэба зыходзіць, на наш погляд, не толькі з прамога перакладу на беларускую ці рускую мовы, але і з адваротнага перакладу, у выніку чаго атрымліваецца, што беларуска- ці рускамоўны тэрмін *заняць, -ть* у перакладзе на нямецкую мову не дае дэфініцыі «акупаваць» ці «оккупировать»;

*па-пятае,* сярод архіўных крыніц як базавага матэрыялу для навуковых даследаванняў можна сустрэць і іншыя, у якіх у дачыненні да афіцыйнай назвы дзяржаўнай установы Трэцяга Рэйха знаходзяць адлюстраванне блізкія ці падобныя да аўтарскага пацвярджэнні, г. зн. не акупаваных, а *занятых*[6] усходніх тэрыторый;

*па-шостае,* нельга не ўлічваць і факты навуковага ўжытку разглядаемай намі гістарычнай назвы непасрэдна нямецкімі калегамі, якія пры вывучэнні сваёй айчыннай гісторыі ў апошні час усё больш адыходзяць ад шаблонных падыходаў у дачыненні да фактаў акупацыйнай палітыкі гітлераўскай Германіі ў час другой сусветнай вайны на тэрыторыі ўсёй Еўропы, у тым ліку і ў Беларусі[7].

Такім чынам, знаёмства з новай архіўнай крыніцай можна разглядаць як аснову для аргументаваных навуковых доказаў, з аднаго боку, а з другога — як прычыну для абуджэння інтарэсу не столькі вузкага кола беларускіх даследчыкаў, колькі шырокай грамадскасці, асабліва аматараў айчыннай гісторыі. Апрача таго, з прыведзенага вышэй прыкладу наглядна бачна, што навукоўцам пад час сваіх пошукаў неабходна як мага больш рацыянальна выкарыстоўваць добра вядомы гісторыкам прынцып «максімальнай паўнаты крыніц» і менавіта на яго аснове шукаць адэкватныя гістарычнаму мінуламу рашэнні.

[1] НАРБ. Ф. 370. Воп. 1. Спр. 49. Л. 4; «Выкарыстана ў «Рэйхскамісарыяце Остланд»..., С. 18.

[2] НАРБ. Ф. 412. Воп. 1. Спр. 5. Л. 57.

[3] Klagges Dietrich. Geschichte als nationalsozialistische Erziehung. Siebente Auflage. Frankfurt a. M., 1942; НАРБ. Ф. 412. Воп. 1. Спр. 19. Л. 115; Спр. 43. Л. 1, 2, 6, 7, 15; Спр. 50. Л. 12, 13, 23, 40, 41 і інш.

[4] Das Deutsche Reich und der Zweite Weltkrieg / hrsg. von Militaergeschichtlichen Forschungsamt. Bd 4. Der Angriff auf die Sowjetunion. Stuttgart, 1987. S. 421.
[5] Enzyklopaedie des Nationalsozialismus /hrsg. von Wolfgang Benz, Hermann Graml und Hermann Weiss. Stuttgart, 1997. S. 11.
[6] НАРБ. Ф. 370. Воп. 6. Спр. 79. Л. 3, 3 адв., 4; Ф. 4683. Воп. 3. Спр. 935. Л. 116, 234; Спр. 236. Л. 74, 76, 82; Спр. 948. Л. 1, 3, 14, 37, 41, 59 і інш.
[7] *Schlootz Johannes. Pressionen gegen die Presse: Tradizionen aus der Nazizeit // Беларусіка — Albaruthenica: Кн. 7. Беларуска-нямецкае грамадска-культурнае ўзаемадзеянне: гісторыя, сучаснасць, перспектывы. Мн., 1996. С. 63; Chiari Bernhard. Alltag hinter der Front. Besatzung, Kollaboration und Widerstand in Weissrussland 1941 — 1944. Duesseldorf, 1998. S. 8; Gerlach Christian. Kalkulierte Morde. Die deutsche Wirtschafts- und Vernichtungspolitik in Wessrussland 1941 bis 1944. Hamburg, 1999. S. 11.*

***У.І.Адамушка***

## ГІСТАРЯГРАФІЯ І КРЫНІЦЫ ПА ПРАБЛЕМЕ ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ 1920 — 1950-х ГАДОЎ

З пачатку 1990-х гадоў адкрываецца новы накірунак у беларускай гістарыяграфіі па праблеме палітычных рэпрэсій 1920 — 50-х гадоў. Да гэтага часу навуковая літаратура, аналітычныя матэрыялы па разглядаемай тэме не былі напрацаваны. Праблема асвойвалася ды і асвойваецца з цяжкасцю. Як і ва ўсякай справе, у публікацыях па гэтай тэме наперадзе эмацыянальны фактар, захаплене тым, каб як мага хутчэй выдаць наверх матэрыял, а разабрацца ў ім, прааналізаваць як след не хапае ў спешцы часу, а можа, і жадання.

Нягледзячы на тое што масавая рэабілітацыя пачалася ў 1954 г., а факталагічныя матэрыялы пайшлі ў сродкі масавай інфармацыі з сярэдзіны 1980-х гадоў, на сённяшні дзень у распараджэнні беларускіх гісторыкаў толькі адно цэласнае даследаванне — манаграфія У.І.Адамушкі «Палітычныя рэпрэсіі 20 — 50-х гадоў на Беларусі», якая выйшла ў выдавецтве «Беларусь» у 1994 г.

Пры гэтым трэба адзначыць, што беларускія гісторыкі рабілі пэўныя захады па асвятленні дадзенай тэмы. Асобныя аспекты праблемы адлюс-

траваны ў працах Р.П.Платонава, У.М.Міхнюка, М.П.Касцюка, Б.І.Сачанкі, М.У.Токарава, Т.С.Процькі, В.В.Вялічкі, А.П.Урублеўскага, А.М.Сарокіна, У.А.Палуяна, М.С.Сташкевіча, М.Ф.Шумейкі, У.І.Навіцкага, І.М.Кузняцова і інш. Аднак разглядаюцца яны фрагментарна і не даюць поўнага, цэласнага ўяўлення аб крыніцах, механізме, маштабах трагедыі беларускай нацыі.

Сярод работ гэтых аўтараў асабліва трэба адзначыць працы Р.П.Платонава. Апублікаваныя ім манаграфіі «Палітыкі. Ідэі. Лёсы» (1996), «Лёсы» (1998), «На крутым павароце: ідэолага-палітычная барацьба на Беларусі ў 1929 — 1931 гг.» (1999), больш як 100 навуковых артыкулаў у газетах, часопісах, калектыўных зборніках раскрываюць багацейшую на з'явы і складанейшую панараму палітычнага і духоўнага жыцця ў БССР у 1920 — 30-я гады, гонар і трагедыю беларускага народа ў гэты перыяд. Усе яго работы вельмі разнапланавыя, грунтуюцца на першакрыніцах — дакументах беларускіх архіваў. І што больш за ўсё імпануе — аўтар праз лёсы людзей змог паказаць вострую палітыка-ідэалагічную барацьбу, праблему беларусізацыі, асобныя моманты прычын палітычных рэпрэсій і іх прымянення да грамадзян Беларусі.

Выклікае цікавасць і гісторыка-дакументальны нарыс пра Алеся Дудара «Арыштаваць у высылцы», падрыхтаваны У.М.Міхнюком. Праца падрыхтавана на аснове раней недаступных матэрыялаў з архіва КДБ Рэспублікі Беларусь і істотна карэгуе наша ўяўленне аб розных працэсах у грамадстве і літаратуры 1920 — 30-х гадоў. Надзвычай каштоўнымі з'яўляюцца апублікаваныя ў гэтай кнізе паказанні Алеся Дудара, калі арыштаваны ў другі раз паэт рабіў рэвізію сваіх ідэалагічных поглядаў і творчасці. Вельмі да тэмы стасуюцца і апубілкаваныя у рабоце тры вершы Алеся Дудара, у тым ліку верш «Пасеклі наш край папалам», розныя ілюстрацыйныя матэрыялы.

З удзелам У.М.Міхнюка, а таксама М.М.Клімовіча і А.М.Гесь падрыхтаваны і зборнік дакументаў «Антон Луцкевич. Материалы следственного дела НКВД БССР». Навукова-пазнавальная каштоўнасць гэтага выдання заключаецца перш за ўсё у паказаннях А.Луцкевіча, арыштаванага органамі НКУС у 1939 г. у Вільні разам з іншымі беларускімі інтэлігентамі.

Цікавай для беларускай гістарыяграфіі па разглядаемым пытанні з'яўляецца кніга А.І.Валахановіча і У.М.Міхнюка «Споведзь у надзеі застаца жывым». Яна — пра выдатнага грамадскага і палітычнага дзеяча Беларусі, акадэміка АН БССР, вучонага-мовазнаўца, пісьменніка-перакладчыка, публіцыста, аўтара «Беларускай граматыкі для школ» Б.А.Тарашкевіча. Упершыню на мове арыгінала публікуецца яго аўтабіяграфія, напісаная Б.А.Тарашкевічам па прапанове супрацоўнікаў

АДПУ СССР пасля яго арышту ў 1933 г. 76 друкаваных старонак аўтабіяграфіі ў кнізе — гэта не толькі аўтабіяграфія вядомага чалавека, але і аўтабіяграфія краіны. Толькі чытаючы гэтую працу, абавязкова трэба звярнуць увагу на вельмі ўдалыя, на мой погляд, каментарыі і пасляслоўі аўтараў, якія надаюць кнізе арганічную цэласнасць і лагічную завершанасць.

З сярэдзіны 1990-х гадоў асвятленне праблемы знаходзіць месца ў «Нарысах гісторыі Беларусі», ч. 2 (Мн., 1995), выдадзеных Інстытутам гісторыі НАНБ, вучэбным дапаможніку «Гісторыя Беларусі», падрыхтаваным аўтарскім калектывам гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта (Мн., 1996), «Зборніку нарматыўных дакументаў па аднаўленню правоў грамадзян, пацярпеўшых ад палітычных рэпрэсій 20 — 80-х гадоў», выдадзеным Дзяржкамархівам, і іншых выданнях.

Публікацыі па тэме палітычных рэпрэсій 1920 — 50-х гадоў у Беларусі з'яўляліся таксама асобнымі артыкуламі розных аўтараў у газетах і часопісах краіны.

Найбольш значнай навуковай базай па вывучэнні праблемы палітычных рэпрэсій 1920 — 50-х гадоў у Беларусі з'яўляюцца першакрыніцы — архіўныя дакументы і матэрыялы.

Так, у архівах Федэральнай службы бяспекі Расіі (архівы былога КДБ СССР) знаходзяцца крымінальна-следчыя справы на рэпрэсіраваных вышэйшых кіраўнікоў рэспублікі і органаў НКУС БССР, на асоб, якім інкрымінавалі як злачынства ўдзел у партыях і палітычных арганізацыях агульнасаюзнага маштабу і якія прыцягваліся да адказнасці Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР, загады па НКУС СССР, інфармацыі рознага плана па рэпрэсіях і рэпрэсіўнай палітыцы. У 1997 г. каля 100 тыс. крымінальна-следчых спраў з архіваў ФСБ перададзены ў Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі.

У архівах Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь захоўваецца звыш 175 тыс. спраў у адносінах да 250 тыс. чалавек, якія былі прыцягнуты да адказнасці судовымі і несудовымі огранамі па палітычных матывах. Гэтыя справы даюць магчымасць высветліць лёсы людзей, новыя, невядомыя раней факты, неабходныя для аналізу гістарычных падзей 1920 — 50-х гадоў у Беларусі, даведацца аб дзейнасці палітычных партый, рухаў, арганізацый у розныя гістарычныя перыяды, з сённяшніх пазіцый убачыць яўную фальсіфікацыю гэтых спраў як палітычных.

Архівы органаў унутраных спраў утрымліваюць матэрыялы па рэпрэсіях у адміністрацыйным парадку: раскулачванню, ссылцы, высылцы,

выдаленню за межы Беларусі на спецпасяленне. Тут знаходзяцца таксама некаторыя загады, інструкцыі, якія датычацца гэтай катэгорыі грамадзян.

Для даследчыка могуць быць цікавымі дакументы і матэрыялы, якія знаходзяцца на захоўванні ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Гэта перапіска органаў НКУС з ЦК КПБ, аператыўныя зводкі, інфармацыі, рашэнні бюро партыйных органаў аб выключэнні з партыі, стэнаграмы з’ездаў, пленумаў, бюро ЦК, нарад, якія датычацца сутнасці адміністрацыйна-каманднай сістэмы, палітычных рэпрэсій, лёсаў людзей, крымінальна-следчыя справы за 1918 — 1920 гг. Асаблівую цікавасць уяўляюць дакументы і матэрыялы Камісіі па аказанні садзейнічання ў забеспячэнні правоў ахвяр палітычных рэпрэсій 1920 — 1950-х гадоў і ўвекавечанню іх памяці пры Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, якую ў 1991 — 1995 гг. узначальваў В.А.Піскароў. У абласных і занальных архівах знаходзяцца матэрыялы па рэпрэсіях у адміністрацыйным парадку даваеннага і пасляваеннага часу, спісы выселеных і накіраваных на спецпасяленне ў пасляваенны час. У архівах, дзе захоўваюцца дакументы заходніх абласцей краіны (Брэст, Гродна, Баранавічы, Маладзечна і інш.), — матэрыялы аб рэпрэсіях у Заходняй Беларусі.

Асаблівай увагай навукоўцаў карыстаецца імянная картатэка на асоб, неабгрунтавана рэпрэсіравных па палітычных матывах у 1920 — 1950-х гадах і пазней рэабілітаваных, якая створана ў Дзяржаўным камітэце па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам аўтара гэтай публікацыі. Яна налічвае звыш 150 тыс. картак персанальнага ўліку ахвяр палітычных рэпрэсій, падрыхтаваных з перашкрыніц, 50 тыс. з іх уведзены ў ЭВМ. У Дзяржкамархіў з усіх месцаў, у тым ліку з архіваў КДБ і МУС, паступае інфармацыя пра грамадзян Беларусі, якія сталі ахвярамі сваявольства. Картка ўтрымлівае асноўныя звесткі аб людзях, якія бязвінна пацярпелі ад таталітарнага рэжыму ў 1920 — 1950-я гады, па 34 пазіцыях: прозвішча, імя, імя па бацьку, пол, год і месца нараджэння, нацыянальнасць, сацыяльнае паходжанне, адукацыя, пасада і месца працы, месца жыхарства да арышту, склад сям’і, удзел у рэвалюцыях і баявых дзеяннях перыяду 1917 — 1953 гг., дата арышту, дата асуджэння, якім органам асуджаны, характар абвінавачвання, артыкул Крымінальнага кодэкса, па якім грамадзянін прыцягваўся да адказнасці, меры пакарання, дата вызвалення, дата гібелі, прычыны гібелі, месца пахавання ці расстрэлу, калі і якім органам рэабілітаваны, наяўнасць фатаграфіі і г. д. Такая сістэма персанальнага ўліку ахвяр палітычных рэпрэсій з усіх саюзных рэспублік былога СССР дзейнічае толькі ў Беларусі. Пры заканчэнні ўліку можна будзе назваць больш дакладную лічбу неабгрунтавана рэпрэсіраваных грамадзян нашай

краіны. З гэтай своеасаблівай мінісправы, складзенай на аснове першакрыніц, можна зрабіць у сваім родзе энцыклапедычны даведнік, невялічкі летапіс кожнай ахвяры палітычных рэпрэсій — з дня арышту да даты рэабілітацыі.

Праведзеная работа дала магчымасць на дазеным этапе выправіць некаторыя колькасныя характарыстыкі ў адносінах да катэгорыі неабгрунтавана рэпрэсіраваных грамадзян, дасканала вывучыць крыніцы па праблеме палітычных рэпрэсій у Беларусі, прывесці ў адпаведнасць уліковую базу. У 1991 — 1997 гг. па матэрыялах картатэкі пад кіраўніцтвам і з непасрэдным удзелам аўтара гэтых радкоў упершыню ў гісторыі Беларусі падрыхтаваны спісы ахвяр палітычных рэпрэсій для кніг «Памяць» па Мінску, Крупскаму, Старадарожскаму, Слуцкаму, Дзяржынскаму, Маладзечанскаму, Мядзельскаму, Нясвіжскаму, Смалявіцкаму, Уздзенскаму, Чэрвенскаму, Браслаўскаму, Докшыцкаму, Верхнядзвінскаму, Лепельскаму, Пастаўскаму, Аршанскаму, Баранавіцкаму, Брэсцкаму, Ганцавіцкаму, Кобрынскаму, Столінскаму раёнах, гарадах Віцебску і Брэсту.

Працэс распрацоўкі тэмы і пошуку адказаў на яе асноўныя пытанні працягваецца.

# ТЭКСТАЛОГІЯ

*М.І.Мушынскі*

## ПЕРШЫ ПОЎНЫ ЗБОР ТВОРАЎ ЯНКІ КУПАЛЫ: КАНЦЭПЦЫЯ ВЫДАННЯ І ЯЕ ПРАКТЫЧНАЕ ЎВАСАБЛЕННЕ

Адносіны розных пластоў грамадства да духоўнай спадчыны народа, да лепшых набыткаў у галіне прыгожага пісьменства на розных этапах развіцця былі рознымі. На жаль, часамі мела месца і негатыўнае стаўленне да створанага папярэднікамі, яго недаацэнка. Але пазітыўныя тэндэнцыі нязменна бралі верх над праявамі нігілізму. Павага да класічнай спадчыны, яе вывучэнне, прапаганда ў шырокім асяроддзі паступова станавілася нормай грамадскага жыцця. Спадчына, лепшыя традыцыі мінулага ўсведамляліся як неад’емны кампанент нацыянальнай культуры, перадумова духоўнага прагрэсу.

Вялікую ролю ў працэсе вывучэння, папулярызацыі літаратурнамастацкай спадчыны, як вядома, адыгрываюць Зборы твораў, ажыццёўленыя найчасцей пэўнымі навуковымі цэнтрамі. Адным з такіх цэнтраў з’яўляецца Інстытут літаратуры імя Я.Купалы НАН Беларусі. Тут, у аддзеле тэксталогіі і выданняў, на працягу многіх дзесяцігоддзяў, пачынаючы з пасляваеннага часу, вядзецца планамерная праца над падрыхтоўкай літаратурнай, публіцыстычнай, эпісталярнай спадчыны класікаў беларускай літаратуры і тых пісьменнікаў, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё нацыянальнай паэзіі, прозы, драматургіі, публіцыстыкі, крытыкі. Так, за апошнія гады падрыхтаваны і выдадзены Зборы твораў К.Чорнага ў 8 тамах, І.Мележа ў 10, М.Лынькова ў 8, М.Гарэцкага ў 4 (і два дадатковыя), П.Пестрака ў 5, З.Бядулі ў 5, А.Макаёнка ў 5, П.Броўкі ў 9, М.Зарэцкага ў 4, М.Багдановіча (Поўны збор) у 3, Я.Пушчы ў 2. Апроч пералічаных, выйшаў шэраг Збораў твораў у адным томе.

Большасць пералічаных тут выданняў належыць да навуковакаментаваных Збораў твораў. І ў іх падрыхтоўцы калектыў назапасіў значны вопыт. Але даўно наспеў час, калі беларускія тэкстолагі павінны ў цэнтры сваёй дзейнасці паставіць іншы тып выдання — а менавіта Поўны збор

твораў. Такая карэкціроўка напрамку працы вымагаецца інтарэсамі развіцця ўсяго нацыянальнага літаратуразнаўства, у тым ліку і самой тэксталогіі як філалагічнай дысцыпліны.

Сучасная тэксталогія ў аснову класіфікацыі *паводле тыпаў* кладзе характар працы над тэкстамі пры падрыхтоўцы яго да выдання. І тут магчымы *тры варыянты*:

1) тэкст узнаўляецца без зменаў. Гэта — дакументальнае выданне (факсімільнае, дыпламатычнае); 2) тэкст рыхтуецца тэкстолагам. Гэта — выданне крытычнае; 3) тэкст перадрукоўваецца з папярэдняга. У такім выпадку размова ідзе пра шырока вядомае масавае выданне.

У аснову ж класіфікацыі *паводле відаў* бярэцца ступень паўнаты складу выдання. Эдыцыйная практыка сведчыць, што ў нас усталявалася *пяць відаў* выданняў:

1) Поўны збор твораў; 2) Збор твораў (Творы); 3) Выбранае; 4) зборнікі твораў; 5) асобнае выданне асобнага твора.

Такім чынам, новае выданне спадчыны Янкі Купалы ў 9 тамах з'яўляецца (паводле тыпу) крытычным, навукова-каментаваным і (паводле віду) поўным, паколькі ўключае ўсю мастацкую, публіцыстычную і эпісталярную спадчыну паэта, вядомую на сённяшні дзень.

Што датычыць таго, каб назваць Поўны збор твораў Я.Купалы яшчэ і акадэмічным, дык да такога рашэння мы не гатовы: наша выданне толькі набліжаецца да ўзроўню акадэмічнага. Акадэмічнае павінна ўключаць літаральна ўсё, што выйшла з-пад пяра пісьменніка, у тым ліку і т. зв. нятворчыя матэрыялы: адрас і суму на грашовых пераводах, заўвагі на палях кніг, якія ён чытаў, ягоныя малюнкі, усе варыянты, зробленыя пры рэдагаванні ці дапрацоўцы твораў іншага паэта, празаіка. Але гэтыя пытанні сёння не могуць быць вырашаны паспяхова, бо пытанне пра бібліятэку паэта не даследавана, невядома, ці захаваліся кнігі, якія паэт чытаў і на якіх рабіў паметы. Такая ж сітуацыя і з рэдактурай. Ёсць багата сведчанняў наконт таго, што Я.Купала істотна дапрацоўваў вершаваныя вопыты, якія дасылаліся пачаткоўцамі ў «Нашу ніву». Вось каб рукапісы з Купалавымі папраўкамі знайшліся, папраўкі абавязкова павінны былі б трапіць у выданне.

Прыступаючы да працы над Поўным зборам, мы якраз і кіраваліся выкладзенымі вышэй метадалагічнымі прынцыпамі і тэарэтычнымі палажэннямі. Безумоўна, быў улічаны і багаты вопыт нашых папярэднікаў у падрыхтоўцы класічнай спадчыны да выдання, у тым ліку — дальняга замежжа[1].

Мы ставілі за мэту праз паўнату падачы матэрыялу наблізіць чытача да глыбейшага ўспрымання Купалы як мастака, паэта-наватара, адраджэнца, духоўнага бацькі нацыі, аднаго з заснавальнікаў айчыннай драматургіі, выдатнага перакладчыка, палымянага публіцыста-мысляра, буйнога грамадскага, культурнага дзеяча. І, зразумела, як чалавека, непаўторную асобу. Нам патрэбен не адрэдагаваны, не выпраўлены, не палепшаны, а рэальны, праўдзівы, аўтэнтычны Купала, менавіта такі, якім ён быў у жыцці. Паўната спадчыны — літаратурнай, публіцыстычнай, эпісталярнай — заклікана паказаць сапраўднае месца паэта ў нацыянальным адраджэнні, у духоўным жыцці грамадства, народа.

Што ж канкрэтна зроблена аўтарскім калектывам? Трэба заўважыць, што калектыў гэты нешматлікі, у яго склад уваходзілі навуковыя супрацоўнікі Т.С.Голуб, С.В.Забродская, Э.А.Золава, К.А.Казыра, Л.М.Мазанік, Т.Р.Строева, А.І.Шамякіна, Г.В.Якаўлева. У большасці з іх за плячыма вялікі вопыт тэксталагічнай працы, удзел у падрыхтоўцы не аднаго прыгаданага вышэй навукова-каментаванага Збору твораў. Дык вось на працягу даволі кароткага тэрміну імі сабрана ўсё, што сёння можна было сабраць. У параўнанні з папярэднім сямітомнікам (1972 — 1976) новае выданне выглядае больш прадстаўніча: у яго склад уключана дадаткова 80 вершаваных і болей за 100 публіцыстычных твораў, 60 лістоў, і ўпершыню — 103 дарчыя надпісы.

На сённяшні дзень з друку выйшлі шэсць тамоў з дзевяці.

Пераважная частка вершаў, якіх не было ў папярэднім Зборы твораў, друкавалася толькі ў перыёдыцы, як, напрыклад, «Песняру», «Не каханак чарнавокіх», некаторыя вершаваныя творы былі ў прыжыццёвых выданнях, але ў пасмяротныя па розных прычынах не ўваходзілі («Вялікдзень», «З мінуўшых дзён», «Любіць ён работу», «Беларушчына»), асобныя ўпершыню публікуюцца па аўтографах («Лямант пана Кавалюка», «Прыяцелі», «Нашы дэпутаты»). Гаворка тут ішла пра 2-і том (творы 1908 — 1910 гг).

Ёсць свае набыткі і ў першым томе. Гэта польскамоўны верш «Kobiecie». Упершыню з'явіўся і раздзел Dubia, у якім размешчаны вершы «Modłitwo» і «Гурка і Лідвалі», прыналежнасць якіх Я.Купалу яшчэ павінна быць пацверджана дакументальна. Польскамоўныя вершы Я.Купалы падаюцца, апроч арыгінала, яшчэ і ў даслоўным перакладзе У.Мархеля.

Чатырнаццаць вершаў і восем шарадаў складальнікі ўключылі ў 3-і том (1911 — 1914). Сярод іх такія выдатныя рэчы, як «Над Нёманам», «Папросту», «Чужым», «У чужой староньцы», «На рынку», «Годзе», «Забраны край», «Чараўнік», «На ўсе рукі», «У бяссонную ноч», «Брату-беларусу», «Сярод раз'юшаных сатрапаў», «Я мець ад кагосьці...», «Груганы». Двац-

цаць вершаў уключана ў 4-ы том (1915 — 1929), дваццаць два — у 5-ы (1930 — 1942). У 6-м змешчаны паэмы «На дзяды», «На куццю», адсутнасць якіх у Зборы твораў перашкаджала стварыць цэласны малюнак развіцця беларускага ліра-эпасу. Законнае месца сярод драматургіі Я.Купалы зойме славутая п’еса «Тутэйшыя» (том 7-ы).

Асобнай гаворкі заслугоўвае 8-ы том, дзе друкуецца публіцыстыка, крытычныя артыкулы. Абмяжуюся агульнай заўвагай аб тым, што восемдзесят матэрыялаў, якіх не было ў папярэднім выданні, істотна ўзбагацяць ранейшыя нашы ўяўленні пра Купалу як выдатнага публіцыста, палітыка, грамадскага дзеяча шырокіх поглядаў на жыццё, на праблемы дзяржаўнага будаўніцтва. Да сямідзесяці сямі лістоў, што ўваходзілі ў сямітомны Збор твораў, будзе далучана яшчэ 60 (разам з паштоўкамі, тэлеграмамі) і 103 дарчыя надпісы на кнігах і фотаздымках. Яны ўвойдуць у 9-ы том. Увесь гэты матэрыял, узяты ў сукупнасці, сістэмна асэнсаваны, дазволіць чытачу, навукоўцам па-новаму паглядзець на шматгранную спадчыну народнага песняра, накрэсліць новыя аспекты яе даследавання.

Вялікую практычную дапамогу тэкстолагам у падрыхтоўцы Поўнага збору аказвалі работнікі літаратурнага музея Янкі Купалы. Абсягі гэтай дапамогі надзвычай шырокія.

Пяройдзем цяпер да спецыфічных аспектаў працы тэкстолагаў. Паспяховае іх вырашэнне якраз і забяспечвае належны ўзровень Поўнага збору твораў. На першым месцы — выбар асноўнага тэксту. Гэта зноў жа такі праблема аўтэнтычнага Купалы, паўнаты выяўлення аўтарскай творчай волі. За аснову намі ўзята першае прыжыццёвае выданне (1925 — 1932), якое паэт рыхтаваў непасрэдна. Зразумела, каментарый — бібліяграфічны, тэксталагічны, рэальны — там адсутнічаў. Не прыводзіліся і варыянты, розначытанні, іншыя рэдакцыі. Аўтарызаванасць выдання не вызваляе, аднак, нас ад абавязковай зверкі тэксту кожнага верша з усімі прыжыццёвымі друкаванымі і рукапіснымі крыніцамі, а таксама з пасмяротнымі выданнямі, каб дакладна ўстанавіць, хто і калі ўнёс пэўную папраўку ў аўтарскі тэкст. А ведаць час узнікнення тэкстуальных змен трэба. На жаль, у ранейшых каментарыях звесткі пра гэта не прыводзіліся. Там былі толькі варыянты першапачатковага тэксту, напрыклад, варыянты «Нашай нівы», зборнікаў «Жалейка», «Спадчына». У якім наступным выданні зроблена тая ці іншая папраўка, а таксама кім зроблена, невядома. Аматараў жа паляпшаць, удасканальваць Купалавы творы, прыстасоўваць іх для пэўных палітычных, ідэалагічных патрэбаў заўжды было шмат. Іх назойлівы клопат пра ідэйную чысціню літаратуры негатыўна адбіваўся на змесце асобных твораў паэта і ўсёй творчасці. Пры ўважлівай зверцы якраз і выяўляліся памылкі, недак-

ладнасці, скажэнні, значныя купюры. Так, у першым томе ўзноўлены апушчаныя строфы ў пяці вершах («З маіх песень», «З асенніх напеваў», «З песень нядолі» («Шумныя бярозы»), «Касьба», «Шавец», у другім — у сямі («Мой погляд і мэта», «Памяці С.Палуяна», «Шчаслівасць», «Сядзь тут, пад крыжам», «Думка», «Песня», «Кругаварот»). У трэцім — у трох («Новы год», «Прыстаў я жыць», «Над Нёманам»), у чацвёртым — у пяці вершах («Паўстань», «Гэй, паехаў сын Даніла...», «Па Даўгінаўскім гасцінцы», «Каб...» і інш.).

Прычыны скарачэння тэксту, вядома, розныя, але найчасцей выкліканы ўмяшаннем цэнзуры. Так, у вершах са зборніка «Жалейка», калі рыхтаваўся першы Збор твораў, былі апушчаны радкі, дзе лірычны герой звяртаецца да Усявышняга і звязвае свае надзеі на лепшую долю з боскай ласкаю. Агульнавядома, як рашуча змагалася савецкая ўлада адразу ж пасля Кастрычніка з рэлігійнай ідэалогіяй, зацята прышчэпліваючы народу ваяўнічы атэізм. Таму самае бяскрыўднае выкарыстанне лексікі рэлігійнага, царкоўнага характару ў мастацкіх творах ацэньвалася як крамола і ідэалагічная дыверсія. Па гэтай прычыне не маглі застацца ў вершах «З маіх песень», «З асенніх напеваў», «З песень нядолі» (1905 — 1907) наступныя строфы:

«Можа, гэтакі звон
Даляціць да нябёс,
Аддасць Богу паклон,
Скажа, сколькі лью слёз» (Т. 1. С. 173).

«Не даў ты мне, Божа,
Зазнаць шчасце, волю, —
Забяры ж ты, Божа,
І маю нядолю» (Т. 1. С. 190).

«Ой, пайду я ў цэркаў,
    Свечачку куплю, —
Можа, згіне гора,
    Якое цярплю» (Т. 1. С. 192).

Жаданнем палепшыць ідэйнае гучанне верша «Кругаварот» (1906 — 1910) тлумачыцца адсутнасць у чацвёртым томе Збору твораў (1940) апошняй страфы:

«Нязнанай сілай правіць светам
Пачатак, бытнасць і канец;

Народ таўпехаецца ў гэтым,
Як стада зблуканых авец».

Занадта ўжо песімістычнымі здаліся прадстаўнікам афіцыёзу погляды Я.Купалы на гістарычны працэс, на ролю ў ім народных мас. Таму і выкасавана была непажаданая страфа. І ў наступных пасмяротных выданнях (1961, 1973) яна таксама адустнічае. Не выклікае сумнення той факт, што ў Поўным зборы рэдакцыйнай калегіяй правамерна «ўзноўлены поўны аўтарскі тэкст»[2].

З поўным правам складальнікі трэцяга тома перанеслі з каментарыя ў асноўны тэкст дзве страфы верша «Прыстаў я жыць...» (1912), якія былі апушчаны Я.Купалам па цэнзурных меркаваннях у працэсе падрыхтоўкі да друку зборніка «Шляхам жыцця»:

«На ніве роднай зброд прадажны
Скрозь гаспадарку распасцёр,
Чужацкай песняю прыказнай
Калыша здаўлены прастор.

І шумна чаркі напаўняе
Крывёй аслепленых рабоў...
Гульню так чорную спраўляе
Паміж крыжоў, паміж грабоў» (Т. 3. С. 68).

Увогуле, вывучэнне рукапіснага тэксту зборніка «Шляхам жыцця», яго карэктурных лістоў, выдадзенай у 1913 г. кнігі і аўтарскіх правак да другога выдання зборніка дазволіла прасачыць за гісторыяй тэксту многіх вершаў, якія тут змешчаны. У прыватнасці, дакладна вызначана, калі паэтам унесены праўкі ў вершы «Сад», «Рэчка», «Вярба», «У купальскую ноч», «Дзе?..», «Сваякам па гутарцы», «Маладая Беларусь», «Згнаннік» і інш.

У 2-м томе (другая частка) і ў 6-м (паэмы) папярэдняга выдання змяшчаліся творы, за асноўны тэкст якіх быў узяты адпаведна том 4-ы (1940) і зборнік «Паэмы» (1940), дзе выяўлена шмат памылак і недакладнасцяў, бо Я.Купала не прымаў непасрэдны ўдзел у іх падрыхтоўцы. Тым не менш ранейшыя складальнікі прыгаданых тамоў праігнаравалі гэты факт. Яны зыходзілі з фармальнага разумення праблемы выбару крыніцы асноўнага тэксту, паколькі выданні 1940 г. храналагічна апошнія, маўляў, іх і трэба браць у аснову. Пры падрыхтоўцы Поўнага збору мы адмовіліся ад такога спрошчанага падыходу.

Агульнавядома, якое вялікае значэнне мае дакладная дата напісання твора. Без поўных звестак на гэты конт практычна невырашальнымі заста-

юцца праблемы перыядызацыі, ідэйна-творчага развіцця пісьменніка. А блытаніна ці недакладнасць фактычнага характару могуць стварыць цяжкасці і пры напісанні навуковай біяграфіі мастака слова. Апроч таго, у нас не заўсёды ўсведамляецца, што дата, пастаўленая аўтарам пад тэкстам, — гэта арганічная, неадрыўная частка твора. І яна абавязкова павінна быць разам з творам... Нягледзячы на тое, што наша выданне — чацвёртае пасмяротнае, працы ў гэтым кірунку было шмат, а вынікі аказаліся даволі плённыя.

У першым томе ўдакладнены даты напісання вершаў «Што ты спіш?..», «Не рвіся к багатым», «Пашкадуй мужыка!», якія ў папярэдніх выданнях датаваліся 1906 г. Улічваючы тое, што на прадстаўленні, якое адбылося 7 (20) красавіка 1906 г. у маёнтку Пятроўшчына пад Мінскам, прыгаданыя вершы былі прачытаны А.Бурбісам, складальнікі мелі падставу абмежаваць час іх напісання. Верш «Вецер, і сокал, і я...», які раней змяшчаўся ў 2-м томе Збору твораў з датай 1908 — 1910 гг., зараз перанесены ў том першы і ўмоўна датуецца 1906 — 1907 гг. «Падставай для такога сцвярджэння можа служыць той факт, што аўтограф верша... змешчаны разам з творамі, якія датуюцца 1906 г. (паэма «Нікому») і 1907 г. (вершы «Эпіграма на БВС», «У зялёным садочку»)[3].

Што датычыць другога тома, дык там тэкстолагі ўнеслі папраўкі ў датаванне дзесяці вершаў: («Было гэта...», «Лес», «Стужа зблiжаецца» і інш.). Вось якія цікавыя звесткі прыведзены ў каментарыях да першага з іх. Аўтографы вершаў «Было гэта...» і «Брату» змешчаны на адной старонцы, пранумараванай лічбай 40. Нумарацыя сведчыць аб тым, што вершы павінны былі ўвайсці ў нейкі зборнік, магчыма, у «Гусляр» (1910). Пад прыгаданым вышэй вершам «Брату» ёсць аўтарская памета: «Янук Купала. Вільня. 13/IX». Яна дае падставу дапусціць, што гаворка ідзе пра 13 верасня 1909 года, бо паводле пашпартных даных у Вільні паэт жыў з 1 снежня і да 6 лістапада 1909 г.

Сур’ёзная даследчая праца праведзена ў трэцім томе па ўдакладненні часу напісання вершаў, якія змешчаны ў рубрыцы «1906–1912»: «...Але не выключана верагоднасць таго, што напісаны гэтыя творы раней і па пэўных прычынах не трапілі ў папярэднія зборнікі «Жалейка», 1908 г. і «Гусляр», 1910 г. Да такіх твораў адносяцца вершы «Шлях мой...», «Суды», «Ці ж доля мая?», «Паляці, мая мысль...», «Праз што плачаш, мужычок?», «Песня», «Сваякам па гутарцы», «Перад ночкай» і «Наша песня». Не пазней 1909 г. напісаны верш «Рвіся, думка» і «У вучылішчы» (Т. 3. С. 296). Уважліва прачытаўшы каментарый да большасці з пералічаных тут твораў, чытач атрымае болей канкрэтнае ўяўленне аб тым, калі яны пісаліся. Дзеля

аргументацыі ўласнай думкі складальнікі выкарыстоўвалі разнастайныя даныя. Напрыклад, было прынята пад увагу тое, што пад тэкстам вершаў «Рвіся, думка» і «У вучылішчы» стаяў подпіс «Янук Купала», якім паэт карыстаўся да 1910 г. А для вызначэння даты верша «Людка» прыцягнуты вось якія звесткі і меркаванні. «Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (Л. 131). Апошнія два радкі дапісаны аўтарскай рукою. Праўкі зроблены чырвоным чарнілам, што характэрна і для тых машынапісаў у рукапісным зборніку, якія адносяцца да ранняга перыяду» (Т. 3. С. 303).

У 4-м томе вершы «Мая вера», «З дня ў дзень», «З думак жабрака», «Як цені», «Дзве долі», «Бяспутнасць», «Дрэмле Юрка», «Не ўсе дома», «З песень мужычых», «Можам часта мы плакаць», «Песня» («Гнаны Янка доляй»), «Няма грошы», «Душачка, шынкарка» з раздзела «Вершы невядомых гадоў» перанесены ў адпаведныя рубрыкі на той падставе, што яны ўжо былі змешчаны ў перыядычным друку (зразумела, без аўтарскай даты), і мы зараз датуем іх годам апублікавання. А гэта, пагадзіцеся, крок наперад у справе ўстанаўлення больш дакладнай даты.

Увогуле праблема твораў, дакладная дата напісання якіх невядома, уяўляе значную складанасць пры сваім вырашэнні. Тут неабходны глыбокія агульналітаратурныя веды, шырыня погляду на гістарычны час, на літаратурны працэс. Пры падрыхтоўцы 3-га тома Золавай Э.А. былі выказаны пэўныя меркаванні і прапановы, заснаваныя на аналізе якасці паперы рукапісу, почырку Я.Купалы і стылёвай манеры паэта, дамінуючых матываў творчасці ў той ці іншы перыяд. А гэта, як бачым, сапраўдны навуковы падыход, сур’ёзная аналітычная праца.

Дзякуючы выяўленаму ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь дакументу ўдалося ўстанавіць прычыны недакладнасцяў у аўтарскім датаванні вершаў «Хрыстос васкрос!», «Мая малітва», «Цару і неба, і зямлі», «Людка», «Жнеям», «Над ніваю ў непагоду», «Праз што плачаш, мужычок...» і інш. Прыгаданы дакумент — гэта пастанова калегіі Галоўліта БССР ад 21 лістапада 1925 г. аб дазволе друкаваць «Шляхам жыцця» ў 2-м томе Збору твораў (выйшаў у 1926 г.) пры ўмове, калі там будуць даты пад творамі, якія работнік Галоўліта даў асобным спісам. Гэтых вершаў там дваццаць два. І многія з іх у першадруку мелі розныя даты. Напрыклад, «Хрыстос васкрос» — 1911 г., «Вялікдзень», паводле аўтографу, — 23 сакавіка 1909 г., «Мая малітва», згодна тэксту «Нашай нівы», — 1 жніўня 1912 г. А ў другім томе (1926) яны ўжо датуюцца 1908 г. Чым жа вытлумачыць такія нечаканыя разыходжанні? Адкуль яны? Вось што на гэты конт думаюць складальнікі і каментатары трэцяга тома Поўнага збору: «Відавочна,

што паэт быў вымушаны паставіць больш раннюю дату, каб пацвердзіць, што творы, напісаныя да рэлігійных святаў (г. зн. вершы «Хрыстос васкрос!..», «Мая малітва». — *М.М.*), маглі быць створаны толькі на пачатку творчага шляху...»[4]

Прароблена вялікая праца і па ўдакладненні крыніц першадруку. Абмяжуюся асобнымі прыкладамі, узятымі з пятага тома. У ранейшых выданнях сцвярджалася, што верш «Лён» упершыню надрукаваны ў газеце «Звязда» 12 жніўня 1935 г. У сапраўднасці ж гэтай крыніцай з’яўляецца газета «Правда» ад 11 ліпеня таго ж года (у перакладзе М.Галоднага). Аналагічная гісторыя з вершам «Нашаму святу» — не ў «Звяздзе» ад 7 лістапада, а ў тым жа нумары «Правды», дзе друкаваўся «Лён». І ў перакладзе М.Галоднага. Вершы «Як у госці сын прыехаў», «Дзве дзяўчыны» таксама спярша пабачылі свет на старонках «Правды» (пераклад М.Панова), а потым — на мове арыгінала. Прыведзеныя факты паказальныя ў плане разумення палітычнай атмасферы, псіхалагічнага клімату сярэдзіны 30-х гадоў.

Удакладнены крыніцы першадруку вершаў «Шляхі», «А я думаў», «Партызаны», «Дарогі», «Джамбулу». У каментарыях папярэдніх выданняў можна было прачытаць, што верш «Грабежнік» пры жыцці паэта не публікаваўся і яго першадрук — зборнік «Беларускім партызанам» (1942). На самай справе ён быў надрукаваны ў газеце «Савецкая Беларусь» за 20 студзеня 1942 г.

У параўнанні з папярэднімі выданнямі пэўным чынам пашырылася «Dubia», г. зн. рубрыка, адведзеная для твораў, якія прыпісваюцца паэту ці ў аўтарстве якіх няма ўпэўненасці, няма дакументальных пацверджанняў. Так, у прыгаданую рубрыку першага тома, як ужо зазначалася, уведзены вершы «Modlitwa» (1903); «Гурка і Лідвалі» (1906); другога тома — дзве рэдакцыі паэмы пра Андрэя Баболю: «Святы Андрэй Баболя. Мучанік беларускі» і «Святы Андрэй Баболя. Мучанік беларускі за веру». Подпіс: Я.Купальскі (1910). Рубрыка чацвёртага тома папоўнілася вершамі «Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары», «У часе, калі пан над намі», «Адчуваннеяў разліў».

Хацелася б звярнуць увагу на тое, што ў кампазіцыю ранейшых выданняў намі ўнесены істотныя змены, заснаваныя на новай перыядызацыі гісторыі беларускай літаратуры XX ст. Ранейшы падзел творчасці на дакастрычніцкі і савецкі прызнаны за недастаткова абгрунтаваны, бо пры такім падыходзе ўлічваюцца грамадска-палітычныя, а не ўласна эстэтычныя фактары, не ўнут-раныя заканамернасці развіцця літаратуры як формы духоўнай дзейнасці. Вось чаму мы не сталі, як раней, штучна заганяць дакастрычніцкую паэзію абавязкова ў тры першыя тамы, каб тым самым лішні раз падкрэсліць якасныя адрозненні паміж творчасцю дарэвалюцый-

нага і савецкага перыядаў. Улічваючы ўсе гэтыя моманты, тэкстолагі прапанавалі іншае размяшчэнне Купалавых вершаў па тамах: 1904 — 1907; 1908 — 1910; 1911 — 1914; 1915 — 1929; 1930 — 1942. Вядома, ідэальнай перыядызацыі не існуе, бо яна схематызуе творчы працэс. А творчая дзейнасць — з'ява рухомая, зменлівая, цякучая. Прапанаваная перыядызацыя — не штучная, не адвольная. У ёй адбіваюцца рэальныя змены ў творчасці паэта. Так, першы том — гэта фактычна перыяд зборніка «Жалейка» (1908), другі — зборніка «Гусляр» (1910), трэці — «Шляхам жыцця» (1913). І год 1929-ы — таксама невыпадковы, бо гэтым годам завяршаецца першы перыяд гісторыі беларускай літаратуры XX ст. У тым, што вершы 30-х — пачатку 40-х гадоў склалі цалкам пяты том, таксама ёсць свая логіка.

Паколькі тут закранута пытанне кампазіцыі Збору твораў, нельга абмінуць вось які прынцыповы момант. Так, калі 1-ы том праходзіў рэцэнзаванне, было вырашана напісаць кароткія нарысы па гісторыі кожнага Купалавага зборніка — як ён ствараўся, які ўдзел у яго падрыхтоўцы прымаў непасрэдна паэт, якія змены ўносіліся ім пры чытанні карэктур і г. д. Аўтарамі нарысаў з'яўляюцца А.І.Шамякіна («Жалейка»), Т.Р.Строева («Гусляр»), Э.А.Золава («Шляхам жыцця»), Л.М. Мазанік («Спадчына»).

У Поўным зборы нашмат багацейшым будзе гісторыка-літаратурны і рэальны каментарый. За кошт новых матэрыялаў, якія ўжо публікаваліся ў друку і якія непасрэдна тэкстолагамі выяўлены ў архівах. Каб у тым пераканацца, дастаткова раскрыць любы том на любой старонцы. Так, сваёй змястоўнасцю вызначаюцца каментарыі да змешчаных у першым томе вершаў «Мужык» (С. 343 — 344), «Што ты спіш?..» (С. 347 — 348), «І як тут не смяяцца...» (С. 349 — 350), «З песень нядолі» (357), «Вецер, і сокал, і я...» (С. 370 — 371), «Я не паэта» (371 — 372), «Да сваіх думак» (С. 373), «З песень аб сваёй старонцы» (С. 377 — 378), «А хто там ідзе?» (С. 378 — 381), «Песня вольнага чалавека» (С. 382), «Канюх» (С. 395) і інш.

Тое ж трэба сказаць і пра наступныя тамы. Прычым, агульны аб'ём каментарыя не толькі зменшыўся, але і ўзрос, што пацвярджаюць лічбы: каментарый першага тома займае 341 — 401 стар., другога 261 — 330, трэцяга 270 — 331, чацвёртага 355 — 434.

Нельга не звярнуць увагу і на каментарыі да твораў, перакладзеных Я.Купалам на беларускую мову — «Слова аб палку Ігаравым...» (С. 418 — 422), «Міжнародны гімн» (С. 423 — 426), «Слова аб палку Ігаравым» (вершаваны пераклад) (С. 427 — 431). Прыведзеныя лічбы гавораць пра сур'ёзнае стаўленне тэкстолагаў да падрыхтоўкі Поўнага збору, пра імкненне дапамагчы чытачу глыбей разабрацца ў абставінах, у якіх той ці іншы твор быў напісаны, апублікаваны, перакладзены.

Значнае месца ў каментарыях займаюць звесткі, якія тычацца прыжыццёвых ацэнак твораў Я.Купалы. І тут не абышлося без сур'ёзных спрэчак, дыскусій. Разыходжанні выклікала рашэнне прыводзіць вытрымкі не толькі са станоўчых водгукаў, але і з артыкулаў вульгарна-дагматычнага зместу. На нашу думку, каб глыбей адчуць трагізм існавання Купалы-пакутніка, каментарый да яго твораў павінен уключаць разнастайны даведачны матэрыял.

Той, хто знаёміўся з першымі тамамі, напэўна, звярнуў увагу на адсутнасць у іх традыцыйнага літаратурнага артыкула, дзе разглядаюцца творы, змешчаныя ў дадзеным томе. Чым такая навацыя выклікана? Мы ж памятаем, што літаральна ўсе папярэднія выданні, якія рыхтаваліся Інстытутам літаратуры — Зборы твораў К.Чорнага, І.Мележа, М.Лынькова, П.Пестрака, П.Броўкі, М.Гарэцкага, М.Зарэцкага, Я.Пушчы, М.Багдановіча, мелі літаратурна-крытычныя нарысы. У Поўным зборы Я.Купалы вырашана адмовіцца ад жанравай формы гісторыка-літаратурнага даследавання, бо ёсць небяспека таго, што праз колькі гадоў прыведзеныя ацэнкі будуць успрымацца як устарэлыя. Ды і ці можна меркаванне пэўнага даследчыка, няхай нават і вельмі аўтарытэтнага, прафесійна падрыхтаванага, прэтэндаваць на поўную аб'ектыўнасць? Напэўна ж, не! Вось чаму мы абмежаваліся толькі саліднай прадмовай, якую напісаў вядомы даследчык творчасці Я.Купалы У.Гніламёдаў.

У працэсе падрыхтоўкі Поўнага збору давялося вырашаць і пытанне аб форме падачы варыянтаў. З раздзела «Каментарыі» мы перанеслі іх у асноўную частку тома і змясцілі пад рубрыкай «Іншыя рэдакцыі і варыянты». У чым сутнасць новага падыходу? У імкненні пераасэнсаваць ранейшы погляд на варыянты як на нібыта другасны матэрыял, адкінуты, забракаваны асабіста аўтарам. Было вырашана: няхай даследчыкі Купалавай спадчыны, увогуле ўсе, хто любіць яго паэзію, самастойна параўнаюць першапачатковы і агульнавядомы тэкст і зробяць вывад, ці тут меў месца ідэалагічны ўціск, цэнзурны прымус, самарэдагаванне ці сапраўдная творчая перапрацоўка, удасканальванне радка, выкліканае творчымі меркаваннямі. А каб дапамагчы прыхільніку таленту Я.Купалы разабрацца ў гэтых пытаннях, мы і змянілі статус варыянтаў, надрукаваўшы іх не петытам, а такім жа шрыфтам, што і асноўны тэкст. Дадзенае тэксталагічнае рашэнне носіць прынцыповы характар, бо дазваляе па-новаму паглядзець на праблему аўтарскай творчай волі: калі перапрацоўка рабілася не добраахвотна, а пад прымусам, дык гаворка павінна ісці якраз пра парушэнне волі аўтара. І не выключана, што за асноўны тэкст трэба браць не апошні па часе, а менавіта той, які папярэднічаў апошняму.

Трэба мець на ўвазе і яшчэ адзін момант. З кожным годам каштоўнасць слова, напісанага класікам літаратуры, узрастае. І чым раней яно прамоўлена і зафіксавана на старонках друку, тым вышэй яго вартасць — калі не эстэтычная, дык гісторыка-пазнавальная. Сказанае асабліва датычыць рознага роду слоўнікаў або ілюстрацыйнага матэрыялу для вучэбных дапаможнікаў. Звычайна складальнікі маюць справу з апошнімі варыянтамі твораў, забываючы пра тое, што т. зв. апошнія былі адрэдагаваны ў 30 — 50-я гады. Ахвотнікаў жа папраўляць, паляпшаць «ідэалагічна нясталых» паэтаў і празаікаў, мова якіх, маўляў, засмечана нацдэмаўскай лексікай, у тую эпоху знаходзілася багата. І пісьменнік нічога не мог зрабіць у сваю абарону: пра яго згоду ніхто не пытаўся, а пра нязгоду ён меў магчымасць пратэставаць моўчкі. Дык навошта нам замацоўваць кананізацыю кімсьці адрэдагаваных твораў? Ды і нават калі рэдагаванне ажыццёўлена, паводле своечасовай падказкі «клапатлівых» сяброў, самім пісьменнікам? Няхай жа рубрыка «Іншыя рэдакцыі і варыянты» хоць у пэўнай ступені выправіць сітуацыю, дасць у рукі чытачу і даследчыку сістэматызаваны матэрыял для роздуму над тым, ці была тут праява сапраўднай творчай волі ці творчага бязволля, вымушанай уступкі жорсткім патрабаванням ідэалогіі.

Хацелася б спыніцца на адным моманце ў структуры каментарыя — на звестках аб тым, у якія прыжыццёвыя выданні кожны верш, паэма, п’еса Я.Купалы ўваходзілі, на якія мовы і кім яны перакладаліся. Зноў жа: складальнікі не прэтэндуюць тут на першаадкрыццё, не прысвойваюць сабе чужых заслуг — прыведзеныя звесткі ўзяты з вядомых друкаваных крыніц, у тым ліку і з «Энцыклапедычнага даведніка». Тым не менш іх наяўнасць у каментарыі — не фармальная адзнака бібліяграфічнай паўнаты, а паказчык змястоўнага характару. Сказанае асабліва стасуецца да перакладу твораў: чытач мае магчымасць наглядна ўбачыць, якія творы Я.Купалы лічыліся найбольш прыдатнымі для папулярызацыі на мовах народаў свету, а якія перакладчыкі чамусьці абміналі. Возьмем, у прыватнасці, вершы, напісаныя Купалам у 1911 г. На адну мову перакладзена 6 вершаў, на дзве — 10, на тры — 6, на чатыры — 2, на пяць — 3, на шэсць — 2. Як бачым, разбежка досыць вялікая, і тут ёсць над чым паразважаць. Задача яшчэ болей ускладніцца, калі мы дадамо, што дзевяць вершаў з той жа датай 1911 г. (а іх усяго сорак шэсць) ні разу не перакладаліся, у той жа час асобныя вершы перакладзены на восем моў («Песня мая», «Над ракою ў спакою»), на дзевяць («Жняя»»), на адзінаццаць («Як у лесе зацвіталі...»), на дванаццаць («Дзве таполі») і нават на пятнаццаць («Ты прыйдзі...»).

Напэўна, гэты аспект — разгляд вершаў у сувязі з тым, як ставіліся да іх перакладчыкі розных краін свету — яшчэ не закранаўся беларускім

ред розделеньем нашим звыкли в болоте Гале сено завжды косит, прото и тепер подданые мои в том болоте Гале ведле обычаю давного сено косити завжды мают. Чого его милость князь Михайло, дети и потомки его милости, врядник и подданые его милости подданым моим забороняти вечными часы не мають. Так же теж и противко инших подданых моих его милость князь, брат мой, дети и потомки его милости, врядник и подданые его милости заховыватися вечными часы мают.

А я теж сам, дети и потомки мои, врядник и подданые мои противку его милости князю Михайлу, брату своему, детем и потомком его милости, вряднику и подданым его милости тым же обычаем заховатися маю и подданые мои повинни будуть.

Которое сее нашо добровольное и братерское постановене и тот дел наш я сам, дети и потомки мои вечьными часы, ничим сего листу моего и всих артыкулов, в нем описаных, (л. 21) // не нарушиваючи, держати мают. А естли бых я сам, дети и потомки мои в чом-колвек сес дел наш и сес лист мой нарушити и противко его выступити мел, тогды мает заплатити заруки господарю королю его милости тисечу коп грошей, а стороне противной — другую тисечу коп грошей. А заплативши тые заруки, предся сес лист мой при моцы своей в кождого права захован, принят и вечне держан быти мает.

И на то далом его милости князю Михайлу Вишневецскому, старосте черкаскому и каневскому, брату моему, сес мой лист з моею печатю и подписанем власное руки моее.

А при том были и того добре ведомы их милости велможные панове его милость пан Павел Сопега, кашталян киевский, староста любечский и перевалский, князь Владыслав Збаражский, справца воеводства Киевского, державца ботоцский, пан Каспер Стужинский, войский киевский, пан Есиф Немирич, судья земли Киевское, пан Щасный Харлиньский, хоружий киевский, пан Богухвал Павша, писар земли Киевское, а пан Дмитрь Елец. Которые их милость панове за прозбою моею печати свои до сего листу моего приложити рачили.

Писан у Брягини.

Лета Божя нароженя тисеча пятьсоть семдесят четвертого, месяца марта, пятогонадцатого дня.

(8 оттисков печатей)

Alexander Wisniewiecskij

własną ręką (Л. 21об.)

*Национальный исторический архив Беларуси. Ф. 694. Оп. 7. Е. х. 871. Л. 17—21 об. Оригинал. Правописание адаптировано. Публикуется впервые.*

[1] Необходимо отметить то, что наряду с названием «Брягин» в «русских» источниках ВКЛ XVI в. обычной является и форма «Брагин». *См.*, напр.: Российский государственный архив древних актов. Ф. 389 (Метрика ВКЛ). Оп. 1. Е. х. 9. Л. 235—236; Е. х. 38. Л. 223 об.—224;

Русская историческая библиотека (РИБ). Т. 30: Литовская метрика. Отд. 1—2. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. I. Юрьев, 1914. С. 892—893; Т. 33: Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1: Переписи войска литовского. Пг., 1915. С. 471.

[2] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca XIV w. Warszawa, 1895. S. 552—576.

[3] РИБ. Т. 33. С. 183, 471.

[4] Спиридонов М.Ф. Источники о реформе административно-территориального деления Великого княжества Литовского 1565 г. в зарубежных архивах // Замежная архіўная беларусіка. Матэр. міжнар. навук. канф. 25—26 красавіка 1996 г., Мінск. Мн., 1998. С. 77—80, 310—312.

[5] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого литовского статута: Исторические очерки. М., 1892. С. 239.

[6] РИБ. Т. 30. С. 892—894, 841—842.

[7] Halecki O. Przyłączenie Podlasia, Wołynia i Kijowszczyzny do Korony w roku 1569. Kraków, 1915. S. 174—216.

[8] Идентификация и локализация населенных пунктов имения Брягин проведена по: Специальная карта Европейской России. 1:420 000. Л. 30. Пг., 1915; Топографическая карта. 1:200 000. Л. N-35-XXXVI, N-36-XXXI, M-35-VI, M-36-1. М., 1977, 1986; Современные характеристики населенных пунктов даны в основном по: Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Мн., 1986; Республика Беларусь. 1:400 000. Мн., 1992. Необходимо отметить, что часть населенных пунктов ныне является нежилой, ибо была отселена в связи с аварией на Чернобыльской атомной электрической станции в 1986 г.

[9] О различных категориях крестьян *см.*: Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993. С. 57 и др.

***Публікацыя М.Ф.Спірыдонава***

# ДАКУМЕНТ МЕТРЫКІ ВКЛ ПА ГІСТОРЫІ СПРАВАВОДСТВА КАНЦЫЛЯРЫІ ВКЛ ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XVI ст.

Адна з галоўных праблем вывучэння справаводства канцылярыі ВКЛ першай паловы XVI ст. — гэта праблема крыніц. Справаводства канцылярыі гэтага перыяду даводзіцца вывучаць пераважна па ўскосных даных, што так ці інакш адлюстроўваецца на пераканаўчасці фармулюемых даследчыкамі высноў.

Публікуемы намі дакумент — адзіны за першую палову XVI ст., які дае дастаткова поўную карціну пра рух дакументаў па канцылярыі ў працэсе іх падрыхтоўкі. Ён знаходзіцца ў складзе кнігі Метрыкі ВКЛ 231. Па сваёй разнавіднасці — гэта рашэнне аб пераносе часу суда. Храналагічна яно датуецца 1542 г. лютага 25. Тапалагічна — не датаваны. Аднак, вядома, што ў лютым 1542 г. вялікі князь, які распарадзіўся ўнесці яго ў «кнігі» Метрыкі, знаходзіўся ў Вільні[1]. Справу, з нагоды якой было зроблена рашэнне, разбіралі вялікі князь і паны–рада. У якасці бакоў, якія вялі яе, выступаюць Ян Жукоўскі і берасцейскі жыд Аўрашка Міхелевіч. Сутнасць справы заключалася ў тым, што, паводле сцвярджэння Я.Жукоўскага Аўрашка Міхелевіч быў вінен яму 500 залатых і ў якасці доказу спасылаўся на «ліст» (распіску), напісаны па-лацінску і зацверджаны пячаткай «князства Великого Литовъского». Паколькі самога «ліста» для вынясення выраку аказалася недастаткова, вялікі князь загадаў узяць паказанні з Матыса, былога служэбніка гаспадарскага пісара Міхайлы Васілевіча Свінюшскага[2], які служыў у апошняга ў якасці дзяка (у запісе — лацінскі пісар) і «справовал» ліст. Гэта і было зроблена. Паказанні Матыса былі аспрэчаны М. В. Свінюшскім і таму справа была перанесена на іншы час, г. зн. на 10 красавіка. Менавіта паказанні Матыса і ўяўляюць прадмет нашай цікавасці. Згодна ім, М. В. Свінюшскі, «прызваўшы» яго да сабе, даў Матысу копію, напісаную на лацінскай мове, і распарадзіўся на падставе яе «лист по латыне написати». Падрыхтаваны «ліст» Матыс па загаду таго ж М. В. Свінюшскага перадаў дзяку Свінюшскага Бенядыкту, г. зн. Бенядыкту Васілевічу Пратасовічу[3], а той для апячатвання —Туру, г. зн. Марціну Туру, пісару канцлера Альбрэхта Марцінавіча Гаштольда[4], які і выдаў яго на рукі Я. Жукоўскага.

Такім чынам, паказанні Матыса змяшчаюць, апрача ўсяго астатняга, дадатковыя факты ўдзелу дзякаў (тут мы называем дзякамі не толькі гаспадарскіх дзякаў, якія ў крыніцах так і называліся — дзяк, але і асабістых канцлерскіх пісараў і пісарскіх дзякаў, якія працавалі ў канцылярыі) у падрыхтоўцы тэкстаў дакументаў[5], упершыню гавораць аб асобе пры канцылярыі, якая ажыццяўляла апячатванне зыходзячых дакументаў. З рашэння вынікае, што тэкст «ліста» рыхтаваў не сам гаспадарскі пісар М. В. Свінюшскі, а яго асабісты дзяк (пісар) Матыс. Далей ён паступаў да другога дзяка, Б. В. Пратасовіча (што характэрна таксама асабістага і таго ж М. В. Свінюшскага). Удзел Б. В. Пратасовіча ў руху «ліста» не зусім зразумелы. Магчыма, што ім ці пад яго кантролем дакумент перапісваўся на чыставік і ўпісваўся ў капійныя кнігі. М. Тур, як прыбліжаная да канцлера асоба, апячатвае «ліст» і выдае яго на рукі просьбітаў. Хоць паказанні Ма-

тыса і не былі прызнаны М. В. Свінюшскім, няма сумненняў у тым, што яны адлюстроўваюць агульную ходу руху дакумента па канцылярыі.

Тэкст дакумента падрыхтаваны да друку па мікрафільму, які захоўваецца ў НГАБ. Тэматытычна і граматычна закончаныя раздзелы дакумента вылучаюцца абзацам. Знакі прыпынку растаўляюцца згодна правілам пунктуацыі сучаснай беларускай мовы. Літары, якія выйшлі з ужытку, перадаюцца фанетычна адпаведнымі ім літарамі сучаснага алфавіта. Дыграф *кг*, таксама ъ як у сярэдзіне, так і ў канцы слова захоўваюцца. Зычны *и* (ёт) вылучаецца курсіўным *и*. Вынасныя надрадковыя літары ўстаўляюцца ў радок і перадаюцца курсівам. Прапушчаныя літары ў скарочаных пад цітлам словах аднаўляюцца з улікам асаблівасцей правапісу старабеларускай мовы і заключаюцца ў круглыя дужкі. *ь* і *ъ*, якія падразумяваюцца пасля вынасных, не ўзнаўляюцца. Літарнае абазначэнне лічбаў перадаецца арабскімі лічбамі. Відавочныя памылкі захоўваюцца ў тэксце, а правільныя напісанні адзначаюцца ў палеаграфічных заўвагах. Канец радка і старонкі не абазначаюцца.

*НГАБ. КМФ–18. Воп. 1. Спр. 231. Л. 202 адв.–203 адв. Копія.*

*1542 г. лютага 23. [Вільня / Вільнюс.] — Рашэнне аб пераносе суда па справе паміж Янам Жукоўскім і берасцейскім жыдом Аўрашкам Міхелевічам аб доўг Аўрашкі на 1542 г. сакавіка 10*

Справа Яна Жуко*в*ско*г*(о) зъ жидо*м* бересте*и*с-кимъ Аврашко*м* о дол*г*ъ пя*т*со*т* золоты*х*, кото-рие якобы ему то*т* жи*д* вине*н* бы*л*, до чого се о*н* не зна*л* и ро*к* на и*н*ши*и* ча*с* преложо*но*

Ле*т*(а) Бо*ж*(его) нарож(енья) 1542, м(есе)ца фе*в*(раля) 25 де*н*, инъди*к* 15.

Г(о)*с*(по)д(а)ръ король его м(и)л(о)*с*ть каза*л* записати.

Што пе*р*во сего прыточылася передъ его м(и)л(о)*ст* речь Яна Жуковъского зъ жыдомъ бересте*и*ски*м* Аврашкомъ Михелевичомъ о долгъ пя*т*со*т* золоты*х* [a-]пол*с*ки*х*[-a], которы*и* бы онъ очевисто передъ королемъ его м(и)л(о)*ст*ю у Кракове вызна*л*, ижъ ему оными золотыми виненъ оста*л*, на што жъ и ли*ст* короля его м(и)л(о)*сти*, по латыне писаны*и*, подъ печа*т*ю князства Великого Литовъско*го* поклада*л*. Ку которому листу и къ вызнанью оного долъгу Авра*ш*ко се не зна*л*, и якимъ обычаемъ онъ противъ того мовилъ, и какъ тежъ Жуковъски*и* именемъ брата своего о*т*по*р* тому чини*л*, и

[a-a] *нап. над радком*

яко о[-б] ведомо*ст* того листу на писара пана Миха*и*ла Васильевича ся зда*л*, и якъ на Матыса служебника его в томъ се сла*л*. И которымъ обычаемъ панъ Миха*и*ло поведи*л* то все шыре*и* а достаточне*и* на выписе суде*и*, о*т* королево*и* ее милости высажоныхъ, передъ которыми пе*р*ве*и* тая речь была е*ст* выписано. Где жъ на онъ часъ, кгды тые судьи судъ сво*и* королю его м(и)л(о)*с*ти о*т*казывали, тогды король его м(и)л(о)*ст* з выроку своего рачи*л* росказати Жуковъскому ставити того **Матыса, которого онъ мени*л* писаремъ латинъскимъ, которы*и* в то*т* часъ в пана Миха*и*ла служы*л* и которого онъ поведи*л*, жебы то*т* писа*р* оны*и* ли*ст* з росказанья пана Миха*и*лова справова*л*** (тут і далей вылучана намі. — *А. Г.*). На которое жъ постав*е*не оного писара Матыса рокъ ему о*т* короля его м(и)л(о)*с*ти бы*л* зложонъ, с которого жъ [в-]року[-в] алижъ на сесь день, у четверъгъ уступны*и*, тая речъ передъ его м(и)л(о)*ст*ю прышла, где оны*и* Жуковъски*и* того Матыса водълугъ выроку г(о)*с*(по)д(а)ръского передъ его м(и)л(о)*ст*ю постави*л*. Которы*и* передъ королемъ его м(и)л(о)*ст*ю ставъшы, поведи*л* тыми словы: **«И*ж* панъ Миха*и*ло на онъ часъ, коли есми ему служы*л*, мене к собе прызва*в*шы, и далъ ми копею, по латыне писаную, и каза*л* водълугъ тое копеи ли*ст* по латыне мне написати.** А в то*т* часъ былъ в него Аврашъко и Хемъя – в то*т* же есми часъ оны*х* жыдовъ и позна*л*, а передъ ты*м* жадъное знаемости з ними есми не ме*л*. **И я то*т* ли*ст* водълугъ оное копеи написавъшы, копею ему засе о*т*да*л*, а то*т* ли*ст*, што я писалъ, каза*л* ми онъ дъяку своему Бенедыкту о*т*дати, и я ему то*т* ли*ст* о*т*далъ. А такъ онъ то*т* ли*ст* дава*л* печатовати, и до Тура он то*и* ли*ст* [г-]о*т*дано[-г]. И в Тура то*т* ли*ст* Жуковъски*и* взя*л*.** Панъ Миха*и*ло, писа*р*, противку того передъ королемъ его м(и)л(о)*ст*ю поведи*л*, ижъ: «Я оному Матысу яко оного листу писати не каза*л* и копеи, яко онъ менуе*т*, ему не дава*л*, и жыдовъ есми в себе не вида*л*, и вызнанья и*х* в то*и* речи не слыха*л*, такъ тежъ и дъяку своему Бенедыкту оного листу о*т* него бра*т* не велелъ, ани пакъ его онъ бра*л*, и не маетъ онъ до того ничого».

[д-]А такъ, король а такъ, король[-д] его м(и)л(о)*ст* ты*х* рече*и* вы*с*лухавъшы, и с паны-радами своими в томъ намовивъшы, и, розумеючи тому, ижъ то су*т* речи великие а [е-]по[-е]важъные, в чомъ се канъцляреи его королевские м(и)л(о)*с*ти дотыче*т* – яко то*т* Маты*с* поведи*л*, ижъ то*т* ли*ст* панъ Миха*и*ло справова*т* ему каза*л* – и, не хотя*чи* его м(и)л(о)*с*ть квапне в то*и* речы поступова*т*, рачы*л* его м(и)л(о)*ст* з выроку свое*го* росказа*т* тому самому Жуковъскому, которого с ты*м* жыдо*м* речь е*ст*, здесе прыехати, чому жъ и рокъ рачы*л* его м(и)л(о)*ст* зложыти по семъ св(я)те прышломъ по Велице

---

[-б] *нап. над радком*
[в-в] *нап. над радком інш. поч.*
[г-г] *так у ркп., трэба чытаць* отдал
[д-д] *так у ркп.*
[е-е] *нап. над радком*

дъни на Проводънои недели, в понеделокъ, на которыи часъ и рокъ, от его м(и)л(о)сти зложоныи, маеть самъ Жуковъскии передъ королем его м(и)л(о)стю стати и то поведити, которымъ обычаемъ тот лист к рукамъ его прышол и хто ему его дал. А его м(и)л(о)ст хочет достаточне того се доведати и вырокъ свои г(оспо)д(а)ръскии на то вчинит. А до того ч(а)су и року зложеного предъ се мает княз бискупъ луцъкии того Матыса на своихъ рукахъ яко служебника своего мети, до которого ч(а)су не мает его нигде спускати, але на тотъ рокъ маеть его поставити.

[1] *Гл.* тапалагічныя даты за гэты час дакументаў кнігі Метрыкі 24 (НГАБ. КМФ–18 (далей — Метрыка). Воп. 1 Спр. 24. Л. 185, 190, 191, 191 адв., 192, 192 адв., 193 адв., 195, 196 адв., 198, 198 адв., 199, 200, 201).

[2] *М. В. Свінюшскі* — пісар гаспадарскі 1511–1545, дзяржаўца медніцкі 1531–1538, стоклішскі 1534, крэўскі 1537–1538, кармялаўскі і стоклішскі 1538–1539, упіцкі 1539–1540, ваўкавыйскі 1543 г. Памёр да 1545 VI 15 (Urzednicy centralni i dostojnicy Wielkiego księnstwa Litewskiego XIV - XVIII wieku. Spisy (далей — UCWKL) / Oprac. Lulewicz H., Rachuba A. Kórnik, 1994. P. 126).

[3] *Б. В. Пратасовіч* — дзяк («пісар лацінскі») М. В. Свінюшскага. Будучы дзякам М. В. Свінюшскага, «справовал» запісы кнігі Метрыкі 231 за кастрычнік 1540 — студзень 1541 г. (Метрыка. Спр. 231. Л. 22–30) 1546 г. кастрычніка 29, г. зн. пасля смерці М. В. Свінюшскага. Б В. Пратасовіч — дзяк гаспадарскі. 1546 г. лістапада 23 абазначаны без пасады, аднак заставаўся пры канцылярыі і выконваў даручэнні гаспадарскага пісара Валерыяна Пратасавіча Сушкоўскага (Метрыка. Спр. 29. Л. 94 адв.) З 1550 г. Пратасовіч вядомы як ключнік, падключчы троцкі і войскі гародзенскі (UCWKL. S. 128).

[4] *М. Тур* — пісар канцлера А. М. Гаштольда. У 1543 г. вядомы як гаспадарскі сакратар (Archiwum książat Sanguszków w Slawucie / Wydanne przez B. Gorczaka. T. 4: 1535 - 1547 (далей — AS. T. 4 ). Lwów. 1890. S. 342–343 ).

[5] Метрыка. Спр. 19. Л. 211 адв.; апубл.: AS. T. 4. S. 40–41; Метрыка. Спр. 31. Л. XXXI.

***Публікацыя А. І. Грушы***

## ЛЯ ВЫТОКАЎ ПАЎСТАННЯ 1794 ГОДА

24 красавіка 1794 г. расійская імператрыца Кацярына ІІ загадала стварыць у Смаленску следчую камісію, якая мелася высветліць паходжанне і ўдзельнікаў паўстання 1794 г. на чале з Тадэвушам Касцюшкам на

тэрыторыі Кароны і Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ). Праз яе канвеер прайшло каля 100 асоб, што дазваляе скарэкціраваць гістарыяграфічныя ўяўленні аб складзе і мэтах паўстання[1].

Найперш, шэраг допытаў паднаглядных не звязвае паходжанне змоўніцкага спісу з актыўнасцю славутага ўжо інжынернага палкоўніка Якуба Ясінскага, хоць адзін з дапытаных — абат аўруцкага манастыра Юзаф Ахоцкі — вылучае ў згуртаванні першых спіскоўцаў маральна-тэалагічны твор пад назвай «Брамін», які прыпісвае Я.Ясінскаму. Сутнасць і змест гэтага твора ўжо раскрыты ў літаратуры[2]. Супадаюць з гістарыяграфічнай традыцыяй і сведчанні Ю.Ахоцкага, шамбеляна Тадэвуша Паўшы, житомірскага падкаморнага Тадэвуша Нямерыча аб вузкасці кола змоўшчыкаў (Я.Ясінскі, князь Казімір Сапега, эксмаршал надворны ВКЛ Станіслаў Солтан, віленскі прэлат Ксаверы Міхал Богуш, вялікалітоўскі абозны Кароль Празор і інш.)[3]. Маюцца і іншыя абставіны, што дазваляюць давяраць сведчанням смаленскіх арыштантаў, шэраг з якіх змяшчаецца ніжэй.

Некаторыя з іх адзначаюць мабілізуючую ролю самога Т.Касцюшкі ўжо ў снежні 1793 г. шляхам рассылкі агітацыйных лістоў да сваіх мясцовых паплечнікаў. Гэты момант істотны з улікам папрокаў яго ў стрыманасці і проціпастаўленні яму рашучасці К.Празора разам з Я.Ясінскім[4]. Да прыкладу, літоўскі стражнік, мазырскі падстолі Ян Аскерка гаворыць, што ўжо ў лістападзе 1793 г. у Мазырскім павеце з'явіўся універсал Т.Касцюшкі з заклікам да ўзброенага згуртавання і што менавіта К.Празор праяўляў пры гэтым залішнюю скрытнасць і спадзяванні на канспірацыю. Практычна ўсе дапытаныя вылучаюць К.Празора ў якасці галоўнага каардынатара і арганізатара канспіратыўнай сеткі ў ВКЛ і ў памежных валынска-кіеўскіх ваяводствах. Ягонымі сувязнымі называюцца найчасцей ад'ютант і сакратар Амількар Касінскі і житомірскі земскі суддзя Антон Вячфінскі.

Прыведзеныя дакументы паказваюць, што ініцыятары паўстанцкай змовы не абмяжоўваліся, як гэта прынята лічыць, надзеяй на адну рэвалюцыйную Францыю, што яны планавалі адначасовае і сумеснае выступленне ў Польшчы, Маларосіі і Беларусі, што рухавіком паўстання яны адразу ж абралі войска, вакол якога мелася згуртаваць цывільныя колы шляхам складкі грошай і падпіскі надзейных членаў. Пэўнае месца сярод такіх асяродкаў павінна была заняць Пінская брыгада, якая дыслакавалася пад Жытомірам. К.Празору адводзілася месца галоўнага водцы ўзброенымі сіламі ў ВКЛ і на акупіраваных Расіяй тэрыторыях, хоць Т.Паўша адзначае, што яго меркавалася паставіць усяго толькі намеснікам калішскага ваяводы Ігната Дзялынскага ў гэтай якасці. Цікава і тое, што сфарміраваныя

пастарункі ў выглядзе дыверсійных атрадаў прадбачылася паслаць калонамі на адваёву захопленых зямель. Верагодна, што дыверсійнымі рэйдамі спадзяваліся ўзбудзіць паўстанне на анексаваных тэрыторыях без планамернай яго падрыхтоўкі там. Пры ўсіх нязгодах паміж сабой адносна спосабаў згуртавання, першыя спіскоўцы сваімі мэтамі ставілі вярнуць страчаныя пасля падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыі, узнавіць канстытуцыю 3 мая 1791 г. і склікаць перапынены інтэрвенцыяй 1792 г. сейм 1788–1792 гг. для працягу сацыяльных рэформ.

Змешчаныя ніжэй сведчанні ясна вылучаюць тры моманты ў падрыхтоўцы паўстання 1794 г. У любым выпадку яно не планавалася на шляху непасрэднага запазычання французскага радыкалізму з яго крывавымі сцэнамі. У асяроддзі першых змоўшчыкаў з самага пачатку існавалі супярэчнасці паміж прыхільнікамі канспіратыўнага спісу і больш шырокага сацыяльнага саюзу. Нарэшце, безумоўным лідэрам паўстання ў ВКЛ прадбачыўся К.Празор, з чаго вынікае, што Я.Ясінскі трапіць у кіраўнікі толькі пры пэўных акалічнасцях.

Усе дакументы змяшчаюцца ў адпаведнасці з арфаграфіяй таго часу пры скарачэнні тых месц, якія не ўяўляюць цікавасці для вызначэння абставін падрыхтоўкі паўстання 1794 г. у ВКЛ.

### № 1
### Са сведчанняў абата аўруцкага манастыра Юзафа Ахоцкага аб планаванні супольнага паўстання ў Кароне і Літве

*(5 кастрычніка 1794 г.)*

...в декабре еще месяце прошлаго года показывал Вечфинской, которой был ему приятель и уже умер, письмо полученное от Костюшки такого содержания: «Редкий гражданин! Я знаю приверженность твою к Отечеству. Можно еще возстановить оное, ежели соединимся все. Ожидаю ответа. Тадеуш Костюшко». Сие письмо Вечфинской получил от Прозора, обознаго литовскаго, которой и в новоприобретенных областях российских имеет деревни, и склонял его неоднократно, как своего приятеля, чтоб взялся произвести в дело подписки о денежной складке и вооружении обывателей, а после давал ему и манифест, в Польше составленной, без числа будто и без подписания, содержащей в себе возражение на забрание края в противность тарговицкой и гродненской конфедераций, чтоб объявить оной между жителями. Но он будто ни на то, ни на другое, ни тогда, ни после не согласился...

...По смерти же Вечфинскаго, чему надлежало случится в марте, будучи в монастырской деревне Шепелицах, получил он на имя Вечфинскаго пакет, в котором нашел четыре письма, надписанные генерал-майором окружному

и линейных войск, и, распечатав одно, читал в нем следующее: «Теперь провидение представляет нам благоприятный случай возстановить наше Отечество. Соединяйтесь, достойные соотечественники, приведя себя на память наших предков. Я буду предводительствовать вами и не пощажу ничего, ни трудов, ни собственной моей жизни. Т.Костюшко». На сии письма, не делая из них сам никакого употребления, отдал он Бернацкому будто с тем, чтоб он их сжег. Против чего Бернацкой на очной ставке уличал Охоцкаго, что, может быть, и сказал он, что лучше сжечь, но промолвил при том — делай с ними, что хочешь. Однако, думает Охоцкой, что Прозор и Вечфинской, ежели бы сей не умер, были теми начальниками, коих именовал Костюшко...

...Прозор и Вечфинской, действуя совокупно, употребляли еще Косинскаго ради склонения как панов, так и новоподдавшихся России польских войск в свое единомыслие и для того сперва сам Вечфинской, которой ревностно старался о конфедерации, когда жив был, а потом Косинской ездили в Украйну и, как слышал от Косинскаго, имели успех в склонении на свою сторону новоподдавшихся бывших польских войск. С помощию их открылась бы конфедерация в кордоне российском, ежели бы Костюшко не ускорил вызывом своим оных за границу, а потом не приняты были меры оставшихся за побегом от пределов внутрь земли, отчего самаго и обыватели остались спокойными.

Косинской показывал ему сочинение печатное под имянем Брамина, в коем описывалась братская связь индейцев и способ узнавать сообщника своего, показывая червонец и сжимая его между двумя пальцами. И тут же упоминалось, чтоб каждой прозелит или вновь обратившийся подговорил к себе верных и искренних по крайней мере четырех человек и убивал того, которой бы вздумал изменить. Во оном же сочинении содержалось и о цыфрах, чтоб каждой мятежник присвоил себе какую-нибудь одну, дабы по оной знать его можно, а в переписках между собою уговорено было, как он слыхал от Вечфинскаго, употреблять слова: вместо войск — документы, вместо обывателей — свидетели, в кондесенции (срод суда польскаго), вместо пуль горох, вместо пороху крупа, вместо пушек карцы (мера польская). А в дополнительных показаниях своих придал еще и сие, что в Литках спрашивал его Косинской — имеет ли он, Охоцкой, браминово сочинение? И когда ответствовал, что оное сжег, то говорил ему — неужели вы хотите нам изменить и ежели так, то вы опасны в своей жизни. Причем разсказал о случившемся в Литве произшествии, что одного хотели убить и что он спас себя только учиненною вторичною пред евангелием клятвою. И Охоцкой будто потому переписал большую часть Брамина, котораго притом Косинской толковал порутчику Копецу.

Косинской сказывал ему еще в исходе генваря, что Прозор, с коим Охоцкой так же, как и с Вечфинским, жил дружно, поехал в Дрезден к Костюшке для условия конфедерации. Потом, когда возвратился Косинской от Дзялинскаго, то объявил, что видел у Дзялинскаго таблицу символическую

для употребления слов иносказательно, что в пользу конфедерации польской дадут французы помощь, что России объявлена война от турок и шведов, что конфедерациею управлять будут именитые люди, что между тем носились уже в народе слухи о Костюшке, коего считали быть в немецкой земле, либо в Риме или же в Саксонии, также и о войне России с турками и шведами, а притом происходил и ропот о том, что обыватели, будучи подвержены голоду, долженствовали давать содержание российским войскам.

Сверх того признался, что дважды пересылал письма между Вечфинским и Прозором, что ведал о конфедерации, но не донес их сожаления о своих земляках и их опасности, чтоб не был убит по содержанию положеннаго в сочинении Брамина условия и потому, что Вечфинской уже умер, что Косинскаго представлял Богушу, старосте любецкому, дополнения после, что при сем случае Косинской назывался секретарем коронного казначейства и что Богуш, охраняя себя и иных в том, что знал о возмущении, говорил ему, Охоцкому, чтоб ни о ком не сказывал и о поезде Косинского в Украйну писал Прозору, что одинажды сам подписался к нему вместо подлинного имяни Аллегро, что получил из Варшавы в феврале месяце газеты и со оными письмо Прозорово, где вместо его имени подписано было «Агафья» такого содержания: будто король выехать хочет из Варшавы, только его не выпускают, будто войски российские хотят завладеть арсеналом, а польския будут распущены, только оныя не допустят себя обезоружить и будто многие обыватели взяты под караул, что письмо сие, вместе с газетами, показывал он и обывателям, но что прочих прозоровых писем, которые получал от Прозора, Вечфинскаго и Костюшко, не объявлял никому и все оные тотчас жег, кроме отданных Бернацкому. Так же к подпискам о выборе между обывателями начальника, о вооружении их и о зборе денежном не приступал, сколько о том ни просили и не убеждали его Прозор, Вечфинской. А по смерти последняго Косинской, которой, как после в дополнительных своих показаниях Охоцкой объявил, убеждал его и так: что виленской прелат Богуш более 10 000 собрал, а вы не хочете делать складку, и в том шлется на всех обывателей Овручскаго повета.

...что в письме Косинского, чрез Бернацкого доставленном, чернилами писано о приискании ему какого ни есть в повете владения, а молоком, что с трудностию мог разобрать, писано, чтоб он приложил старания о складке и что Мадалинский зделал конфедерацию и имеет слишком десять тысяч войска, что Костюшкины письма отдал он Бернацкому и приказал сжечь, сказав о чем ему самому, брату его, а потом напомянув и не знавшему о сих письмах шембеляну Павше, чтоб были сожжены, обязав его, последнего, при выезде своем в Несвиж просьбою, дабы нарочно побывал у Бернацкаго и ежели еще те письма не сожжены, чтоб непременно сжег.

Что при отдаче ему Оскиркою писем из Литвы от Костюшки и от Прозора оставил Оскирка у себя одно и, списав с наставлениями копию, прочия отдал ему. А когда спрашивал у Оскирки, что со оными делать, ибо Вечфин-

ской умер, то сей отвечал: что угодно и отдайте кому угодно. Итак, из копий списал он, Охоцкой, якобы одну кратчайшую, в которой, сколько может припомнить, было сказано, чтоб рапортовать сколько польскаго войска, сколько российскаго и сколько амуниции, а о месте, куда рапортовать, после дано будет знать. На революцию же обещано 12 000 червонцев, но неизвестно откуда. И после того Охоцкой, будучи в нетрезвом состоянии, как в дополнительных своих показаниях объявил, послал копию с одного письма Костюшкина без инструкции и ради однаго только любопытства в Чернобыль к приору доминиканскому Силичу, которой бывал у него в деревне Шепелицах.

О шембеляне Тадеуше Павше объявляет, что не уговаривал его к принятию ни тайны о конфедерации, ни письма Костюшкина ни чин поветоваго генерала майора, но что сей Павша не мог не знать о конфедерации от Вечфинскаго, у котораго часто бывал и с ним переписывался... первое же его письмо одинакого содержания Прозором получено, ибо от него из Хойник был неожидаемо краткой ответ извещающий Охоцкого, что до него дошло уведомление о Дзялинском, о смерти Вечфинскаго и о выступлении бригады (Мадалинского. — *Я.А.*)...

*РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869, частка I. Л. 30–32 адв.*

## № 2
## З допыту жытомірскага земскага рэгента Міхала Бернацкага аб дзеяннях Караля Празора на Літве пры падрыхтоўцы паўстання

*(5 кастрычніка 1794 г.)*

...что познакомившись с Косинским 25-го марта в Лесовщизне в бытность обоих их у владельцов сего места Павшей, поехал с ним вместе в Варшаву. И тут Косинской сказывал ему, что, будучи употреблен Прозором яко участвующий в польской революции, был он в Украйне у некоторых польских войск, также у Дзялинскаго в Бердичеве и в Радомысле, у подсендковича Вечфинскаго, котораго, нашед умершим, забрал все письма и разные бумаги, Прозором ему писанные, относительно революции. На пути своем к Варшаве обедали они в Овруче у аббата Охоцкаго, которой и он, Бернацкой, просили исправника Охоцкаго о даче ему, Бернацкому, до Варшавы, а Косинскому до Сигневич, деревни состоящей в Литве или города Бресца литовскаго, пашпортов. Почему Охоцкой, таковые пашпорта им написав, подписал и со оными, по засвидетельствовании их находящимся в Овруче майором Лагерсвердом, выехал он вместе с Косинским в Сегневичи, где нашли накануне их прибытия приехавшего Прозора.

Прозор сказывал им, что прибыл из Дрездена или другаго места, обстоятельно не упомнит, что революция начало свое возимела 18-го марта в Кракове, что оная долженствовала иметь вспомоществование от Дании, Швеции, Турции и Франции. Причем Прозор просил его усильнейше, чтоб он как можно скорее возвратился к аббату Охоцкому и, естли найдет там камердинера его, отправленнаго к Вечфинскому, с письмами, то оныя, взяв у Охоцкаго, ежели сей сам не отправил, доставил бы найскорее житомирскому стольнику Гурковскому, у коего Косинской был в доме и коротко ему знаком для того, что он употребит их лучше.

Бернацкой, удовлетворяя просьбе Прозора, возвратился в Овруч и получал от Охоцкаго пять писем Костюшки без надписей, план краковской конфедерации, по которому во всех воеводствах и поветах надлежало произвесть возмущение, и инструкции долженствовавшим быть в воеводствах и поветах генерал-майорам, в которых, между прочим, как после Бернацкой дополнил, содержалось и сие: дабы поветовые генералы приискивали людей к высылке в Малую и Белую Россию для возмущения прежде присоединенных к России жителей, приехал в деревню Молчанову в Браславской губернии состоящую, 18 апреля и отдал оные Гурковскому...

...в бытность Бернацкаго в доме у Прозора сей показывал ему целой лист, исписанный разными фамилиями тех, коим надлежало участвовать в возмущении, но он ни прочитать, ни хорошо его увидеть не успел. Во время же пути его с Косинским, быв у старосты любецкаго Богуша, получил от него, Бернацкой, девятнатцать червоных под видом покупок в Варшаве, но оные должны были обще им с Косинским принадлежать на дорожные расходы для доставления из Сегневич или из Варшавы известия о произшествиях польской революции. Из взятых на дорогу денег от старосты Богуша девятнатцати, отщетна Павши дватцати, от подкоморжаго Тадеуша Немиржича дватцати девяти, а всего шестидесяти осьми червоных, в Сегневичах дано им Косинскому пятнатцать червонцов, потому что от аббата Охоцкаго получил он сам тритцать червонцов.

*РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869, частка I. Л. 37–39 адв.*

## № 3
## З допыту літоўскага стражніка Яна Аскеркі аб верагодных кіраўніках і іх планах паўстання ў Літве

*(12 кастрычніка 1794 г.)*

...хотя Прозор по знакомству с ним был у него в декабре месяце 1793 года и, обращаясь всегда в Варшаве и в Вильне, имел случай осведомляться о таинственных действиях от тех, которые помышляли произвесть в Польше конфедерацию под начальством Костюшки, однако ж каким образом долженствовало совершится сие предприятие содержал втайне с крайнею твер-

достию. Вечфинской же, сам ли собою или чрез Прозора обязан был уговорить войски, за кордоном находившияся. Было одно только предположение, а был ли в том успех он, Оскирка, не знает, ибо они секретно между собою о том сносились, не имея веры к тем, которые не соглашались на предприятое ими. Однако в ту пору успех еще был сомнителен, потому что Вечфинской заболел и Радомысле умер, а Прозор, не ведая о смерти Вечфинскаго, плыл лодкою по реке Припяти в свою деревню Хойники. Уведомившись же, что Вечфинскаго уже нет в живых и опасаясь, чтоб не быть пойману российскими войсками, из дому уехал. Причины же укрывательства Прозорова и его предприятий, с кем он, какия имел сношении и был в единомыслии, он, Оскирка, не знает, ибо с ним по прибытии в Хойники не виделся, а вышеизъясненное слышал от Прозора.

...а другое письмо шляхтича Леоновича, уведомляющее его, Оскирку, что в Слуцком повете готово посполитое рушение и третие, писанное от 22-го февраля поверенным ево Кмитою, что многие говорят — уповаем на провидение, означали желание, что бог возстановит опять Отечество и что для того делается посполитое рушение. Слова же о моровой язве, в сем последнем выраженные, знаменовали то, что Россия в предупреждение войны от турок и шведов занимает границы своими войсками. Сверх того, при случае найденной у него речи к обывателям, говоренной им во время бытности его послом от Мозырского повета и конституции 3-го мая, повинился, что Прозор писал к нему, Оскирке, что в Польше произойдет революция и что прошлаго 1793-го года в ноябре месяце ходил по рукам в Мозырском повете письменной Костюшкин универсал, чтоб совокуплялись обыватели для возстановления Отечества и сей универсал получил он, Оскирка, от Прозора чрез почту, а хорунжей стародубовской Ельский писал к нему, Оскирке, о той конфедерации, которую производил Костюшка в Краковском воеводстве и во оной сам Ельской принимал участие.

*РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869, частка I. Л. 64 адв.–65.*

## № 4
## Урывак з аўруцкага падкаморага Тадэвуша Нямерыча аб планах змоўшчыкаў

*(12 кастрычніка 1794 г.)*

...Косинской, будучи у него, говорил, что Костюшко, Малаховской, Колонтай и Чарторижской уже находятся в Кракове и будут в Варшаве, а в Вильне Прозор, Дзялинской, Еленской, Солтан и Богуш на страсной неделе разпространят революцию во всех местах и когда усилятся обыватели, то оттуда отправятся в Люблин, в Волынь, в Луцк, в Киевское воеводство, в Житомир, Овруч и Мозырь, а обывателям надлежало быть в готовности, что в российском кордоне долженствовали распостранить революцию Дзялинской и Велевейской, что бригады пошли за границу Пинская, Лазинскаго и Куб-

лицкаго и пробились чрез российския войски в польской кордон и что Лазинской, взяв у графа денег на заплату бригаде и обмундирование, оной с ними и войском ушел за границу... Мятежниками же были приняты такия меры, что из котораго города выступило бы российское войско, то обыватели поспешно долженствовали туда прибыв, распространить конфедерацию и избрать начальников. И тайна о сем столь крепко хранилась, что ежели бы и рубашка узнала, то и оную надлежало бы сбросить.

*РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869, частка I. Л. 66–66 адв.*

## № 5
## Сведчанні шамбеляна Тадэвуша Паўшы аб мэтах кіраўнікоў паўстання

*(12 кастрычніка 1794 г.)*

...ему, Павше, Косинской открыл важность дела о революции, взяв с него клятву, чтоб никому того не объявлял под страхом смертным и показав при том мятежное сочинение имянованное Брамин и записку, писанную Костюшкою к Прозору следующаго содержания: «Добродетельные граждане. Соединяйтесь с чувствами честных людей, ибо теперь предстоит случай возстановить Отечество. Костюшко». Что потом Косинской поехал с ним, Павшею, к Вечфинскому, от него — к Хорошевскому и говорил тут при Пентковском по предложению Косинскаго о складках денежных на подмогу войскам. От Хоржевскаго поехал Косинской с Пентковским к Гурковскому, дабы сей с помощию трех своих братьев, находившихся в военной службе, разгласил в войсках, что 15 марта будут от них отбирать оружие, но чтоб они не отдавали онаго и бежали б за границу, что по возврате от Дзялинскаго Косинской сказывал об нем, что примет над войсками команду вместе с Прозором, что умершей Вечфинской по желанию Прозора ездил для склонения жителей в свой заговор по всему Киевскому воеводству, но кого вовлек в соучастие своего предприятия, о том Павша от него не слыхал. Только известно ему сие, что все те, которые соглашались, должны были дать клятву, что умершей Вечфинской сказывал ему, Павше, что он соглашал к конфедерации из своих знакомых Пинской бригады поручика Копеца, хорунжаго Колбу, житомирскаго судью Дубровскаго, Христофора Чайковскаго, генерала Ерлича, Бержанскаго, подкоморжаго житомирскаго, и Гурковскаго, которого просил при том, чтоб склонял других. Что от него и от Косинскаго слышал он еще о намерении польских мятежников произвесть возмущение не только в новоприсоединенном крае, но в Белоруссии, Малороссии и во всей России...

...после торговицкой конфедерации, когда многие из поляков ушли в Дрезден, начали они там старатся о постановлении плана для всеобщей революции. Князь Адам Чарторижской, Малаховской, бывшей маршалок сей-

ма 1790 года, стольник коронный князь Чарторижской, который был во время сего сейма посланником у прускаго двора, князь Казимир Сапега, бывшей маршалок литовской, генерал Зайончик, Костюшка, Колонтай, Станислав Потоцкой, Солтык, вся фамилия Чарторижских и Малаховских, Ельский и Лядуховской были из первейших в сей работе. А потом пристал к ним и Феликс Потоцкой, бывшей маршалок торговицкой конфедерации и дал на вспоможение наличными деньгами пять миллионов злотых, да еще кредитов для получения из голландскаго банка дватцати миллионов. План сей революции состоял в том, чтоб возмущение произвесть вдруг в Кракове, Варшаве, Вильне и в российском кордоне, дабы возстановить конституцию 3 мая и возвратить назад присоединенныя к России и Пруссии провинции. Дрезденской двор содействовал тому сильно, ибо имел намерение саксонскую инфантину браком сочетать римскаго императора с братом, котораго желали учинить польским королем, дабы революции сей сделать постороннее подкрепление. Те польские выходцы, пребывавшие в Дрездене, искали союза в Швеции, Дании, Турции и во Франции и того ради в Стокгольм ездил князь Адам Чарторижской под чужим имянем, которой был и в Лондоне. После же того посылан был туда и другой некта, но его имени не помнит. В Константинополь с начала торговицкой конфедерации поехал молодой человек имянем Аксак, но, по словам Косинскаго, и туда надлежало послать нарочнаго. Во Францию посылали они Барса, Колонтая и Вейсенгофа и от оной при начале революции надлежало получить на вспоможение осмнатцать миллионов ливров, с которыми присланы будут оттуда два комиссара.

Кто был в Дании о том не слыхал, но о императоре князь Чарторижской отзывался, что то способствует их намерению и для того попустит пятнаццати тысячам венгров совокупиться с поляками и на случай, буде российской двор о том спросит, имел предлогом ответствовать, что они взбунтовавшись и он не имеет способов их усмирить. От турок, шведов и датчан надеялись иметь помощь, и первые хотели объявить России войну тогда, когда в Польше откроется возмущение. А шведы обещали помогать военными снарядами, доставляя их в Польшу чрез Курляндию. Для разпространения сего возмущения в Варшаве учрежден был клуб, в котором были сильнейшими два брата Дзялинских, Лядуховской, Мокрановской и Капустас и от котораго посыланы были нарочные в Париж, в Константинополь и в Стокгольм. А в Россию для возмущения закардованнаго края — Дзялинской и Прозор.

И сей то самой клуб производил все сношения как вне, так и внутри Польши. Об нем нельзя было не знать барону Игельстрому, потому что был у него под стражею приехавший из Парижа Мостовской, у коего найдены якубинская шапка и пика. По предложению сих мятежников надлежало Костюшке разбить соединенныя войски и тогда в Кракове созвать сейм Малаховскому, Чарторижскому, Сапеге, Колонтаю и одним словом собраться тут всем тем, которые в Дрездене составляли план. Потом Костюшке должно

было действовать противу союзных войск, а сейму перейти в Варшаву. И тогда Костюшка, сложа полновластие, зависеть уже от онаго. Дзялинскому ж со своим полком арестовать короля. Но как он опасаясь, чтоб там не взяли его прежде исполнения сего по примеру других под стражу, уехал в кордон российской для произведения во оном возмущения, то относящееся до короля должен был произвести в действо полковник полку Дзялинскаго Гауман. Чтоб армии Костюшкиной иметь на первый случай пропитание, то император под видом продовольствия своих нидерландских войск приказал заготовить во всей Галиции и выставить на Вислу сто тысяч четвертей разнаго хлеба, которой Костюшко взял вооруженною рукою и дал о том квитанцию, о чем было к нему письмо из Львова под имянем онаго Павши, но не знает от кого. И в сем письме содержалось еще уведомление, что поляки в Галиции берут рекрут будто насильно, но император в том им не препятствует.

Для открытия возмущения в кордоне российском надеялся Косинской на Велевейскаго, Петровскаго, Лазинскаго и Карвицкаго, к которым Костюшка с повелениями своими посылал особо от себя офицера.

Косинской сказывал Павше, что Брамин, котораго он показывал, сочинен был Ясинским, полковником инженерным в Вильне, где он, крайчиц Сапега, Солтан, Вовржицкий и прелат Богуш долженствовали открыть возмущение, что молодому Косинскому надлежало быть генералом при мятежных польских войсках в Кракове, что знатнейшие из поляков для условия о возмущении съезжались на контракты во Львов, также и в Дрезден путешествовали под чужими имянами, что Костюшко, бывши прежде открытия революции в Кракове, ездил в Сицилию для свидания с Малаховским, которой тогда находился в Неаполе, что все секретные бумаги находились у Лядуховскаго и Капустаса, но прежде объявления настоящаго плана повещено было войскам, дабы они находились в готовности к конфедерации и ежели будут требовать оружия, то не слагали бы онаго, отчего в бригаде Мадалинскаго и началось первое возмущение, так же и произшествие в Варшаве возпоследовало, что как в Белоруссии, так и Малороссии, так и во всей России хотели заводить подобной бунт и для того искали в Варшаве людей, которые бы могли быть к тому употреблены с успехом и завести связи с какими-нибудь большими и знатными фамилиями. А дабы подкрепить такое предприятие, то предполагая, что российские войски будут разбиты, надлежало бы польской армии итти тремя колоннами и из них одной прямо в Белоруссию, другой — в закордованной Россиею новой край, а третей — в пруския границы, над которою надлежало иметь команду пребывающему в Варшаве шведскому посланнику Толю. И когда в разсуждении диверсий сей пруския войски обратились бы на защищение оных, тогда австрийския впали бы в Силезию и разпростанилось бы таким образом пламя войны во всех местах тем больше, что в Берлине и Бреславле, что в Силезии в то же самое время открылось бы возмущение, в котором польские заговорщики имели великую надежду, и что в закордованном Россиею краю надлежало принять команду

над бывшими польскими войсками шефу Дзялинскому и под ним Прозору, которой был во французской службе офицером, а генерала Любовицкаго, лиша оной, застрелить.

Такие предположения о произведении в новоприсоединенных к России областях возмущения Прозор открыл умершему Вечфинскому, а он сказал ему, Павше...

*РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869, частка I. Л. 73 адв.–76 адв.*

[1] Пра смаленскае следства *гл.*: Макарова Г.В. Новые материалы о пребывании участников движения Т.Костюшко в России // Славяноведение. 1994. № 3. С. 43–50; Яна ж. Действия родственников и друзей, оказавшихся в России участников движения Тадеуша Костюшко, направленные на облегчение их участи //XVIII век: Славянские и балканские народы и Россия. М., 1998. С. 165–173; Анішчанка Я. Сакрэты Смаленскага следства // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. № 1. С. 53–56.
[2] Анішчанка Я. Статут жыцця Ясінскага // Маладосць. 1998. № 2. С. 223–226; Mościcki H. General Jasinski i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa, 1917. S. 116; Sułek Z. Sprzysięzenie Jakuba Jasienskiego. Warszawa, 1982. S. 48.
[3] Mościcki H. General Jasinski... S. 98, 108, 115; Sułek Z. Sprzysięzenie... S. 35, 40, 50–57.
[4] Sułek Z. Sprzysięzenie... S. 63, 66, 70, 71; Dubiecki m. Karol Prozor — obozny Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 1897. S. 167–170.

***Публікацыя Я.К.Анішчанкі***

## КАТАВАННІ Ў ТУРМАХ І ЛАГЕРАХ У ЧАС ПОЛЬСКАЙ АКУПАЦЫІ БЕЛАРУСІ 1919 — 1920 гг.

У ліпені бягучага года споўнілася 80 гадоў з дня выгнання польскіх акупацыйных войск з тэрыторыі Беларусі. Савецка-польская вайна, якая пачалася ў шырокіх маштабах вясною 1919 г. уварваннем легіёнаў «Начальніка дзяржавы Польскай» Юзафа Пілсудскага ў Беларусь, прынесла яе народу велізарныя эканамічныя і чалавечыя страты, незлічоныя бедствы і пакуты, пакалечыла лёсы многіх тысяч людзей. Захапіўшы за час з красавіка па жнівень 1919 г. амаль усю Беларусь (да лініі рэк Заходняя Дзвіна — Бярэзіна) і частку Украіны, польскія ўлады ўстанавілі на акупаваных землях жорсткі ваенна-адміністрацыйны рэжым, які, хоць і меў свае

асаблівасці, быў не менш крывавы за папярэдні германа-кайзераўскі акупацыйны рэжым 1918 г.

Польская акупацыя суправаджалася наўмысным разграбленнем нацыянальных багаццяў Беларусі, ваенна-палітычным тэрорам, гвалтоўнай паланізацыяй насельніцтва. Архівы захавалі мноства сведчанняў пра бясчынствы і зверствы польскіх салдат і афіцэраў у час захопу беларускіх гарадоў (Мінск, Бабруйск, Пінск і інш.), шматлікія пагромы яўрэйскага насельніцтва ў мястэчках, пра масавыя здзекі над сялянамі, расстрэлы без суда і следства пры правядзенні карных экспедыцый, розных рэквізіцый, збіранні падаткаў, свядомае разбурэнне прадукцыйных сіл пры адступленні з беларускіх тэрыторый.

У в. Дукоры пад Мінскам сялян, арыштаваных па падазрэнні ў сувязях з партызанамі (45 чал.), збівалі шампаламі, ім зашчамлялі ў дзвярах пальцы рук, заганялі пад ногці іголкі, апутвалі вязняў калючым дротам...

У в. Падарэссе каля Старых Дарог польскія салдаты падчас грабяжу забілі селяніна Раманчука — адсеклі яму галаву цесакамі; селяніну Сапляну разрэзалі жывот; селяніна Дзям’яна Кітліча кінулі ў агонь, Акуліну Малычка застрэлілі. У в. Дражня было забіта са зверскімі здзекамі 32 селяніны...

У в. Дзедава Ігуменскага павета большасць яе жыхароў seклі розгамі, ад чаго некалькі жанчын памерла...

У в. Коўшыцы Глускай воласці легіянеры прывязалі да хваста каня 85-гадовага старога, цягнулі яго па вуліцы, потым выкалалі вочы і паўмёртвага кінулі ў ручай...

Гэта толькі некаторыя выпіскі з матэрыялаў Камісіі па ацэнцы страт, нанесеных польскай акупацыяй беларускаму народу, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (Ф. 9. Воп. 1. С. 1–709). Значная частка іх — сведчанні пацярпелых ад бясчынстваў польскай ваеншчыны. Вядомы дзеяч беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху Антон Луцкевіч выдаў у ліпені 1920 г. у Вільні брашуру «Польская акупацыя Беларусі», напісаную непасрэдна па слядах падзей, якія адбываліся ў Беларусі ў час захопу яе легіёнамі Ю.Пілсудскага. На аснове абагульнення вялікага фактычнага матэрыялу аўтар зрабіў абгрунтаваны вывад аб тым, што «ўся буржуазная Польшча адкрыта пачала барацьбу з беларускім народам».

Далей друкуецца некалькі дакументаў, дзе паказана, да якой ступені страты чалавечай годнасці даходзілі ў гэтай барацьбе польскія жандары, турэмныя наглядчыкі і салдаты аховы, чынячы расправу над зняволенымі ў турмах і ў лагерах ваеннапалонных.

## Ліст палітычных зняволеных з Мінскай турмы ў ЦК КП(б) Літвы і Беларусі аб зверствах польскай турэмнай аховы

*(7 снежня 1919 г.)*

Неужели к Вам не доносятся крик и плач Ваших товарищей, которые томятся в польских тюрьмах города Минска? Неужели Вы не знаете о тех зверствах, которым подвергаются Ваши арестованные товарищи? Или, быть может, Вы об этом знаете, но не имеете возможности принять меры? Каждый вечер Минская контрразведка превращается в настоящую бойню: связывают политическим арестованным руки и ноги, как баранам, и обнаженные их тела зверски избивают железными прутьями. Чтобы они не кричали, завязывают рот тряпками. Даже женщины подвергаются тем же пыткам. Больные и слабые женщины запираются в холодных и темных одиночках. Каждый вечер повторяется та же экзекуция с другими политическими, и все арестованные каждый вечер находятся в крайне подавленном состоянии, ибо не знают, чья очередь придет сегодня. Это только один факт из многих пыток, которым мы подвергаемся.

Товарищи, мы из тюрьмы обращаемся к Вам и надеемся, что наше обращение повлияет на Вас. Созывайте немедленно собрание представителей всех социалистических партий, которые находятся в Минске. Устраивайте собрания-протесты, обращайтесь в Варшаву и Вильно... Не медлите, ибо каждый день приносит лишь жертвы.

Мы Вам посылаем платок, вымоченный в крови, как доказательство.

Получено из Минска
7 декабря [1919 г.].

С подлинным верно: Мицкевич-Капсукас[1]

*НАРБ. Ф. 4683. Воп. 3. Спр. 479. Копия.*

## Ліст былога зняволенага аб катаваннях у польскай турме г. Мінска

*(Не раней 2 чэрвеня 1920 г.)*

Вось жменя ведамасьцей аб тым, як польскія ўласьці ў Меншчыне абходзіліся з арыштаванымі і як вялі сьледства. Ніжэйпісаныя факты ўзяты з

[1] Міцкевіч-Капсукас В.С. (1880–1935), дзеяч міжнароднага рабочага руху, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Камуністычнай партыі Літвы, літаратар. У 1919 г. старшыня СНК Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (ЛітБел ССР). З верасня 1919 г. узначальваў Бюро па нелегальнай рабоце пры ЦК КП(б)ЛіБ. Рэдагаваў орган ЦК КП(б)ЛіБ газету «Звязда» (у Смаленску).

***Ю.У.Несцяровіч***

# БОЛЬШАСЦЬ АБ'ЁМУ — АРХЕАГРАФІЧНЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

*СКАРЫНІЧ. ЛІТ.-НАВУК. ГАДАВІК. Вып. 4 / Уклад. А.Каўка. — Мн., 1999. — 240 с.*

Асноўнае месца ў зборніку (звыш 3/4 яго аб'ёму) адведзена матэрыялам, звязаным з дзейнасцю беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша». Большасць з іх — дакументальныя: крыніцы па гісторыі ўтварэння «Узвышша» і сутнасці мастацка-эстэтычнай платформы яго (падрыхтаваны да друку Р.П.Платонавым); дакументы з рэгістрацыйнай справы «Узвышша», у якіх ёсць сведчанні аб дзейнасці яго прадстаўнікоў, а таксама Статут і спіс заснавальнікаў «Узвышша» (падрыхтаваны І.Курковым); перапіска ўдзельнікаў аб'яднання паміж сабою (падрыхтаваны Я.Кісялёвай, А.Бабарэкай і А.Гесь); 2 дакументы з судова-следчай справы, якую сфабрыкавалі на аб'яднанне карныя органы (падрыхтаваны А.Каўкам). Ці патрэбна нагадваць, што калі «Скарыніч» адносіцца да навуковых выданняў, то дакументальныя матэрыялы ў ім археаграфічна апрацоўваюцца.

Сярод іншых матэрыялаў зборніка выдзелім праграму курса (складзена Я.Дылам), які прачытаны ў БДУ ў 1925/26 навучальным годзе. Тэматычная структура гэтага курса носіць адбітак уплыву гістарыялагічных поглядаў У.І.Пічэты. Праграма з'яўляецца пэўнай крыніцай па гісторыі адукацыі і гістарычнай навукі на Беларусі. Сучасных гістарыёграфаў безумоўна зацікавяць такія пункты яе, як напрыклад: «Утварэнне літоўска-беларускай дзяржавы і паступовы яе рост у XIII–XV вв. Феадальна-федэрацыйны характар пабудаванай дзяржавы. Канстытуцыі краін: Віцебскай, Жамойцкай, Смаленскай, Кіеўскай і Валынскай» (с. 212). Паколькі дадзены курс меў назву «Гісторыя беларускай культуры», а фактычна з'яўляўся курсам па гісторыі Беларусі, то гэтая акалічнасць наводзіць на думку, што для складальніка ідэя панавання беларускай культуры ў мінулым пераважала над ідэяй існавання беларускай дзяржаўнасці.

У зборніку змешчаны і артыкул з рукапіснай спадчыны М.М.Улашчыка (адзін з апошніх яго арытыкулаў). Ён мае назву «Думкі пра мінулае і сучаснае». У ім класік нашай гістарычнай навукі спрабуе асэнсаваць паняцце Беларусі, вытокі ідэі беларускай нацыянальнасці, закранае крыху пытанне этнічнай гісторыі беларусаў (гл. стар. 216 — 217). Нататкі М.М.Улашчыка

дадаюць яскравую штрыхоўку да канцэпцыі беларускага нацыянальнага адраджэння.

***Ю.У.Несцяровіч***

## КРУТЫ ПАВАРОТ У ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

*НА КРУТЫМ ПАВАРОЦЕ: ІДЭОЛ.-ПАЛІТ. БАРАЦЬБА НА БЕЛАРУСІ Ў 1929 — 1931 гг. Дак., матэрыялы, аналіз / Аўт.-склад. Р.П.Платонаў. — Мн.: БелНДІДАС, 1999. — 385 с.*

Чарговая кніга доктара гістарычных навук, прафесара Расціслава Пятровіча Платонава з'яўляецца працягам вялікай тэмы, якую аўтар даследуе ўжо шмат гадоў, — грамадска-палітычнае і духоўнае жыццё Беларусі ў 20 — 30-я гады. Гэтай тэме ён прысвяціў шэраг кніг і артыкулаў, найбольш значныя з іх: «Палітыкі. Ідэі. Лёсы: Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20 — 30-х гг.» (Мінск, 1996), «Лёсы: Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20 — 30-х гг.» (Мінск, 1998).

У кнізе «На крутым павароце...» змешчаны вялікі дакументальны матэрыял, які ў асноўным упершыню ўведзены ў навуковы абарот, выяўлены пераважна ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, а таксама ў газетах, часопісах, іншых выданнях таго часу і ахоплівае храналагічныя рамкі гісторыі Беларусі 1929 — 1931 гг., г. зн. тры гады згрупаваны ў вялікія раздзелы. Назвы іх гавораць самі за сябе: «Напрамкі палітычнай кампаніі па знішчэнні іншадумства і забеспячэнні панавання монаідэалогіі»; «Узмацненне барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам і «кулацкімі ідэолагамі» ў ходзе калектывізацыі сельскай гаспадаркі»; «Ад выкрыцця нацыянал-дэмакратызму як ідэйна-палітычнай плыні да ліквідацыі яго як контррэвалюцыйнай арганізацыі».

«Гэтыя гады ў нядаўнім мінулым, — адзначае Р.П.Платонаў у сваёй «Прадмове», — вызначаліся афіцыйнай гістарыяграфіяй як перыяд пачатку разгорнутага наступлення сацыялізму па ўсім фронце на аснове рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі. Састаўною часткай яго была ліквідацыя «апошняга эксплуататарскага класа» — заможнага сялянства. Сёння шэраг гісторыкаў кваліфікуе той час як спецыфічны «пераварот у межах існаваўшай сістэмы, як своеасаблівую «рэвалюцыю зверху». Пачатая «крутым паваротам ва ўсёй палітыцы», абвешчаная І.В.Сталіным, яна прывяла Генеральнага сакратара і яго акружэнне да поўнага панавання ў краіне».

У цэлым жа, як мне здаецца, гутарка ідзе аб супраціўленні ўнутры кіраўніцтва ВКП(б) вызначанаму І.В.Сталіным «крутому павароту ва ўсёй палітыцы», які азначаў пачатак «сацыялістычнага наступлення па ўсяму фронту» ва ўмовах «абвастрэння класавай барацьбы» ў СССР.

Устанаўленне ў СССР у канцы 20-х гадоў асабістай дыктатуры І.В.Сталіна мела негатыўныя вынікі і для Беларусі. У 1929 — 1931 гг. па ўказанні з цэнтра (Масквы) на Беларусі праведзены рэпрэсіі супраць так званых нацыянал-дэмакратычных ухілістаў. Былі выключаны з партыі З.Х.Жылуновіч, У.М.Ігнатоўскі, Д.Ф.Прышчэпаў. Каля 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі арыштаваны і 90 з іх засуджаны па абвінавачваннях у контррэвалюцыйнай дзейнасці. Органы НКУС з гэтай мэтай спецыяльна інспіравалі падпольную арганізацыю «Саюз вызвалення Беларусі».

Цяжкімі вынікамі для беларускага народа была і калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Для яе правядзення з шэрагу гарадоў Расійскай Федэрацыі прысылаліся партыйныя і рабочыя актывісты, многія з якіх потым сталі старшынямі створаных калгасаў. У дапамогу ім былі прызваны мясцовыя актывісты, у большасці з бядняцкіх сем’яў. Супраціўленне сялян падаўлялася сілавымі метадамі.

Да кожнага раздзела кнігі аўтар дае грунтоўны аналітычны артыкул, дзе, трэба адзначыць, падрабязна разглядае тыя дакументы і матэрыялы, якія ўвайшлі ў яго. Дакументы пад грыфам «сакрэтна», «зусім сакрэтна», што надрукаваны, прысвечаны «разборам» ЦК КП(б)Б і яго Бюро верша беларускага паэта А.Дудара (Т.Глыбоцкага) «Пасеклі наш край папалам» (1929), «справаў» прафесара Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі І.А.Кіслякова, наркома земляробства БССР Д.Ф.Прышчэпава, намесніка наркома земляробства БССР А.Ф.Адамовіча, наркома асветы БССР А.В.Баліцкага, пісьменнікаў З.Х.Жылуновіча, М.Я.Зарэцкага (Касянкова), прэзідэнта БАН У.М.Ігнатоўскага, старшыні ЦВК БССР А.Р.Чарвякова, а таксама А.А.Сянкевіча, І.А.Васілевіча, А.Ф.Ульянава, А.В.Сташэўскага.

У канцы дакументаў і матэрыялаў аўтар дае грунтоўныя тлумачэнні, каментарыі і даведкі пра тыя ці іншыя падзеі, апісаныя ў дакуменце, ці біяграфічную даведку пра персаналію, якая ўпамінаецца ў кнізе.

Вернуты з небыцця вядомыя людзі Беларусі даваеннага часу — дзяржаўныя і партыйныя дзеячы, дзеячы літаратуры і мастацтва, ваенныя дзеячы і інш.

Асобныя персаналіі выпісаны так падрабязна, што іх смела можна даваць у энцыклапедычныя выданні.

Кніга з’яўляецца значным укладам у даследаванне праблемы — ідэолага-палітычная барацьба на Беларусі ў канцы 20 — пачатку 30-х гадоў. Гэта яскравы ўзор апісання і каменціравання дакументаў, а таксама прынцыпаў і метадаў выдання тэкставых гістарычных крыніц (эдыцыйная ці выдавецкая археаграфія). Як мы ўжо адзначалі, аўтар-складальнік, аўтар прадмовы, аналітычных тэкстаў і заўваг Р.П.Платонаў, археаграфічная апрацоўка тэкстаў дакументаў і матэрыялаў праведзена навуковым супрацоўнікам БелНДІДАС Я.С.Фалей. Паказальнікі імянны і геаграфічны, скарачэнні падрыхтаваны Р.П.Платонавым і Я.С.Фалей.

Дарэчы, імянны паказальнік утрымлівае звыш 320 пазіцый, геаграфічны мае шырокі абсяг усёй тэрыторыі СССР ад паўночных і сібірскіх гулагаў да Масквы, Ленінграда, Мінска і інш.

Кніга выйшла з друку вельмі невялікім тыражом (100 экз.) і адразу ж стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

***А.І.Валахановіч***

# ХРОНІКА

*Р.П.Платонаў*

## АРХЕАГРАФІЧНАЯ КАМІСІЯ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ ДАКУМЕНТАЗНАЎСТВА І АРХІЎНАЙ СПРАВЫ

*Кастрычнік 1999 г. — жнівень 2000 г.*

*28 кастрычніка 1999 г.* Калегія Дзяржкамархіва РБ прыняла пастанову «Аб Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству». На камісію ўскладзены распрацоўка сумесна з дзяржаўнымі архівамі і зацікаўленымі навуковымі і навучальнымі ўстановамі праграмы выдання дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь, каардынацыя публікатарскай дзейнасці дзяржаўных архіваў і зацікаўленых установ, навуковая распрацоўка праблем гісторыі і беларускай археаграфіі. Старшынёю камісіі зацверджаны намеснік дырэктара БелНДІДАС, доктар гістарычных навук, прафесар Платонаў Р.П., намеснікамі — загадчык аддзела археаграфіі БелНДІДАС, член Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь, кандыдат філалагічных навук Янушкевіч Я.Я., вядучы навуковы супрацоўнік аддзела архівазнаўства БелНДІДАС, дацэнт кафедры крыніцазнаўства і музеязнаўства Белдзяржуніверсітэта, кандыдат гістарычных навук Шумейка М.Ф., загадчык аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Дзяржкамархіва, кандыдат гістарычных навук Крук У.П. Вучоным сакратаром камісіі прызначаны навуковы супрацоўнік аддзела дакументазнаўства БелНДІДАС Несцяровіч Ю.У.

*24 лістапада 1999 г.* У Віцебску адбылася навукова-практычная канферэнцыя «90 гадоў Віцебскай вучонай камісіі», арганізаваная Дзяржаўным архівам Віцебскай вобласці, Віцебскім краязнаўчым музеем і БелНДІДАС. У працы канферэнцыі ўдзельнічалі члены бюро Археаграфічнай камісіі Дзяржкамархіва РБ Шумейка М.Ф., Крук У.П. і член камісіі Скалабан В.У.

*13 снежня 1999 г.* Бюро Археаграфічнай камісіі зацвердзіла план работы на 2000 год. Прадугледжваецца падрыхтоўка пытанняў для абмеркаван-

ня калегіяй Дзяржкамархіва РБ, правядзенне пленарных пасяджэнняў камісіі, арганізацыя навуковых канферэнцый, распрацоўка метадычных матэрыялаў, інфармацыйная праца.

*31 снежня 1999 г.* У адпаведнасці з пастановай калегіі Дзяржкамархіва РБ ад 23 снежня 1999 г. і калегіі ВАК Рэспублікі Беларусь ад 11 кастрычніка 1999 г. у БелНДІДАС дазволена адкрыццё аспірантуры. Прыём аспірантаў будзе праводзіцца па спецыяльнасцях: 05.25.02 — дакументалістыка, дакументазнаўства і архівазнаўства (гістарычныя навукі); 07.00.09 — гістарыяграфія, крыніцазнаўства і метады гістарычных даследаванняў (гістарычныя навукі).

*Снежань 1999 г.* З друку выйшаў зборнік «Первая Всебелорусская конференция архивных работников. 12–15 мая 1924 г. Документы и материалы». У ім змешчаны пратаколы пасяджэнняў канферэнцыі, яе рэзалюцыі, даклады, якія абмяркоўваліся, імянныя лісты ўдзельнікаў. Сярод публікацый даклад в. а. загадчыка Магілёўскага губернскага архіва і загадчыка археалагічнага і этнаграфічнага аддзела Магілёўскага музея Дз.І.Даўгялы (у далейшым сакратара Археаграфічнай камісіі Інстытута беларускай культуры) «Археографическая работа в Белоруссии». Матэрыялы канферэнцыі выдадзены Дзяржкамархівам, БелНДІДАС, Археаграфічнай камісіяй Дзяржкамархіва. Складальнік зборніка Шумейка М.Ф.

*Снежань 1999 г.* Выдадзены чацвёрты выпуск літаратурна-мастацкага штогодніка «Скарыніч», у рэдакцыйную раду якога ўваходзяць члены Археаграфічнай камісіі Запартыка Г.В., Каўка А.К., Скалабан В.У. Укладальнік — вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя М.Горкага, доктар філалагічных навук Каўка А.К. Выпуск прысвечаны спадчыне пісьменнікаў-узвышанцаў Адама Бабарэкі (на 100-я ўгодкі), Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Кузьмы Чорнага, Антона Адамовіча, Максіма Лужаніна. Надрукаваны некаторыя іншыя матэрыялы. Гадавік выдадзены МГА «Беларускі кнігазбор».

*Студзень 2000 г.* БелНДІДАС выдадзены «Очерки истории архивного дела в Беларуси (XV в. — 1991 г.). Аўтарамі з'яўляюцца члены Археаграфічнай камісіі С.У.Жумар, Д.У.Караў і М.Ф.Шумейка. Археаграфічным праблемам у кнізе прысвечаны заключны раздзел «Археографическая деятельность архивных органов и учреждений Беларуси в 1918–1990 гг.».

*27 студзеня 2000 г.* Калегія Дзяржкамархіва РБ зацвердзіла Палажэнне аб Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь. Паводле Палажэння, Археаграфічная камісія з'яўляецца ведамасным каардынацыйным, навукова-метадычным і

публікатарскім цэнтрам у галіне археаграфіі. У ім вызначаны накірункі яе дзейнасці, навуковыя сувязі, правы.

Зацверджаны таксама персанальны склад камісіі (51 чалавек). Яе члены прадстаўляюць Дзяржкамархіў РБ, дзяржаўныя архівы і навуковыя цэнтры галіны, акадэмічныя навукова-даследчыя інстытуты, вышэйшыя навучальныя ўстановы, некаторыя дзяржаўныя органы (Міністэрства народнай адукацыі, Міністэрства культуры, ВАК), грамадскія арганізацыі. Сярод членаў камісіі 11 дактароў і 21 кандыдат навук. Запрошаны прадстаўнікі археаграфічных камісій аддзялення гісторыі Расійскай акадэміі навук і Акадэміі навук Украіны.

У гэты ж дзень калегія прыняла пастанову аб выданні Археаграфічнай камісіяй і БелНДІДАС «Беларускага археаграфічнага штогодніка», яго тэматычнай структуры і складзе рэдакцыйнай калегіі. Галоўным рэдактарам зацверджаны старшыня Археаграфічнай камісіі, намеснік дырэктара БелНДІДАС, доктар гістарычных навук, прафесар Платонаў Р.П., намеснікам галоўнага рэдактара — дарадчык дырэктара БелНДІДАС, кандыдат гістарычных навук Скалабан В.У.

*8 – 9 лютага 2000 г.* Адбыліся міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Архівы Беларусі на рубяжы ХХ–ХХІ стст.: гісторыя, стан, перспектывы» і ІІ Беларуска-французскі архіўны семінар, арганізаваныя Дзяржкамархівам РБ, БелНДІДАС, Археаграфічнай камісіяй, гістарычным факультэтам Белдзяржуніверсітэта. У канферэнцыі, якая праходзіла ў будынку гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, прынялі ўдзел і выступілі з дакладамі старшыня Дзяржкамархіва РБ кандыдат гістарычных навук Міхальчанка А.М., намеснік кіраўніка Федэральнай архіўнай службы Расіі кандыдат гістарычных навук Тарасаў У.П., старшыня Дзяржкамархіва Украіны доктар гістарычных навук Пірог Р.Я., дырэктар УДНДІАСД кандыдат гістарычных навук Ляхоцкі У.П., дырэктар БелНДІДАС кандыдат эканамічных навук Фядосаў У.В., старшыня Археаграфічнай камісіі РБ доктар гістарычных навук Платонаў Р.П., загадчык кафедры крыніцазнаўства і музеязнаўства Белдзяржуніверсітэта доктар гістарычных навук, прафесар Сідарцоў У.Н., прафесар Анжэ (Францыя) Валеры Пуансот. Працавалі тры секцыі: «Праблемы архівазнаўства і археаграфіі», «Тэорыя і практыка архіўнай справы», «Архіўнае крыніцазнаўства». На іх пасяджэннях заслухана больш за 60 паведамленняў. Адначасова праблемы архівазнаўства, архіўнага крыніцазнаўства і гістарыяграфіі, найноўшых тэхналогій у падрыхтоўцы і дзейнасці гісторыкаў-архівістаў абмяркоўваліся ў секцыях другога беларуска-французскага семінара. Усяго ў канферэнцыі ўдзельнічала больш за дзвесце вучоных-архівістаў і гісторыкаў.

Прывітанне Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь удзельнікам канферэнцыі зачытаў старшыня Дзяржкамархіва РБ Міхальчанка А.М. Удзельнікаў канферэнцыі віталі ад імя рэктара Белдзяржуніверсітэта дэкан гістфака Яноўскі А.А. і саветнік па сувязях і супрацоўніцтву Пасольства Францыі ў Беларусі Франсуа Ларан.

*18 лютага 2000 г.* Па праграме рэспубліканскай выставы «Беларуская кніга–99», што была наладжана ў памяшканні нацыянальнага выставачнага цэнтра «БелЭКСПА», прайшла прэзентацыя кнігі Мікалая Улашчыка «Краязнаўства. Нататкі пра бадзянні ў 1924–1929 гг. З рукапіснай спадчыны», якая выйшла ў выдавецтве «Пейто» ў снежні 1999 г. На прэзентацыю сабраліся навуковыя работнікі, журналісты, супрацоўнікі выдавецтваў і інш. Вёў яе дырэктар выдавецтва Хурсік В.У. Аб жыццёвым і творчым шляху вядомага беларускага гісторыка, пісьменніка Мікалая Мікалаевіча Улашчыка, месцы ў яго спадчыне краязнаўства, аб гісторыі стварэння кнігі расказаў прысутным дарадчык дырэктара БелНДІДАС Скалабан В.У., які разам з загадчыкам аддзела рукапісных матэрыялаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа НАНБ Кісялёвай Я.М. падрыхтаваў яе тэкст і каментарыі да друку. Уражаннямі ад сустрэч з М.М.Улашчыкам і знаёмства з выдадзенай кнігай падзяліліся член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Мушынскі М.І., дактары філалагічных навук Мальдзіс А.І., Кісялёў Г.В. і інш.

*29 лютага 2000 г.* Старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь А.М.Міхальчанка зацвердзіў «Палажэнне аб аспірантуры пры Беларускім навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы». Паводле яго, прыём у аспірантуру будзе ажыццяўляцца з адрывам і без адрыву ад вытворчасці (вочная і завочная аспірантура). Устаноўлены таксама інстытут саіскальніцтва.

*Люты 2000 г.* У першым нумары навукова-практычнага часопіса «Архівы і справаводства» надрукавана пастанова калегіі Дзяржкамархіва Рэспублікі Беларусь ад 28 кастрычніка 1999 г. «Аб Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь». Часопіс адкрываецца артыкулам намесніка старшыні Археаграфічнай камісіі Дзяржкамархіва кандыдата гістарычных навук М.Ф.Шумейкі «Аб месцы і ролі архіваў і архівістаў у сучасных грамадстве і дзяржаве».

*27 сакавіка 2000 г.* Адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Археаграфічнай камісіі. На ім заслуханы інфармацыйны даклад старшыні Археаграфічнай камісіі доктара гістарычных навук, прафесара Р.П.Платонава аб працы бюро камісіі за перыяд з лістапада 1999 па сакавік 2000 г. уключна. У абмеркаванні даклада ўдзельнічалі: А.І.Мальдзіс, загад-

чык аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, доктар філалагічных навук, прафесар; В.Л.Насевіч, дырэктар БелНДЦЭД, кандыдат гістарычных навук; І.В.Саверчанка, намеснік дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, кандыдат філалагічных навук; Я.Я.Янушкевіч, загадчык аддзела археаграфіі БелНДІДАС, намеснік старшыні АК, кандыдат філалагічных навук; Г.Я.Галенчанка, загадчык аддзела спецыяльных гістарычных навук НАНБ, доктар гістарычных навук; М.Ф.Шумейка, дацэнт Белдзяржуніверсітэта, намеснік старшыні АК, кандыдат гістарычных навук; А.К.Галубовіч, дырэктар НГАБ; В.У. Скалабан, дарадчык дырэктара БелНДІДАС, намеснік галоўнага рэдактара «Беларускага археаграфічнага штогодніка», кандыдат гістарычных навук; У.І.Навіцкі, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі НАНБ, доктар гістарычных навук, прафесар; У.І.Адамушка, намеснік старшыні Дзяржкамархіва, кандыдат гістарычных навук. Па выніках абмеркавання прынята пастанова.

Членам камісіі былі прадстаўлены 28-я кніга «Літоўскай метрыкі», выдадзеная ў 2000 г. пад грыфам аддзела спецыяльных гістарычных навук НАНБ (кніга падрыхтавана старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАНБ В.С.Мянжынскім) і зборнік матэрыялаў навуковага семінара «Беларуска-ірландскія гістарычна-культурныя сувязі» (Мінск, 1999) пад назвай «Беларусь — Ірландыя», таксама надрукаваны ў 2000 г. (падрыхтаваны грамадскім аб’яднаннем «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў», Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны і Таварыствам «Беларусь–Ірландыя»).

Дырэктар БелНДЦЭД В.Л.Насевіч паведаміў, што ў Інтэрнэце адкрыта старонка Археаграфічнай камісіі.

*Сакавік 2000 г.* Пад грыфам БелНДІДАС выдадзены бібліяграфічны паказальнік «Расціслаў Пятровіч Платонаў (Да 70-годдзя з дня нараджэння)». У яго ўключаны працы, створаныя вучоным з 1953 па 1999 г. Складальнікі: Т.А.Самайлюк, В.У.Скалабан.

*Красавік 2000 г.* Пад грыфам Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобасці, Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы і Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь апублікаваны матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі «90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі», якая адбылася 24 лістапада 1999 г. у Віцебску. Зборнік падрыхтаваны да друку навуковымі супрацоўнікамі БелНДІДАС, членамі Археаграфічнай камісіі В.У.Скалабанам,

М.Ф.Шумейкам і загадчыцай аддзела Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці В.В.Шарэнда.

*3 мая 2000 г.* У актавай зале Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі прайшло пасяджэнне «круглага стала» «Мужнасць і трагедыя народа», прысвечанае 55-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Дыскусія вялася па тэме «Архівы як крыніцы напісання дакладнай гісторыі народай барацьбы ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Галоўная ўвага была нададзена праблеме мужнасці, праяўленай беларускім народам у абароне сваёй зямлі ад гітлераўскай навалы, і тых выпрабаванняў, якія выпалі на яго долю і не зламалі волі да супраціўлення і перамогі над ворагам.

Арганізатарамі «круглага стала» сталі БелНДІДАС, Археаграфічная камісія Дзяржкамархіва і НАРБ. У дыскусіі, акрамя супрацоўнікаў названых устаноў, удзельнічалі прадстаўнікі Белдзяржуніверсітэта, Мінскага педагагічнага універсітэта, Інстытута гісторыі НАНБ, Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні гісторыка-дакументальных хронік «Памяці», Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Беларускага рэспубліканскага фонда «Узаемаразуменне і прымірэнне».

*18 мая 2000 г.* У памяшканні Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння краязнаўца, гісторыка, мастацтвазнаўца, літаратуразнаўца Мікалая Іванавіча Каспяровіча (1900–1937). Канферэнцыю адкрыў старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь М.І.Міхальчанка. Уступнае слова «Дакументы Міколы Каспярвіча ў беларускіх архівах» зрабіла дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г.В.Запартыка. З паведамленнямі пра творчую і грамадскую дзейнасць М.І.Каспяровіча выступілі навукоўцы з Мінска, Масквы, ЗША. Для ўдзелу быў запрошаны з Навасібірска сын М.І.Каспяровіча А.М.Каспяровіч, які перадаў архіву-музею шэраг дакументаў і матэрыялаў пра свайго бацьку. Удзельнікі канферэнцыі наведалі Пухавіцкі раён — радзіму М.І.Каспяровіча.

БелНДІДАС выдаў да канферэнцыі каталог выставы «Усім вядомы Вам Мікола Каспяровіч...», падрыхтаваны Т.М.Махнач і В.У.Скалабанам. У «Каталогу» Інстытут пазначаны як адзін з арганізатараў выставы.

*21 чэрвеня 2000 г.* На пасяджэнні бюро Археаграфічнай камісіі падведзены вынікі працы ў першым паўгоддзі 2000 г. Было адзначана, што падрыхтаваны неабходныя матэрыялы для прыняцця калегіяй Дзяржкамархіва

рашэнняў па арганізацыі дзейнасці камісіі, яе складзе, выданні «Беларускага археаграфічнага штогодніка». Прынятыя рашэнні надрукаваны ў часопісе «Архівы і справаводства». Члены бюро ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы і правядзенні Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Архівы Беларусі на рубяжы XX–XXI стст.: гісторыя, стан, перспектывы развіцця», навукова-практычнай канферэнцыі «90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі». Адбылося пасяджэнне «круглага стала» «Мужнасць і трагедыя народа», прысвечанага 55-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У цэнтры дыскусіі былі праблемы крыніцазнаўчага аналізу архіўнай спадчыны, яе выкарыстання і публікацыі, ролі архіваў у напісанні верагоднай гісторыі барацьбы беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Завершана падрыхтоўка да выдання першага выпуску «Беларускага археаграфічнага штогодніка». У «Беларускім гістарычным аглядзе» («Беларускі гістарычны агляд». 1999. Т. 6. С. 1–2 (10–11)), газеце «Літаратура і мастацтва» («Літаратура і мастацтва». 2000, 10 сакавіка) надрукаваны інфармацыйныя матэрыялы аб стварэнні і першых кроках АК, яе старонка адкрыта ў сетцы Інтэрнэт.

Пэўныя цяжкасці ў дзейнасці камісіі на першым этапе звязаны са спробамі стварэння праграмы публікацый дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь. Належнай зацікаўленасці ў гэтым не праявілі ні архівы, ні навуковыя ўстановы. Шмат узнікае фінансавых і іншых праблем.

У пасяджэнні бюро ўдзельнічаў старшыня Дзяржкамархіва РБ М.А.Міхальчанка.

*Жнівень 2000 г.* БелНДІДАС выдадзена кніга: Улашчык М. Мемуары і дзённікі як крыніцы па гісторыі Беларусі. З рукапіснай спадчыны (86 с.). Укладальнікамі з’яўляюцца Я.М.Кісялёва і В.У.Скалабан. У гэтым навуковым выданні надрукаваны завершаныя разделы і падрыхтоўчыя матэрыялы з няскончанай кнігі пра мемуары і дзённікі па гісторыі Беларусі, над якой М.М.Улашчык працаваў у апошнія гады жыцця.

У гэтым жа месяцы ўбачыла свет кніга Р.П.Платонава «Белоруссия, 1941-й: известное и неизвестное» (209 с.), якая выйшла пад грыфам БелНДІДАС і НАРБ. Кніга прысвечана малавядомым старонкам Вялікай Айчынай вайны на тэрыторыі Беларусі. Напісана па матэрыялах НАРБ.

Абедзве кнігі разлічаны на навуковых работнікаў, гісторыкаў, краязнаўцаў, студэнтаў ВНУ, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

# ПАМЯЦІ ТАВАРЫША

## А.Л.МАНАЕНКАЎ

5 студзеня 1999 г. памёр беларускі гісторык і архівіст Аляксандр Лявонавіч Манаенкаў. Ён нарадзіўся 18 верасня 1926 г. у в. Нова-Галітава Ізбярдзееўскага раёна (цяпер Пятроўскага раёна) Тамбоўскай вобласці. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Да 1955 г. служыў у Савецкай Арміі. У 1960 г. скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта і стаў працаваць намеснікам дырэктара Цэнтральнага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў БССР. У 1961 – 1986 гг. быў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

Аўтар прац па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, удзельнічаў у складанні зборніка дакументаў «Злачынствы нямецка-фашысцкіх акупантаў у Беларусі. 1941 – 1944» (1963, 2 выд. 1965). Быў кіраўніком аўтарскага калектыву даведніка «Партызанскія фарміраванні Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 – ліпень 1944)» (1983), у якім на падставе архіўных дакументаў раскрыта арганізацыйная будова партызанскіх сіл, прыведзены гісторыя стварэння і развіцця атрадаў, брыгад, злучэнняў, даныя камандзіраў, камісараў і начальнікаў штабоў партызанскіх фарміраванняў, колькасны склад партызанаў. Даведнік з’яўляецца настольнай кнігай для даследчыкаў гісторыі партызанскага руху, архівістаў. Аляксандр Лявонавіч удзельнічаў у стварэнні 8-га, «партызанскага» тома Беларускай савецкай энцыклапедыі, быў навуковым кансультантам 1-га і 5-га тамоў кароткай энцыклапедыі «Беларуская ССР», энцыклапедыі «Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941 – 1945». Ён быў адзін з першых навукоўцаў і архівістаў, хто з канца 1970-х гадоў прыняў чынны ўдзел у распрацоўцы канцэпцыі шматтомнай серыі кніг «Памяць» і ажыццяўленні гэтага унікальнага выдання.

Аляксандр Лявонавіч выдатна ведаў дакументы са збораў былога партархіва, умеў працаваць з імі, выкарыстоўваць дзеля стварэння сапраўднай гісторыі партызанскага руху. Не маючы высокіх навуковых званняў і ступеняў, ён пакінуў пасля сябе не толькі шматлікія працы, але таксама вучняў і наступнікаў.

**В.Скалабан**

# Т.А.ВЕРАБ'ЁВА (ШЧУКІНА)

Вераб'ёва (Шчукіна) Тамара Анатольеўна (17.12.1932, Азербайджанская ССР, Зубаўскі раён, станцыя Аджы-Кабул — 26.01.1999, г. Мінск), гісторык-архівіст, археограф.

Нарадзілася ў сям'і рабочага. Бацька — Шчукін Анатоль Сяргеевіч працаваў машыністам, маці — Лідзія Антонаўна была хатняй гаспадыняй. У 1940 г. пайшла ў школу. У чэрвені 1944 г. пасля вызвалення станцыі Памашная Кіраваградскай вобл. Украінскай ССР ад нямецка-фашыскай акупацыі бацьку накіравалі туды на працу. Разам з ім пераехала і яго сям'я. Там Тамара Анатольеўна пайшла ў 5 клас Памашнанскай чыгуначнай СШ № 19, якую скончыла ў 1950 г.

У 1950 г. паступіла ў Маскоўскі дзяржаўны гісторыка-архіўны інстытут, у якім вучылася да 1955 г. У 1954 г. выйшла замуж за Вераб'ёва Аляксандра Васілевіча, з якім вучылася ў інстытуце. Пасля заканчэння МДГАІ разам з мужам была накіравана на працу ў г. Мінск.

Сваю працоўную дзейнасць Тамара Анатольеўна пачала ў жніўні 1955 г. З гэтага часу і да ліпеня 1959 займала пасаду навуковага супрацоўніка Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці. У ліпені 1959 г. яе пераводзяць на пасаду старшага навуковага супрацоўніка, а ў студзені 1964 г. Тамара Анатольеўна стала загадчыкам аддзела выкарыстання і публікацыі дакументаў Дзяржархіва Мінскай вобл. З пераводам Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР з г. Магілёва ў Мінск у красавіку 1965 г. яе накіроўваюць на працу ў ЦДГА БССР на пасаду загадчыка аддзела выкарыстання і публікацыі дакументаў. У гэты перыяд праявіліся яе здольнасці археографа і ўменне арганізоўваць публікацыйную працу. У сувязі з гэтым у красавіку 1975 г. яе пераводзяць у Галоўнае архіўнае праўленне пры СМ БССР, дзе ўзначальвала навукова-выдавецкі аддзел да ліпеня 1981 г. З ліпеня 1981 і да выхаду на пенсію ў 1988 г. з'яўлялася загадчыкам аддзела арганізацыйна-метадычнага і навукова-даведачнага апарату ГАУ БССР. Са студзеня 1979 — член калегіі ГАУ.

Вераб'ёва Т.А. прымала непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы зборнікаў дакументаў «Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861 — 1862 гг.», «Восстание в Литве и Белоруссии в 1863 — 1864 гг.», «Письма трудящихся Белоруссии В.И.Ленину», «Революционное движение в Белоруссии в 1907 — 1917 гг.», «Кооперативно-колхозное строительство в Белорусской

ССР 1917 — 1927 гг.». З'яўлялася адным з рэдактараў даведнікаў па Дзяржаўнаму архіву Мінскай вобл. і ЦДГА БССР. У час працы загадчыкам навукова-выдавецкага аддзела ГАУ БССР Вераб'ёва Т.А. непасрэдна арганізоўвала і прымала ўдзел у падрыхтоўцы і выданні 15 зборнікаў дакументаў па гісторыі Беларусі дарэвалюцыйнага і савецкага перыяду, сярод якіх: «Революционный авангард молодежи Западной Белоруссии», «Народное образование в БССР 1917 — 1928 гг.», «Мастацтва Савецкай Беларусі 1917 — 1941 гг.», «Восстановление народного хозяйства в БССР 1921 — 1925 гг.». Была адказным складальнікам зборнікаў «Библиотечное дело в БССР 1917 — 1941 гг.», «Развитие социалистического соревнования в БССР 1917 — 1941 гг.» і інш. Акрамя таго, яна друкавалася ў зборніку «Вопросы археографии в БССР».

Вераб'ёва Т.А. актыўна ўдзельнічала ў рабоце Навуковага савета і Метадычнай камісіі ГАУ БССР. Арганіўзовала і прымала ўдзел у навукова-даследчай рабоце архіўных устаноў рэспублікі, накіроўвала яе на вырашэнне праблем археаграфіі, архівазнаўства і дакументазнаўства.

Дзякуючы яе пошукам у архівах у навуковы абарот была ўведзена значная колькасць раней невядомых дакументаў па гісторыі Мінска, эканамічнага становішча беларускіх сялян, рабочых і рамеснікаў у Расійскай імперыі, развіцця адукацыі, культуры, аховы здароўя і інш. тэматыцы. На аснове выяўленых дакументаў яна падрыхтавала і апублікавала ў перыядычным друку сотні артыкулаў, правяла дзесяткі тэле- і радыёперадач.

За добрасумленную працу Тамара Анатольеўна ўзнагароджана ордэнам «Знак Почета» (1981), Граматай Врхоўнага Савета БССР (1972), медалямі «За доблестный труд в ознаменование 100-летия со дня рождения В.И.Ленина» (1970), «Ветеран труда» (1984), знакам «Отличник архивного дела» (1986).

Чалавек высокай культуры, выдатны арганізатар, высокакваліфікаваны спецыяліст, Вераб'ёва Т.А. унесла значны ўклад у развіццё архіўнай справы ў рэспубліцы.

***К.У.Вераб'ёва***

# В.С.ДАВЫДАВА

16 жніўня 2000 г. памерла Вера Сафронаўна Давыдава, беларускі вучоны, кандыдат гістарычных навук (1968), удзельніца партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Вера Сафронаўна нарадзілася 22 снежня 1918 г. ў в.Шарыпы Гарадоцкага павета Віцебскай губерні (цяпер Мяжанскі сельсавет Гарацоцкага раёна Віцебскай вобласці) у сям'і вясковых настаўнікаў. Беларуска. Член КПСС з 1946 г. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіла ў Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут, які скончыла з адзнакай у 1941 г. па спецыяльнасці гісторык-архівіст.

З ліпеня 1941 г. па ліпень 1942 г. працавала навуковым супрацоўнікам архіўнага аддзела УНКУС па Алтайскім краі ў г. Барнауле. У ліпені 1942 г. накіравана ў распараджэнне БШПД і пасля кароткатэрміновай падрыхтоўкі ў складзе групы падрыўнікоў адпраўлена ў тыл ворага ў Бягомльскі раён. З верасня 1942 г. пры ваенна-аператыўнай групе Барысаўскай партызанскай зоны ў якасці падрыўніка, са жніўня 1942 г. да жніўня 1943 г. палітрук дыверсійна-падрыўнога ўзвода партызанскай брыгады «Жалязняк» Бягомльскага раёна Мінскай вобласці, удзельнічала ў баях па разгроме нямецкіх гарнізонаў. У жніўні 1943 г. у сувязі з цяжкім захворваннем перапраўлена за лінію фронту ў эвакашпіталь на станцыі Моніна Маскоўскай вобласці, дзе лячылася да студзеня 1944 г. Са студзеня да сакавіка 1944 г. старшы навуковы супрацоўнік ЦГАОР СССР у г. Барнауле, у чэрвені 1944 — лютым 1945 г. начальнік Дзяржаўнага архіва Алтайскага краю ў г. Барнауле.

З 1945 г. уся працоўная і навуковая дзейнасць Веры Сафронаўны звязана з Беларуссю.

З сакавіка 1945 г. В.С.Давыдава начальнік філіяла ЦДГА БССР у г. Гродна, са студзеня 1951 г. начальнік арганізацыйна-метадычнага аддзела Архіўнага ўпраўлення МУС БССР, з чэрвеня 1956 г. старшы навуковы супрацоўнік, інструктар, загадчык сектара партыйнага архіва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Са студзеня 1966 г. кіраўнік групы сектара навуковых распрацовак матэрыялаў і афармлення адпаведных дакументаў па партызанскаму руху перыяду Вялікай Айчыннай вайны. З 1 красавіка 1969 г. загадчык сектара па распрацоўцы гісторыі ўсенароднай барацьбы на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1968 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Падпольная партыйная арганізацыя Мінска ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у першы перыяд Вялікай

Айчыннай вайны». З 7 жніўня 1974 г. персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння.

Знаходзячыся на заслужаным адпачынку, Вера Сафронаўна працягвала працаваць навуковым супрацоўнікам сацыялагічнай лабараторыі БДУ імя У.І.Леніна да лютага 1989 г.

Вера Сафронаўна грунтоўна вывучала гісторыю партыйнага падполля ў г. Мінску ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Яна прымала ўдзел у напісанні асобных тэкстаў 1-га тома 3-томнай працы «Всенародная борьба против немецко-фашистских захватчиков в Белоруссии в период Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Мн., 1983; адзін са складальнікаў зборніка «Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Документы и материалы. 1917—1957». Мн., 1957. Т. 1, 2; складальнік зборніка дакументаў «Письма трудящихся Белоруссии В.И.Ленину» (Мн., 1961); прымала ўдзел у выданні зборніка «Революционное движение в Белоруссии. 1905—1907 гг. Документы и материалы». Мн., 1955; адзін з аўтараў кнігі «Наша «Звязда». 1917—1967», Мн., 1968 (у сааўтарстве з С.З.Пачанiным); аўтар артыкула «В битве за Отечество» ў кнізе «Герои подполья. О подпольной борьбе советских патриотов в тылу немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны». Выпуск первый. Четыре издания. М., 1961—1972; аўтар дакументальных матэрыялаў пра Я.В.Клумава і І.П.Казінца ў шматтомным выданні «Люди легенд. Очерки о партизанах и подпольщиках Героях Советского Союза». М., 1968, 1974; і інш. Падрыхтавала і надрукавала звыш 30 навуковых артыкулаў у БелСЭ.

Узнагароджана двума ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, медалямі «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945», «За доблесную працу ў азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У.І.Леніна», інш. медалямі; двума Ганаровымі граматамі і Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Светлая памяць пра Веру Сафронаўну назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, каму пашчасціла ведаць яе, працаваць з ёю, вырашаць тыя ці іншыя пытанні.

***Група таварышаў***

# НАШЫ АЎТАРЫ

**Адамушка** Уладзімір Іванавіч, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.

**Анішчанка** Яўген Канстанцінавіч, старшы навуковы супрацоўнік аддзела спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі НАНБ, кандыдат гістарычных навук.

**Валахановіч** Анатоль Іосіфавіч, старшы навуковы супрацоўнік рэдакцыйна-выдавецкага аддзела БелНДІДАС.

**Вераб’ёва** Кацярына Уладзіславаўна, архівіст НАРБ.

**Галубовіч** Ала Купрыянаўна, дырэктар Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

**Гарбачоў** Генадзь Леанідавіч, загадчык аддзела аўтаматызаваных архіўных тэхналогій БелНДІДАС.

**Груша** Алесь Іванавіч, вядучы палеограф Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

**Жумар** Сяргей Уладзіміравіч, загадчык аддзела архівазнаўства БелНДІДАС, кандыдат гістарычных навук.

**Запартыка** Ганна Вячаславаўна, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

**Карлюкевіч** Алесь Мікалаевіч, галоўны рэдактар газеты «Чырвоная змена».

**Кісялёў** Генадзь Васілевіч, галоўны навуковы супрацоўнік аддзела старажытнасцей і новай літаратуры Інстытута літаратуры НАНБ, доктар філалагічных навук.

**Міхальчанка** Аляксандр Мікалаевіч, старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.

**Мушынскі** Міхаіл Іосіфавіч, член-карэспандэнт НАНБ, загадчык аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры НАНБ, доктар філалагічных навук.

**Несцяровіч** Юрый Уладзіміравіч, старшы навуковы супрацоўнік аддзела археаграфіі БелНДІДАС, кандыдат гістарычных навук.

**Новікаў** Сяргей Яўгенавіч, загадчык кафедры гісторыі і беларусазнаўства Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

**Платонаў** Расціслаў Пятровіч, намеснік дырэктара БелНДІДАС, доктар гістарычных навук, прафесар.

**Ракашэвіч** Уладзіслаў Канстанцінавіч, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела археаграфіі БелНДІДАС, кандыдат гістарычных навук.

**Рыбчонак** Сяргей Аляксандравіч, загадчык аддзела інфармацыі, публікацыі і навуковага выкарыстання дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

**Свяжынскі** Уладзімір Мітрафанавіч, старшы навуковы супрацоўнік аддзела спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі НАНБ, кандыдат філалагічных навук.

**Селяменеў** Вячаслаў Дзмітрыевіч, дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.

**Скалабан** Віталь Уладзіміравіч, намеснік дырэктара Навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, кандыдат гістарычных навук.

**Спірыдонаў** Міхаіл Фёдаравіч, старшы навуковы супрацоўнік аддзела спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі НАНБ, кандыдат гістарычных навук.

**Тоўсцік** Аркадзь Афанасьевіч, галоўны спецыяліст грамадскага аб’яднання «Беларускі фонд культуры», сакратар камісіі «Вяртанне».

**Фядосаў** Уладзімір Васілевіч, дырэктар БелНДІДАС, кандыдат эканамічных навук.

**Шумейка** Міхаіл Фёдаравіч, дацэнт кафедры крыніцазнаўства і музеязнаўства Белдзяржуніверсітэта, кандыдат гістарычных навук.

# ЗМЕСТ

